ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

29 красавіка 1994 г. № 17 (3739) Кошт 150 руб.

## ТРЫ ГАДЗІНЫ Ў БЫЛЫМ КАБІНЕЦЕ ЦАНАВЫ

***Старшыня КДБ Генадзь ЛАВІЦКІ: «Мы жывём у посткамуністычным грамадстве, і паводзіць сябе трэба адпаведна з гэтай акалічнасцю. Вельмі важна ў такіх абставінах умець пераламіць сябе. Калі гэтага ўпарта не жадае рабіць радавы грамадзянін, дык бог яму суддзя. А калі службовая асоба, ды яшчэ ў органах дзяржаўнай бяспекі?.. Трэба пераходзіць ад ідэалагізаванай спецслужбы да спецслужбы радыкальна дэпартызаванай».***

**5, 12**

## КАТАРСІС, ЦІ ЭЛЕГІЯ АДРАДЖЭННЯ

***Язэп ПАЛУБЯТКА: «Ты хутка ўпэўнішся, што твае намаганні дарэмныя. Простыя людзі не будуць разумець цябе. Нават не захочуць слухаць. Яны будуць абыякавыя да ўсяго таго, ад чаго табе баліць сэрца. Вельмі хутка ты зразумееш, што твая любоў да свайго народа — звычайнае няспраўджанае каханне».***

**9**

## «ЗАКЛЁН НА СКРУТНЫ ВІР»

***З новай кнігі Анатоля ВЯЛЮГІНА***

**8—9**

## УСЁ — АД ЧАЛАВЕКА

***Гомельскія паратэатральныя ўражанні Рычарда СМОЛЬСКАГА***

**10—11**



## КРЭСЛА ДЛЯ ПРЭЗІДЭНТА

**Неяк не паварочваецца язык назваць трон «мэбляй», хоць гэта ўсяго толькі крэсла, упрыгожанае дзяржаўнай сімволікай. У адрозненне ад трона манарха, крэсла прэзідэнта выглядае менш манументальна, больш дэмакратычна. Іншы статус — іншы вобраз. Кароль падкрэслівае, што ён дадзены краіне звыш, «ад Бога», прэзідэнт —сувязь з людзьмі паспалітымі. Праўда, на Беларусі, дзе шляхта і да Папы Рымскага часам звярталася і папросту — «пане браце», альбо «бацька родны», адпаведным было і стаўленне да трона. Да таго, як Беларусь (Літва) трапіла пад маскоўскую акупацыю, у Рэчы Паспалітай, нашай федэратыўнай дзяржаве, караля абіралі як прэзідэнта і маглі, калі што, пазбавіць пасады, як спікера парламента. Як напамінак аб тых часах — гэтая мастацкая кампазіцыя. Яна мае назву «Годнасць». Крэсла з разной «Пагоняй» (у палітычным кантэксце сённяшняга дня хочацца назваць яго «крэслам прэзідэнта»); Статут Вялікага княства Літоўскага, які сімвалізуе дзяржаўнасць і законнасць; шляхецкая шабля — знак гонару і вайсковай доблесці; тканы пас — народная традыцыя. Завяршэнне кампазіцыі — вялікакняская карона Літвы (Беларусі). Калі пра гэта будзем памятаць мы ў часе прэзідэнцкіх выбараў, дык не зможа гэта забыць на сваёй пасадзе і абраны намі Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь.**

**П.В.**

***Твор быў прадстаўлены на выставе мастацкай суполкі «Пагоня». Матэрыял аб ёй чытайце на стар. 4.***

# ЛІМ КОЛА ДЗЁН

***Чатыры дні падзяляюць 26 красавіка і І траўня — чарнобыльскую трагедыю, якая стала для беларускага народа крыжовай пакутай, і Вялікдзень, свята Уваскрэшання Хрыстова. Бог даў пакуту і Бог даў надзею. Чарнобыльскім шляхам Беларусь ідзе да Адраджэння.***

## ЗАГАЛОВАК ТЫДНЯ

«Лепш Пазняк, чым ніколі!»
*(«Свабода», 26 красавіка — 2 траўня)*

## ПУБЛІКАЦЫЯ ТЫДНЯ

Артыкул Уладзіміра Заблоцкага, народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь, намесніка старшыні Камісіі па навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе ВС Беларусі «Канстытуцыя, дзяржаўнасць, перагаворы і... мана» *(«Народная газета», 23 красавіка).*

«Нібыта не ўпершыню сутыкаешся з манаю. Нібыта вастрыня ўспрымання павінна была б знізіцца, але не атрымліваецца. Думаеш, няўжо тым, хто грашыць, зноў усё сыдзе з рук?» — гэтымі словамі распачынае аўтар аналіз падпісанага ў Маскве дагавора аб «аб'яднанні» грашовых сістэм Беларусі і Расіі. Разглядаючы гэты дакумент паартыкульна, У.Заблоцкі пераканаўча даводзіць, што «аб'яднанне» — замах на Канстытуцыю Беларусі, на дзяржаўны лад і суверэнітэт нашай краіны. Але ці пачуюць (ці захочуць пачуць) народныя дэпутаты заклік «абараніць канстытуцыйны лад ад замахаў такога ўрада»?

## АБСУРД ТЫДНЯ

Сродкі масавай інфармацыі распаўсюдзілі заяву прэм'ер-міністра аб тым, што «ўрад рэспублікі прыняў рашэнне штомесячную кватэрную плату не павышаць, з гэтага часу будзе павышацца толькі заработная плата...» Падобную бухгалтэрыю мы ўжо бачылі ў аперэце «Вяселле ў Малінаўцы», дзе «казначэй» атамана Грыцыяна Папандопула з Адэсы раздорваў «грошы» са сваім подпісам, гаворачы: «Бери все, я себе еще нарисую». Калі б можна было пускаць у абарот усё новыя і новыя нічым не падмацаваныя банкноты, і пры гэтым пазбегнуць інфляцыі і росту цэн — такое адкрыццё было б вартым Нобелеўскай прэміі. Дарэчы, сп. Кебіч ужо абяцаў нам не павышаць цэны на хлеб...

Але, магчыма, уласна кватплата (арэндная плата за карыстанне жылой плошчай) і не будзе некаторы час павышацца. «Недабранае» тут урад возьме праз камунальныя паслугі, што ідуць па іншай ведамасці. Ніхто ж не абяцаў спыніць рост цэн на электрычнасць, газ, ваду.

## ЗАБАРОНА ТЫДНЯ

Калі нехта ў Францыі скарыстае ангельскае слова замест наяўнага французскага ў разнастайных дакументах, рэкламе, шыльдах, дык гэта будзе яму каштаваць ад 1000 да 20000 франкаў (каля 170—3450 долараў). Такі закон ухвалены верхняй палатай французскага парламента. Для кантролю за выкананнем закона будзе сачыць спецыяльная «моўная паліцыя».

## ЛІЧБА ТЫДНЯ

У перадвыбарчай барацьбе ўжо бяруць удзел 19 прэтэндэнтаў на пасаду Прэзідэнта Беларусі. У гэтым спісе і асобы, чые імёны ва ўсіх на слыху, і такія «экзоты», як нехта «временно неработающий» Ліцкевіч і «яцвяг» Шаляговіч.

## АВАРЫЯ ТЫДНЯ

На мінулым тыдні прарвала дамбу ачышчальных збудаванняў шклозавода «Нёман» у Бярозаўцы. 40 тысяч кубаметраў забруджаных сцёкаў памкнула на горад. Затоплены 174 прыватныя дамы, падворкі, студні. Людскіх ахвяр няма, матэрыяльныя страты яшчэ не падлічаны. Пра аварыйны стан дамбы ведалі даўно.

## КРАДЗЁЖ ТЫДНЯ

У вайсковай часці 2156І, што дыслацыруецца ў Кісялевічах (Бабруйскі раён), скрадзены дзве скрыні, у якіх было 40 гранат Ф-І з запаламі. Камандаванне часці толькі праз тыдзень пасля кражы звярнулася ў праваахоўныя органы.

## «ДОБРАСУСЕДСТВА» ТЫДНЯ

Польшча мае намерануляваць пагадненне аб бязвізавым уездзе на сваю тэрыторыю турыстаў з СНД (а значыць, і з Беларусі). Рашэнне аб гэтым рыхтуецца ў польскім Міністэрстве замежных спраў. Чым больш выразна Беларусь паварочваецца на ўсход, тым больш рашуча перад ёю зачыняюць дзверы на Захад.

## САЛІДАРНАСЦЬ ТЫДНЯ

Сусветная Канфедэрацыя працы (яе штаб-кватэра ў Брусэлі) даслала на імя М.Грыба, В.Кебіча, В.Шаладонава пратэст з прычыны рэпрэсій супраць актывістаў Свабоднага прафсаюза Беларусі.

## ВІЗІТ ТЫДНЯ

Дэлегацыя Рэспублікі Беларусь на чале са Старшынёю ВС М.Грыбам наведала Еўрапарламент у Страсбургу. На думку кіраўніка дэлегацыі, наспела неабходнасць усталявання цяснейшых сувязей з Еўрапейскім саюзам. У хуткім часе ў Страсбургу пачне працу беларускі пасол пры Еўрапарламенце Уладзімір Лабуноў.

Пасля Страсбурга дэлегацыя брала ўдзел у міжнароднай канферэнцыі ў Бухарэсце.

## ПАЛЕМІКА ТЫДНЯ

Газета «Известия» (Расія) змясціла 23 красавіка пад агульным загалоўкам «Домотканый социализм с запашком портянок» змясціла дзве публікацыі: артыкул Уладзіміра Жырыноўскага «О собирательской роли России и молодых волках» і журналіста «Известий» Ота Лацiса «Капкан для молодых волков».

Артыкул Жырыноўскага ўжо атрымаў скандальны рэзананс у расійскай Думе. У артыкуле прапаноўваецца «закрыць» у Расіі аўтаномныя рэспублікі і тэрмінова замест іх аднавіць губерні на чале з губернатарамі, ператварыць у губерні краіны СНД і Балтыі — аднавіць «великое государство, империю образца 1990 года», аднавіць Расію ў межах СССР на губернскім прынцыпе. А потым — «бросок на юг, к Индийскому океану».

Ота Лацiс праводзіць паралелі паміж абяцанкамі, якія даваў немцам Гітлер, і абяцанкамі расійцам Жырыноўскага. Прыгадвае словы з чытацкага ліста ў рэдакцыю: «Страна, которая собирается жарить бифштекс на пожарах соседей, сама превратится в пепелище».

Так, ёсць у Расіі і разумныя, разважлівыя людзі. Але ці здолеюць яны стрымаць Жырыноўскага, які рыхтуецца да «броска» ў крэсла прэзідэнта Расіі, саму Расію ад спаўзання ў фашызм?



З нагоды

# ЛЕТА: ЧАС ВЫБІРАЦЬ ПРЭЗІДЭНТА

У аўторак, увечары, з тэлевізійнага экрана быў зачытаны зварот Старшыні Савета Міністраў РБ сп. Кебіча да беларускага народа з нагоды пачатку... паказу па Беларускім тэлебачанні шматсерыйнага фільма «Семнаццаць імгненняў вясны». Прэм'ер-міністр пажадаў ветэранам Вялікай Айчыннай вайны, партызанам і падпольшчыкам прыемнай сустрэчы са штандартэн-фюрэрам СС Максам Ота фон Шцірліцам, чый вобраз (артыст В.Ціханаў) увасабляе непарушнае братняе адзінства расійскага і беларускага народа і натхняў сп. Кебіча на падпісанне Дагавора аб аб'яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расіі. Сёй-той называе дагавор злачынствам супраць Беларускай дзяржавы, але сп. Кебіч мяркуе інакш: падпісанне дагавора — сведчанне таго, што ўрад на чале з прэм'ерам нарэшце стаў на шлях ацвеpазення, і хоць дарога не роўная, і ногі не ідуць — рухаецца наперад. Вось такі прыкладна змест звароту.

Спачатку мне падалося, што гэта «Пяць хвілін на жарты». Але, на жаль, гэта вельмі сур'ёзна і таму — страшна. Калі прэм'ер-міністр трымае ў сваім апараце людзей, якія пішуць яму такія тэксты, дык гэта ставіць пад сумненне і ягоны інтэлект. А ён жа, між іншым, яшчэ і прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта.

Увогуле тэма рублёвай зоны дамінуе ва ўсіх публічных прамовах сп. Кебіча. Ці то ён прыйдзе на сход міліцыянтаў, ці на сустрэчы з медыкамі, ці запросіць у свае апартаменты прадстаўнікоў маладзёжных арганізацый, — усюды будзе гучаць адно і тое ж: «Без Расіі нам не выжыць. Аб'яднанне грашовых сістэм — адзіны ратунак». Кажуць, шмат песень у мядзведзя і ўсе яны пра мёд. Дадам, шмат казак у прэм'ера, а любімая — пра рубель.

Пра тое ж самае гаварыў Вячаслаў Францавіч і на Гомельшчыне, куды ён ездзіў па галасы выбаршчыкаў. А была тая вандроўка якраз пад чарговую гадавіну чарнобыльскай катастрофы. Калі ўсім прэм'ер-міністр абяцае шчаслівае жыццё пад расійскім рублём, дык для медыкаў Гомельшчыны зрабіў выключэнне: іх ён збіраецца ашчасліваць амерыканскім доларам. Трэцюю частку таго, што дасць (магчыма) Беларусі Міжнародны валютны фонд, — 40 мільёнаў долараў са 120 — урад плануе перадаць на патрэбы аховы здароўя ў нашай краіне.

Расійскі рубель, амерыканскі долар, льготны крэдыт, гуманітарная дапамога — усё гэта не можа вырашыць нашы праблемы, вывесці краіну з эканамічнага крызісу. Мне асабіста хацелася б бачыць на пасадзе прэм'ера і на пасадзе прэзідэнта не таго, хто спадзяецца на «добрага дзядзьку» з рублём альбо доларам у кішэні, чый галоўны клопат — размеркаванне паміж нашымі жабракамі замежных падарункаў, а чалавека, які мае ўласны розум і ўласны гонар. Палітыка, які гатовы выслухаць апанента і даць канкрэтны адказ на канкрэтнае пытанне, нават калі пытанне вельмі непрыемнае.

Нельга галасаваць за таго, хто хавае вочы, калі ў яго пытаюцца «дзе абяцанае?», і няўцямна мармыча, што ён нічога такога не абяцаў, што яго не так зразумелі.

Нагадаю, што ў сваім артыкуле «Видеть истину. К договору об объединении денежных систем Беларуси и России» сп. Кебіч старанна абыходзіць вострыя вуглы, ніяк не рэагуе на сур'ёзныя прэтэнзіі да яго як да палітыка і эканаміста. Відаць, чым бліжэй да выбараў, тым часцей мы будзем бачыць па тэлевізары Івана Антановіча, якога лічаць за дырыжора Кебічавай каманды. Іван Іванавіч зрабіў сабе кар'еру на выкрыцці хібаў буржуазнага ладу і яго няправільнай ідэалогіі. Ён увогуле адзін з нямногіх людзей у асяродку прэм'ера, хто ўмее складна гаварыць на якую заўгодна тэму і, калі трэба, «лагічна» абгрунтаваць які заўгодна абсурд. Але і яго часам заносіць. Так, выступаючы нядаўна па тэлебачанні са сваімі меркаваннямі адносна шанцаў на поспех асноўных кандыдатаў у прэзідэнты (на ягоную думку, гэта Кебіч, Лукашэнка, Шушкевіч, Пазняк — менавіта ў такой паслядоўнасці), сп. Антановіч прыпісаў лідэру БНФ словы: «Мы должны ненавидеть русских». Антановіч чалавек дасведчаны і цудоўна ведае, што нічога падобнага лідэр БНФ не гаварыў, не пісаў, не выказваў нават у форме намёку. І тым не менш дазваляе сабе гаварыць такое на палітычнага апанента на вачах многіх тысяч тэлегледачоў.

Ну, а сам спадар Кебіч? У памянёным артыкуле ён абвінавачвае дэмакратычную апазіцыю ў Вярхоўным Савеце і сілы, якія стаяць за ёю ў грамадстве, у прад'яўленні тэрытарыяльных прэтэнзій да ўсіх без выключэння суседніх з намі краін. Калі б мы жылі ў прававой дзяржаве, прэм'ер бы больш узважваў свае словы. Але мы жывём у РБ, а гэтую абрэвіятуру часам расшыфроўваюць як «Рэспубліка бальшавікоў».

Здаецца, прэм'ер-міністр не надта баіцца сваіх інтэлігентных канкурэнтаў — З.Пазняка і С.Шушкевіча. Бо, як выхаванец сваёй партыі, ён арыентуецца ў сваёй палітыцы на люмпен. Дастаткова прыгадаць, што гаварыў пра інтэлігенцыю Ленін, каб зразумець, што думае пра яе спадар «рэальны прэтэндэнт». А каго баіцца Кебіч, дык гэта Лукашэнкі. Бо яны ці не падобныя. У прыгаданым тэлекаментарыі Антановіч гаварыў пра Аляксандра Рыгоравіча з насцярожанай павагай і нават выказаў меркаванне, што пры прэзідэнце Кебічу Лукашэнка можа быць віцэ-прэм'ерам, а то і прэм'ер-міністрам. Толькі ці даруе сп. Кебіч Аляксандру Рыгоравічу свае нервовыя стрэсы, бо ніяк не чакаў ён, што гэты вясковец будзе ягоным канкурэнтам на выбарах, што будзе парушаць «субардынацыю». Але сёння з тактычных меркаванняў можна абяцаць усё і ўсім.

Пасля першага паказу па тэлебачанні тэлесерыяла «Семнаццаць імгненняў вясны» замацавалася ў гутарковай мове словазлучэнне «інфармацыя для роздуму». Шмат інфармацыі для роздуму дае дзейнасць «самага рэальнага прэтэндэнта» на пасаду прэзідэнта. Інфармацыю для роздуму не толькі гісторыкам, сацыёлагам, псіхолагам, але і нам, людзям простым, паспалітым. Не варта быць нам абыякавымі. Хутка лета. А калі зіма, згодна рэкламы, «время пить Херши», дык лета — час выбіраць Прэзідэнта.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

**P.S. 27 красавіка распачалася чатырнаццатая пазачарговая сесія Вярхоўнага Савета Беларусі. На ёй будзе абмеркаваны шэраг пытанняў, што маюць прамое ці ўскоснае дачыненне да прэзідэнцкіх выбараў.**

**П.В.**

# ЧАРНОБЫЛЬСКІМ ШЛЯХАМ...





*Дабрачынную акцыю прымеркавалі да 8-й гадавіны катастрофы на ЧАЭС дзеячы мастацтва, прадстаўнікі творчых саюзаў. Назваўшы гэтую акцыю «Чарнобыльскі шлях», яны скіравалі свой маршрут па найбольш пацярпелых ад радыяцыі раёнах, каб дадтрымаць маральны дух гаротных жыхароў «зоны». Кампазітар І. Лучанок і дырэктар аб'яднання творчых саюзаў моладзі Беларусі К. Копелева пагаварылі з вясковымі гаспадынямі пра іх праблемы. А саліст ДАВТа В. Стральчэня, наведаўшыся ў родную вёску, што ў Добрушскім раёне, пабачыўся са сваёй школьнай настаўніцай Т. У. Маркоўскай.*

*Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛІНФАРМ*

# ДАЙЦЕ ПАБУДАВАЦЬ ХРАМ!

У мінулы чацвер Беларускі эвангелічны рэфармацкі збор ладзіў пікет на плошчы Незалежнасці ля будынка гарвыканкама. Рэфармацкая кангрэгацыя пратэстуе супраць палітыкі дзяржаўнага вандалізму, якая ў савецкі час выяўлялася ў русіфікаванні храмаў, а цяпер — у стварэнні штучных перашкод у дзейнасці канфесій і асобных рэлігійна-культурысцкіх арганізацый, якія стаяць на пазіцыях незалежнасці і нейтралітэту Рэспублікі Беларусь.

Прыкладам гэтага могуць служыць тыя факты, што пабудаваны пратэстантамі храм у Заслаўі перададзены ва ўласнасць Рускай праваслаўнай царквы; што рэфармацкая кангрэгацыя ніяк не можа атрымаць ад улад дазволу на аднаўленне свайго зруйнаванага храма ў Кухцічах. І галоўнае — гарадскія ўлады ўжо некалькі год не могуць вырашыць пытанне аб выдзяленні пляцоўкі пад будаўніцтва храма ў сталіцы. А між тым рэфармацкі збор у Мінску існаваў з 1556 года.

**П.В.**

# XI З'ЕЗД ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

*27—28 красавіка ў Доме літаратара праходзіў XI з'езд пісьменнікаў Беларусі.*

*Уступным словам з'езд адкрыў народны паэт Беларусі Максім Танк.*

*Дэлегаты з'езда мінутай маўчання ўшанавалі памяць літаратараў, якія памерлі паміж X і XI з'ездамі.*

*Былі выбраны прэзідыум з'езда, яго сакратарыят, рэдакцыйная і мандатная камісіі. Дэлегаты зацвердзілі парадак дня з'езда.*

*Міністр культуры і друку Рэспублікі Беларусь Анатоль Бутэвіч зачытаў прывітанне ўдзельнікам з'езда Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Ф. Кебіча.*

*Былі заслуханы даклады: «Саюз пісьменнікаў Беларусі: пытанні жыцця і дзейнасці (дакладчык — старшыня Саюза пісьменнікаў Васіль Зуёнак), «Літаратура і час» (дакладчык — намеснік старшыні Уладзімір Паўлаў), «Пад знакам Адраджэння. Творчыя пытанні ў рабоце Дома літаратара» (дакладчык — намеснік старшыні Алесь Пісьмянкоў).*

*Была заслухана справаздача праўлення Беллітфонду, якую зрабіў выконваючы абавязкі старшыні яго праўлення Яўген Каршукоў.*

*Са справаздачамі выступілі старшыня рэвізійнай камісіі Саюза пісьменнікаў Беларусі Вячаслаў Рагойша, старшыня рэвізійнай камісіі Беларускага літаратурнага фонду Генадзь Пашкоў.*

*У абмеркаванні дакладаў прынялі ўдзел Ніл Гілевіч, Сяргей Законнікаў, Алег Лойка, Генрых Далідовіч, Данута Бічэль-Загнетава, Алесь Барскі (Польшча), Вячаслаў Адамчык, Аляксей Слесарэнка, Павел Пруднікаў, Галіна Каржанеўская, Пётр Лісіцын, Леанід Левановіч, Уладзімір Дамашэвіч, Серафім Андраюк, Віктар Карамазаў, Іван Чарота, Мікола Татур, Уладзімір Навумовіч, Аляксей Дудараў, Алена Кобец-Філімонава, Юлія Канэ (Ізраіль), Алесь Кажадуб (Масква), Мікалай Чаргінец і іншыя.*

*З'езд прыняў «Зварот да беларускага народа».*

*На з'ездзе выступіў народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Зянон Пазняк.*

*На з'ездзе былі выбраны кіруючыя органы Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Справаздача з работы з'езда будзе апублікавана ў адным з бліжэйшых нумароў «ЛіМа».*

## МЫ ЖЫВЁМ У ПЕРАЛОМНЫ ЧАС

### УСТУПНАЕ СЛОВА МАКСІМА ТАНКА

Дарагія сябры!

Калісьці мы нават малазначныя падзеі называлі гістарычнымі, хоць яны такімі не былі.

Але сённяшні XI з'езд пісьменнікаў сапраўды заслугоўвае звання гістарычнага, бо ўпершыню сабраўся ў свабоднай і суверэннай нашай Беларусі, над якой горда рэе бел-чырвона-белы сцяг, пад якім мы ідзём па нялёгкай, але пачэснай дарозе да сваёй лепшай будучыні.

Сённяшні наш з'езд павінен даць сваю ацэнку мінуламу, сённяшнім нашым дасягненням і недахопам. І хоць літаратура адна з галін мастацтва, якая найменш паддаецца нейкаму планаванню, намеціць далейшыя шляхі яе развіцця.

Мне здаецца, што наша сучасная беларуская літаратура, багатая сваімі пошукамі новых тэм, новых выяўленчых сродкаў, сваіх дасягненняў, новым гучаннем адраджэнскіх матываў, заслугоўвае на самую пільную ўвагу не толькі нашых чытачоў, але і за межамі нашай краіны, аб чым сведчаць пераклады лепшых твораў беларускіх пісьменнікаў на замежныя мовы.

Відаць, каб мець поўнае ўяўленне аб нашай літаратуры, пара яе разглядаць не абмяжоўваючыся, як гэта рабілі раней, геаграфічнымі і палітычнымі межамі і рубяжамі. Беларуская літаратура адна, у якім бы кутку зямлі ці Галактыкі ні паўставала.

Шкада, што мы заўсёды спазняемся ў сваіх пачынаннях. Узяць хоць бы тое, што толькі за апошнія гады ў нас пачало выходзіць шмат твораў беларускіх пісьменнікаў, якія рассеяны па ўсім свеце. Чаму ж мы тады не вылучаем іх на нашы дзяржаўныя і літаратурныя прэміі? Хоць знаем, што сярод іх многія заслугоўваюць высокай ацэнкі і карыстаюцца ў чытачоў заслужанай папулярнасцю. Я тут не буду пералічваць гэтыя кнігі і ўсім вам вядомых аўтараў. У кожным выпадку пара канчаць з гэтай своеасаблівай дыскрымінацыяй.

Хацеў бы звярнуць увагу і на стан нашай беларускай мовы. Дзякуй Богу, зараз яна прарываецца, як мова дзяржаўная, у нашы школы, некаторыя ўстановы і пачынае займаць сваё належнае месца ў штодзённым жыцці і быце, пераадольваючы незлічоныя перашкоды розных закаранелых асімілятараў. Хацелася б толькі пажадаць, каб у гэтым снабісцкім імкненні хутчэй стаць еўрапейцамі зноў не замуцілі чысты празрысты паток роднай мовы рознымі спікерамі, мэрамі, бізнесменамі, кэмпінгамі, спонсарамі, брыфінгамі, іміджамі. Як гэткую трасянку чытаць?

У мінулым месяцы французскі ўрад прыняў пастанову, якая забараняе ўжыванне без патрэбы англійскіх слоў (а іх набралася тысячы), калі ёсць адпаведныя словы французскія, і караць штрафамі чыноўнікаў, рэдактараў, дыктараў і іншых, хто не будзе гэтай пастановы выконваць.

І, зразумела, адным з нашых абавязкаў застаецца выхаванне маладой змены, хоць, як вядома, біялагічны фактар у мастацтве і літаратуры не з'яўляецца рашаючым. Важна, каб мастак быў у авангардзе, быў сучасным. А сярод такіх мы бачым многіх рознага ўзросту мастакоў, кампазітараў, артыстаў, пісьменнікаў. І большую ўвагу трэба б звярнуць на развіццё сваіх нацыянальных традыцый. І тут хацелася б прыгадаць словы сярэднявечнага мудрага Б. Сільвестра: «Мы як карлікі, якія стаяць на плячах гігантаў. Калі мы можам бачыць далей, як яны, то гэта не таму, што наш зрок больш востры, або мы вышэйшыя за іх, а таму, што мы ўзняліся дзякуючы іх гіганцкаму росту».

Мы жывём у пераломны час, калі зрушыўся застой, палі бар'еры, калі набірае сілу разняволеная думка.

У самы неспрыяльны для нашага народа час Саюз пісьменнікаў Беларусі заставаўся амаль адзіным астраўком беларушчыны. Нашы пісьменнікі не толькі шанавалі, але як святыню бераглі матчынае слова, абуджаючы народ да годнасці, нацыянальнага самаўсведамлення.

І сёння працягваем гэту справу лепшых сыноў Беларусі. Наша задача не апусціць сцяг, які высока і з гонарам узнялі і неслі Купала, Колас, Багдановіч, Гарэцкі.

## УДЗЕЛЬНІКАМ XI З'ЕЗДА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

Шаноўнае спадарства!

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь сардэчна вітае ўдзельнікаў XI з'езда пісьменнікаў Беларусі, жадае плённай працы, ацэнкі зробленага, вызначэння напрамкаў далейшага развіцця беларускай літаратуры, нацыянальнага культурнага адраджэння.

За час, прайшоўшы з мінулага з'езда, пісьменнікамі Беларусі зроблены адметны ўклад у развіццё беларускай нацыянальнай культуры, многія літаратурныя творы сталі сапраўднай з'явай у духоўным жыцці нашага грамадства.

Пісьменніцкі форум праходзіць сёння ў няпростых сацыяльна-эканамічных умовах. У гэты складаны час як ніколі важна для нашага грамадства чуць мудрыя і ўзважлівыя пісьменніцкія словы, якія заклікаюць усіх нас да згоды.

Наша рэспубліка зараз знаходзіцца на вельмі адказным этапе свайго развіцця, вырашае нялёгкія задачы рэфармавання эканомікі, яе інтэграцыі ў сусветную супольнасць.

Урад рэспублікі разумее, што ў гэтых умовах даволі цяжка займацца творчай працай. Творчая інтэлігенцыя найменш абаронена сёння ад сацыяльна-бытавых складанасцей і праблем.

Таму ўрад рэспублікі прымае неабходныя меры, каб палепшыць становішча пісьменнікаў, знаходзіць шляхі фінансавання і падтрымкі пісьменніцкіх арганізацый, дзяржаўных выдавецтваў, павышэння ганарарных ставак, маральнага і матэрыяльнага стымулявання найбольш таленавітых творцаў.

Дзяржава знаходзіць магчымасць падтрымкі беларускамоўнай літаратуры, літаратуры для дзяцей і юнацтва шляхам устанаўлення выдавецтвам з бюджэту рэспублікі пэўных дзяржаўных датацый.

Урад разумее, што гэтага сёння мала. І тым не менш будзе усё рабіць для таго, каб такое становішча змяніць да лепшага.

Нам трэба многа зрабіць для падтрымкі сапраўды высокагуманнага мастацтва і яго лепшых літаратурных узораў, абараніць маладое пакаленне ад нігілізму, амаральнасці і бездухоўнасці.

Рэспубліка рыхтуецца шырока адзначыць 50-годдзе вызвалення беларускага народа ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Гэтая дата бясконца дарагая сэрцу кожнага жыхара Беларусі, ветэранаў, усіх удзельнікаў вызвалення роднай зямлі, у тым ліку і пісьменнікаў-франтавікоў, партызан і падпольшчыкаў. І ўрад рэспублікі будзе рабіць усё для таго, каб людзі, якія даравалі нашаму народу вялікую Перамогу, былі належным чынам ушанаваны сваёй дзяржавай.

Нам разам трэба шмат зрабіць для таго, каб абараніць права чалавека на прыстойнае жыццё, творчасць ва ўмовах міру і грамадзянскай згоды. Адказнасць і воля дзяржавы і майстроў слова павінны аб'яднацца ў разуменні таго, што культура абароніць грамадства, калі грамадства абароніць культуру.

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь жадае ўдзельнікам XI з'езда пісьменнікаў Беларусі далейшых творчых поспехаў, новых цікавых і змястоўных літаратурных твораў, ажыццяўлення творчых планаў, моцнага здароў'я, захавання лепшых традыцый беларускай нацыянальнай культуры.

**Старшыня Савета Міністраў**
**Рэспублікі Беларусь**
**В. Ф. КЕБІЧ**

*27 красавіка 1994 г.*

## ЗВАРОТ ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

**Сёння, у вырашальны для лёсу нашай дзяржавы час, мы, дэлегаты XI з'езда Саюза пісьменнікаў Беларусі, выказваем глыбокую занепакоенасць намерам пэўных палітычных сіл уключыць Рэспубліку Беларусь у склад Расійскай Федэрацыі. Першы крок да гэтага — падпісанне ў Маскве Дагавора аб аб'яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расіі. Адначасна рыхтуецца ўнясенне кан'юнктурных паправак у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якая стала непарушным законам для ўсіх.**

**Мы глыбока перакананы, што гэтыя супрацьзаконныя акты вядуць нашу рэспубліку да страты суверэнітэту, незалежнасці і ператварэння яе ў каланіяльны прыдатак Расійскай Федэрацыі, для размяшчэння на тэрыторыі беларускай зямлі стратэгічнай зброі, якая нясе пагрозу ядзернага знішчэння беларускага народа, які ўжо зведаў жахі дзвюх войнаў за апошняе стагоддзе.**

**Мы ўпэўнены, што ў самым блізкім часе гэта прынясе ўсім пластам нашага грамадства незлічоныя сацыяльна-эканамічныя беды. Нашай гаспадаркай будзе кіраваць чужы капітал, у якога не будзе ніякай зацікаўленасці развіваць нацыянальную эканоміку, культуру, навуку, мову і літаратуру. Гэтак званая рублёвая зона нічога не дасць нашаму народу. Яна з'яўляецца нічым іншым, як палітычным манеўрам у выбарчай прэзідэнцкай кампаніі. Падобныя ўчынкі ўладных структур прыніжаюць годнасць нашай краіны і яе народа, вядуць да здрады ідэям нацыянальнага адраджэння, адбіраюць будучыню ў нашых дзяцей і ўнукаў.**

**Які суверэнітэт і незалежнасць без свайго бюджэту, без сваёй фінансавай сістэмы, без уласнай валюты і нацыянальнага банка?!**

**Цяперашнія ўладныя структуры павінны адкрыта і сумленна сказаць беларускаму народу, што яны робяць усё, каб ліквідаваць дзяржаўнасць і незалежнасць нашай радзімы. Хопіць падманаў і хітрых выкрутаў! Народ і гісторыя не даруюць здрады. Свабода і самастойнасць, якіх беларускі народ чакаў і за якія змагаўся больш пяці стагоддзяў, не могуць быць задушаны і прададзены. Шчаслівы шанц адраджэння народнай гаспадаркі, гістарычнай памяці, нацыянальнай культуры, навукі, мовы і літаратуры не павінен быць упушчаны!**

**Выказваем спадзяванне, што грамадзяне Расіі, і ў першую чаргу расійская інтэлігенцыя, зразумеюць нашу занепакоенасць, наш клопат і падтрымаюць нас — і гэтым засведчаць сваю добрую волю, сваю шляхетнасць і сваю братнюю павагу да Беларусі.**

**Наперадзе — выбары прэзідэнта. Не абманіцеся і тут, шаноўныя грамадзяне! На сваім вопыце вы ведаеце, як часта словы сённяшніх кіраўнікоў не супадаюць са справамі. Дык не верце неабгрунтаваным абяцанням! Не можа быць прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і той, хто не ведае нават мовы свайго народа!**

**Мы асуджаем здраду будаўніцтву суверэннай Рэспублікі Беларусь!**

**Мы асуджаем здраду ідэалам Беларускага Адраджэння!**

**Мы рашуча супраць уключэння ў склад Расійскай Федэрацыі нашай Бацькаўшчыны, нашай Дзяржавы, нашай роднай Беларусі.**

**XI З'ЕЗД САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ**

*27 красавіка 1994 года*

# ШТО НОВАГА Ў МАЛАДЗЕЧНЕ?

## ФЕСТЫВАЛЬНАЯ ЛАТАРЭЯ

**З мэтай фінансавай падтрымкі Другога Рэспубліканскага фестывалю песні «Маладзечна-94» Маладзечанскі гарсавет вырашыў правесці напярэдадні гэтага музычнага свята, 8 чэрвеня 1994 года, фестывальную грашова-рэчавую латарэю.**

**Выпускаецца 100 тысяч білетаў коштам па 5000 рублёў кожны на агульную суму 500 мільёнаў рублёў. Доля выйгрышнага фонду ўстаноўлена ў памеры 50 працэнтаў. Арганізацыйную камісію ўзначаліў намеснік старшыні выканкома Я. Удэльчык.**

## ПРАЙШОЎ СЕМІНАР

**Нядаўна ў Маладзечне прайшоў абласны семінар, падрыхтаваны Беларускім рэспубліканскім фондам падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Л. Сапегі пры ўдзеле Інстытута праблем самакіравання (Будапешт) і гарсавета. На семінары выступіў старшыня гарадскога Савета народных дэпутатаў Г. Карпенка, эксперты фонду, навукоўцы Акадэміі навук і іншых вышэйшых навучальных устаноў.**

## АДКРЫЕЦЦА ТЭЛЕКАНАЛ

**Нядаўна Маладзечанскі гарвыканком з тэлекампаніяй «Піянер «ТК» падпісалі пратакол аб стварэнні ў горадзе тэлевізійнага канала. Мяркуецца, што асноўная ўвага ў праграме Маладзечанскага тэлебачання будзе надавацца перадачам аб гарадскім жыцці, рэкламе, інфармацыйным і кансультацыйным выступленням спецыялістаў розных спецыяльнасцей і ўзроўняў.**

## З КЛОПАТАМ АБ РОДНАЙ МОВЕ

**На апошнім пасяджэнні Маладзечанскага гарвыканкома абмеркавана пытанне аб выкананні ў Маладзечне Закона аб мовах. На ім выступіў старшыня гарадскога аддзялення Таварыства беларускай мовы, член прэзідыума гарадскога Савета народных дэпутатаў Л. Цімохін. Затым слова ўзяў загадчык аддзела адукацыі В. Сірата. Сваімі думкамі аб гэтай важнай справе падзяліўся член камісіі па эстэтычным афармленні горада К. Харашэвіч.**

**Аб неабходнасці ставіцца да мовы па-дзяржаўнаму, зрабіць усё, каб ёй была падтрымка і належнае развіццё на роднай зямлі, гаварыў сакратар пастаяннай Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Я. Цумараў.**

**Выказалі меркаванні па гэтым набалелым пытанні загадчыца гарадскога аддзела культуры Н. Сідарэнка, дырэктар гімназіі Б. Вайцяхоўскі, старшыня гарсавета Г. Карпенка.**

**Прынятая пастанова прадугледжвае ўвядзенне ў штат гарвыканкома работніка па кантролі за выкананнем у горадзе Закона аб мовах.**

**Гарсавету ад імя Рэспубліканскай Рады ТБМ уручаны стос слоўнікаў і кніг, выдадзеных на сродкі таварыства.**

## У ХОТАВЕ ПАСТАВІЛІ КАЗКУ

**У Хотаўскай сярэдняй школе Маладзечанскага раёна прайшлі чарговыя заняткі універсітэта культуры, які дзейнічае пры раённым арганізацыйна-метадычным цэнтры. Клубныя работнікі змаглі паглядзець паказальнае мерапрыемства, якое стала вынікам работы вучняў школы з эстэтычным ухілам. Кіраўнік калектыву Я. Каброўская разам са сваімі выхаванцамі падрыхтавала спектакль-казку «Прынцэса Ружа».**

## КОНКУРС ВЫКАНАЎЦАЎ

**У канцэртнай зале Маладзечанскага музычнага вучылішча нядаўна быў праведзены гарадскі конкурс юных выканаўцаў «Маладзечанскі Парнас». У ім удзельнічалі падлеткі 12—16 гадоў. Майстэрства дзеці дэманстравалі ў вакальна-харавым, музычна-інструментальным і харавым жанрах. Пераможцамі сталі ансамбль народнай музыкі «Пацешкі», ансамбль цымбалістаў са школы мастацтваў. Сярод канкурсантаў вылучыліся гітарысты ў складзе Дзіны Няменкі, Вікі Канюшэўскай, Ірыны Паклікухі, балалаечнік Ягор Тойгень, кларнетыст Андрэй Важкін і іншыя.**

**М. КАПЫЛОВІЧ**

Выставы

# ВЫБАР «ПАГОНІ»

У дзень адкрыцця — 25 сакавіка — паглядзець выставу было проста немагчыма, бо другі паверх сталічнага Палаца мастацтваў ператварыўся ў гаманкую пляцоўку, дзе людзі віталіся, спрачаліся, абмяркоўвалі творы экспазіцыі і апошнія палітычныя падзеі. І гэты настрой аб'ядноўваў прысутных на імпрэзе, даваў магчымасць адчуць сябе аднадумцамі. Ды, зрэшты, іначай тут і не магло быць.

Калі ж свята скончылася ды асеў, так бы мовіць, пыл палымяных прамоў, захацелася прайсціся па выставе, агледзець усё ўважліва і спакойна, каб адшукаць адказ на складанае, і ў пэўным сэнсе, драматычнае пытанне аб суадносінах грамадскага абавязку і непасрэдна самой творчасці. Згадайце, як за нядаўнім часам публіцыстыка ў якасці зброі новай дэмакратыі паглынула многіх выдатных літаратараў, як бел-чырвона-белы сцяжок на карціне, няхай і з няпэўнымі мастацкімі вартасцямі, быў залогам «прахадзімасці» твора ў любым асяроддзі. І таму стварэнне суполкі «Пагоня» ў 1990 годзе ўспрынялося натуральна, як адзнака часу, які запатрабаваў не аморфнай канстатацыі жыцця альбо гульні на адвечных тэмах мастацтва, а акрэсленай грамадскай пазіцыі, якім чынам яна б ні выяўлялася. Зрэшты, з'яўленне такога аб'яднання было падрыхтавана палітычнымі падзеямі ў краіне, якая называлася «Савецкі Саюз», ды той акалічнасцю, што Саюз мастакоў Беларусі, прынамсі, шэраг яго сяброў не толькі падтрымлівалі, але і бралі на сябе ініцыятыву ў абароне нашай гісторыі і культуры. Творцы, што першапачаткова склалі аснову суполкі, мелі досыць акрэсленыя палітычныя погляды і шукалі магчымасці свабодна выказваць іх і праз творчасць, а не толькі грамадскія акцыі. Палітыка для сяброў «Пагоні» і зараз справа не другасная, таму ёсць падставы задумацца аб магчымасцях творцы браць удзел у сацыяльных працэсах, захоўваючы пры гэтым творчую свабоду і сваю індывідуальнасць.

На першай выставе суполкі адчувалася, што экспазіцыю рабілі аднадумцы, якім ідэя больш дарагая, чым самавыяўленне. Цяпер жа кампазіцыя выставы прадумана да такой ступені дакладна, што дазваляе акрэсліць творчы партрэт кожнага ўдзельніка. Для многіх з іх створаны міні-экспазіцыі, прычым калі побач аказваліся работы іншых мастакоў, яны былі падабраны так, каб не перакрыжоўваліся тэхнікі і стылі. І такая гармонія абумовіла адзінства ўсёй выставы. Гэта выдатны прыклад таго, як супольная рада дапамагае знайсці аб'ядноўваючы стрыжань для самых розных творцаў. Можна парадавацца, што яна, адабраўшы лепшае, амаль выключыла прамалінейнасць вырашэння вобраза і тэмы, штучны пафас, акадэмізм. Знікла залішняя стракатасць, што так часта перашкаджае ўспрыманню, хоць знешне і прыцягальная гульнёю фарбаў, і акрэслілася стрыманае, з затоеным болем мастацтва, якое годна можа прадстаўляць наш народ з яго багатай гісторыяй і культурай.

Кампазіцыйны, ідэйны, сэнсавы цэнтр выставы — дзве інсталяцыі, аб'яднаныя ў кампазіцыю «Выбар» (дарэчы, мастацтва інсталяцыі пачало развівацца на Беларусі са з'яўленнем суполкі «Пагоня»). «Выбар» — «Веліч» альбо «Рублёвая зона». Што абярэ Беларусь як народ — шалупінне, агітацыйнае смецце камуністычнай мінуўшчыны альбо рыцарскую высакароднасць і дзяржаўную мудрасць — са шляхецкай шабляю і Статутам Вялікага княства Літоўскага; ярмо альбо волю?

Нечаканасць заўсёды выклікала цікаўнасць гледачоў. Так, калі на першай выставе «Пагоні» вобразным акцэнтам прагучалі гістарычныя касцюмы XVI ст., а на мінулай — разам з плакатным заклікам да спынення русіфікацыі, найбольш балючым і надзённым на той момант, адзенне воіна Вялікага княства, тут такой дамінантай можна лічыць старажытную зброю, дакладныя копіі якой зроблены сучаснымі мастакамі. Зброя заўсёды і ва ўсіх народах сімвалізавала мужнасць, годнасць ды ўпэўненасць у разуменні свайго месца ў Еўропе. А гэтай упэўненасці нам якраз і не хапае.

Не хапае нам і замілавання сваёй зямлёю і яе людзьмі. Той якасці, якая выразна прысутнічае ў мастакоў названай некалі «этнаграфічнай» тэматыкі. Але ці не яны найбольш наблізіліся да запаветнай свабоды творчасці, той выразнасці, той духоўнасці, якая вызнаецца найлепшай якасцю нашай культуры. Калі ў працы мастака няма адзнакі нацыянальнай прыналежнасці (а гэта адчуваецца ў абстрактным мастацтве не менш выразна, чым у фігуратыўным), дык няма і звышзадачы. Таму мастакі «Пагоні», якія раней свядома актывізавалі сваю ўвагу на асветніцтве, цяпер, калі дасягнута дзяржаўная незалежнасць, могуць дазволіць сабе большую творчую разнастайнасць.

І гэта прыносіць свой плён. Бо на выставе гарманічна суіснуюць і работы А. Марачкіна — выявы лепшых сыноў новай Беларусі, і палева-цёплыя пейзажы Ю. Хілько, аднаго з таленавітых нядаўніх выпускнікоў Акадэміі мастацтваў, і складаныя рэканструктыўныя і калажныя кампазіцыі П. Драчова, і авангардна-«язычніцкія» фантазіі С. Цімохава. Экспазіцыя разварочваецца не стыхійна — яна ад прызнаных (Л. Шчамялёў, У. Тоўсцік, Г. Вашчанка, В. Шматаў) натуральна пераходзіць да маладзейшых, мінулагодніх выпускнікоў. Ад велізарнага «іканастаса» А. Марачкіна і шматфігурных гістарычных батальных сцэн С. Філіповіча і Г. Ціхановіча (у пэўным сэнсе падзабыты класічны батальны жанр, не да канца яшчэ распрацаваны, але для цяперашняга станаўлення нацыянальнага мастацтва і пошуку шляхоў яго развіцця неабходны) да камерных пейзажаў Г. Скрыпнічэнкі і вытанчаных нацюрмортаў В. Свентахоўскай. Ад аўтэнтычных тканых паясоў В. Селівончык да «Крывічоў» А. Шатэрніка (а ён досыць часта здзіўляе знаходкамі новых скульптурных форм).



*А. МАРАЧКІН. З серыі «Мае сучаснікі». М. Ермаловіч.*

Многія імёны сустракаюцца на выставах штогод. І цікава назіраць, як змяняюцца падыходы і мастацкае ўвасабленне ў сувязі з незвычайнай хуткасцю нашага часу. Як не дазваляе адарвацца ад яго, напрыклад, Р. Сітніца, які распрацаваў свой, ужо пазнавальны стыль: адлюстраванне тэмы па асобных дробных частках кампазіцыі. Ён і на гэты раз прадставіў серыю аб Верхнім горадзе (станцыя метро Няміга), дзе мастацкае мысленне спалучаецца з адкрытай публіцыстыкай. Як усё больш абстрагуецца ад штодзённасці В. Паўлавец альбо выказваецца на сучасныя тэмы Г. Вашчанка, які, дарэчы, разам з У. Тоўсцікам, афіцыйна не ўваходзіць у склад суполкі, але падтрымлівае яе задачы і прынцыпы. Прыемна, што маладыя мастакі лагічна дапаўняюць лінію «Пагоні».

Канцэпцыя суполкі ў каторы раз апраўдала сябе. Зрэз сучаснага мастацтва, які яна прадставіла на выставе, не пакідае абыякавым. Мастакі шукаюць самавыяўлення ў лёгкіх пейзажах, у абстрактных кампазіцыях, у аўтэнтычных выцінанках, габеленах, якія апошнім часам вылучаюцца сваёй разнастайнасцю і прыгажосцю. Калі збіраецца суполка сапраўды творчых, таленавітых асоб, павагі варта тое, што мастакі палітызаванага асяродка ўздымаюцца над палітыкай. Іх мастацтва не будзе абыякавым, канстатуюча-спакойным, яно будзе заклікаць не толькі на плошчу, але да шанавання краіны, дзе ты нарадзіўся. Бо гэта менавіта той шлях, які можа прывесці нас да Адраджэння.



*Інсталяцыя «Выбар». На першым плане — «Рублёвая зона», углыбіні — «Веліч».*



*В. МАРКАВЕЦ-БАРТЛАВА. Габелен «Сум».*

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

# БАГДАНОВІЧ. ЯРАСЛАЎЛЬ...

У канцы мая, якраз падчас Дзён славянскай пісьменнасці, адбудзецца ў Яраслаўлі адкрыццё помніка Максіму Багдановічу (скульптар С. Вакар, архітэктар А. Карпук). Ён будзе ўстаноўлены на Чырвонай плошчы каля будынка першай мужчынскай гімназіі (цяпер галоўны корпус Яраслаўскага універсітэта), дзе некалі вучыўся паэт. Праўда, пляцоўка перад музеем Багдановіча была ўжо занята помнікам ахвярам фашызму...

Ідэя гэта ўзнікла даўно, прагучала ўпершыню на святкаванні стагоддзя з дня нараджэння паэта. Але ў адрозненне ад няўдалых намаганняў перанесці прах Багдановіча на радзіму альбо хаця б зрабіць новае надмагілле, захаваць у Ялце дом, дзе ён жыў перад смерцю, днямі праект і ўсе неабходныя часткі помніка будуць перададзены ў Яраслаўль. Акцыя гэта стала магчымай дзякуючы дабрачыннасці мастакоў (у прыватнасці, скульптара Сяргея Вакара, які ахвяраваў мадэль помніка паэту каля Тэатра оперы і балета ў Мінску) і спонсараў — міжвыдавецкага фотацэнтра, Саюза журналістаў, выдавецтва «Полымя», фірмы «Дайнова», газеты «Частный детектив», праваслаўнай епархіі, аўтазавода, без якога ўзніклі б складанасці з перавозкай каштоўнага грузу ў суседнюю дзяржаву.

Застаецца спадзявацца, што суайчыннікі Максіма Багдановіча здолеюць, не зважаючы на матэрыяльныя і палітычныя складанасці, прыехаць на адкрыццё помніка. А яраслаўскія жыхары будуць адносіцца да яго ашчадна, і з цягам часу не знікнуць на ім літары подпісу, і ён не набудзе «народны псеўданім», як «непадпісаны» ўжо помнік Язэпу Драздовічу ў мінскім Траецкім прадмесці, перахрышчаны «жартаўнікамі» ў «Івана Сусаніна».

**Н. Ш.**

***У гэтай сустрэчы з першай асобай Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларусі была свая перадгісторыя. У нумары «Літаратуры і мастацтва» за 25 сакавіка г.г. быў змешчаны артыкул «КДБ: змена варты. Што далей?», у якім узнімаўся шэраг пытанняў, звязаных з дзейнасцю спецслужбаў рэспублікі ў сучасных умовах. У артыкуле, прынамсі, адзначалася, што ў грамадскай свядомасці ўяўленне аб КДБ, як аб ахутанай туманам таямнічасці карнай карпарацыі, якая трымае пад пільным наглядам жыццё кожнага грамадзяніна (менавіта такі «імідж» склаўся аб ёй на працягу многіх дзесяцігоддзяў), — амаль не змянілася, хоць час на дварэ зусім іншы. А спрыяе гэтаму не ў апошнюю чаргу адсутнасць нават мінімальнай галоснасці ў дзейнасці спецслужб, якія па-ранейшаму адгароджаны непераадольнай сцяной ад грамадскага вока, сродкаў масавай інфармацыі.***

***Праз некалькі дзён пасля выхаду «ЛіМа» з нагаданым артыкулам у рэдакцыю пазванілі з Камітэта дзяржбяспекі і перадалі прапанову яго новага старшыні Г.Лавіцкага сустрэцца з аўтарам публікацыі «ў любы зручны для журналіста час».***

***«Зручны час», вядома, знайшоўся, і вось я сяджу ў службовым кабінеце старшыні КДБ у «доме з калонамі» на праспекце !мя Скарыны ў самым цэнтры сталіцы.***

# ТРЫ ГАДЗІНЫ Ў БЫЛЫМ КАБІНЕЦЕ ЦАНАВЫ

## СА СТАРШЫНЁЙ КАМІТЭТА ДЗЯРЖАЎНАЙ БЯСПЕКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ГЕНАДЗЕМ ЛАВІЦКІМ ГУТАРЫЦЬ РЭДАКТАР АДДЗЕЛА ПУБЛІЦЫСТЫКІ «ЛіМа» МІХАСЬ ЗАМСКІ

**М.Замскі: — Пасля з'яўлення артыкула да мяне ў рэдакцыю зайшоў адзін наш слынны пісьменнік, чалавек даволі сталага ўжо ўзросту, і заўважыў жартам, што ваша, Генадзь Міхайлавіч, прозвішча надта ж падыходзіць для чэкіста — Лавіцкі ад слова «лавіць».**

**Г.Лавіцкі** *(смяецца):* — У вёсцы Прусінічы, дзе нарадзіўся мой бацька, гэта ў Талачынскім раёне Віцебскай вобласці, палова сяльчан былі Лавіцкія.

Дарэчы, я ўжо дваццаць трэці старшыня Камітэта дзяржбяспекі за ўсю гісторыю існавання гэтага ведамства ў рэспубліцы. Цікавая дэталь: ад першых пасляваенных гадоў, калі быў пабудаваны гэты будынак, кабінет старшыні КДБ месціцца ў адным і тым жа пакоі. Так што кабінет, дзе мы зараз з вамі сядзім, у свой час займаў і сумнавядомы Цанава.

**— Яго называлі беларускім Берыя. Казалі, што Цанава быў нават нейкім яго сваяком. Быццам іх жонкі былі паміж сабой ці то родныя, ці то стрыечныя сёстры.**

**Мне расказваў вядомы наш літаратурны крытык Рыгор Саламонавіч Бярозкін, як ён сядзеў ва ўнутранай турме КДБ (гэта, як я здагадваюся, недзе тут, у вас, у гэтым будынку) пасля чарговага арышту ў 1949 годзе. Аднойчы яго павялі з камеры на допыт да самога Цанавы. Той сядзеў, успамінаў Бярозкін, разваліўшыся ў крэсле, і, зірнуўшы на арыштанта, які стаяў перад ім, падтрымліваючы рукамі штаны, злосна спытаў: «Ты писатэл? И тыбе ни стыдна прыхадыт ка мне и атнимат у менэ врэмя? Ты знаиш, сколька у менэ работы?» І махнуўшы рукой, закрычаў: «Сволач! Уведитэ!»**

**Вядома было, што Цанава вылучаўся не толькі незвычайнай жорсткасцю, а і выключным самадурствам.**

— Хутка пасля смерці Сталіна, у красавіку 1953 года, Цанава быў арыштаваны. Трымалі яго ў адным з маскоўскіх следчых ізалятараў, дзе ён быццам бы скончыў жыццё самагубствам.

**— Я недзе чытаў, што зрабіў ён гэта даволі незвычайным чынам — у камеры разбіў сабе галаву аб каменную сцяну. Магчыма, яму памаглі гэта зрабіць. Цанава ж ведаў, мабыць, нямала крамлёўскіх тайнаў.**

— Усё магло быць, але мне пра гэта невядома.

**— Генадзь Міхайлавіч, у дыпламатычным свеце існуе такое паняцце — кар'ерны дыпламат. Гэта значыць, дыпламат па адукацыі, па набытай прафесіі, у адрозненне, скажам, ад наменклатурных прызначэнцаў на дыпслужбу. Калі ўжыць падобную «класіфікацыю» ў спецслужбах, дык вы — «кар'ерны» чэкіст ці прызначэнец? Я ведаю, што ў органах унутраных спраў сярод кіруючага складу нямала людзей, якія перайшлі сюды з партыйных пасад, дарэчы, атрымаўшы адразу палкоўніцкія пагоны.**

— Палкоўніцкія пагоны, як і цяперашнія генеральскія, я атрымаў «не адразу». Пачынаў з малодшага лейтэнанта на пасадзе оперупаўнаважанага. І, да слова, за гады службы ў органах КДБ ніводнага воінскага звання не «пераскочыў». Ды і датэрмінова ніводнага не атрымаў. Што тычыць пытання, ці кар'ерны я кадэбіст, дык як на гэта паглядзець. Я казаў ужо, што мая радзіма — Віцебшчына, дзе я нарадзіўся ў 1942 годзе ў шматдзетнай сялянскай сям'і. Так што хлебаробскі клопат ведаю змалку. У вёсцы скончыў дзесяцігодку. Спрабаваў паступіць у інстытут механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі. Чаму туды? У нашай вёсцы толькі ў канцы пяцідзесятых гадоў правялі электрычнае святло і, помню, якой павагай у сяльчан карыстаўся электраманцёр. Быць электрыкам, ды яшчэ высакакласным спецыялістам — пра гэта можна было толькі марыць. Але ў інстытут я не трапіў. Давялося ўладкоўвацца на працу. Узялі мяне рабочым у Віцебскую вышукальна-руславую партыю, з якой за два гады прайшоў Заходнюю Дзвіну ад вытокаў да вусця. Але мара набыць вышэйшую адукацыю жыла ва мне, і я паступіў у Віцебскі педінстытут на біялагічны факультэт. Але праз год забралі служыць на Балтыйскі флот. Вярнуўся толькі праз чатыры гады. Недзе на апошнім ужо курсе мяне неяк перанняў оперупаўнаважаны КДБ, які курыраваў наш інстытут. Мы ўсе яго добра ведалі, ні ў якую канспірацыю ён не гуляў, нават чытаў нам «лекцыі» пра пільнасць, гутарыў са студэнтамі, і ўсё гэта было ў парадку рэчаў. Дык вось, у нас з ім адбылася размова, і ён прапанаваў мне пайсці працаваць у сістэму дзяржбяспекі.

**— І вас, Генадзь Міхайлавіч, не шакіравала, што не нейкі там ваенны аб'ект, а інстытут «курыруе» супрацоўнік органаў дзяржбяспекі?**

— Усе мы былі дзецьмі свайго часу і пэўным чынам, на пэўных узорах выхаваны. І слова «чэкіст» было ахутана самай што ні ёсць рамантыкай. Казаць, што гэта было не так, значыць хлусіць сабе і людзям. Тым не менш, ад прапановы ісці працаваць у КДБ я адмовіўся. Адмовіўся, шчыра кажучы, не па нейкіх там маральных, а па чыста жыцейскіх прычынах — я няблага вучыўся, і мне рэальна свяціла трапіць у аспірантуру, адным словам, пайсці ў навуку.

**— А гэты, як вы кажаце, «куратар» не прапаноўваў вам «шасцерыць» сярод студэнтаў?**

— Не прапаноўваў, у яго наконт мяне былі больш сур'ёзныя намеры — усё-такі сагітаваць пайсці працаваць да іх. Каб доўга не гаварыць пра гэта, скажу толькі, што ў рэшце рэшт я паддаўся на ўгаворы камітэтчыкаў і неўзабаве апынуўся сярод слухачоў вышэйшых курсаў КДБ у Мінску.

**— Калі не сакрэт, што вы там вывучалі?**

— Не сакрэт. У асноўным гэта былі юрыдычныя навукі. Ну і, вядома, спецыяльныя прадметы. Пасля заканчэння курсаў быў залічаны ў штат Віцебскага абласнога ўпраўлення КДБ у контрразведвальнае аддзяленне. Потым была праца ў Лепелі ў якасці начальніка куставога аддзялення КДБ — акрамя Лепельскага, у яго ўваходзілі Бешанковіцкі і Чашніцкі раёны. Праз некалькі гадоў забралі мяне зноў у Віцебск ужо намеснікам начальніка абласнога ўпраўлення дзяржбяспекі. Неўзабаве перавялі ў Мінск у КДБ рэспублікі. Потым была Масква, КДБ СССР, зноў Беларусь і праца на пасадзе намесніка старшыні Камітэта дзяржбяспекі рэспублікі. Неяк жонка мая падлічыла, што за дваццаць гадоў мы змянілі дзевяць кватэр. Але мы крыху адхіліліся ад тэмы...

**— Ну чаму, нашым чытачам будзе цікава даведацца і пра такія дэталі жыцця новага старшыні КДБ рэспублікі. Але, сапраўды, вернемся, як казалі старажытныя грэкі, да нашых бараноў. А калі больш дакладна, да пытанняў, узнятых у лімаўскай публікацыі. Што сёння ўяўляе сабой сістэма дзяржаўнай бяспекі Беларусі?**

— Літаральна на мінулым тыдні Прэзідыум Вярхоўнага Савета зацвердзіў новую структуру і штатную колькасць спецслужбаў Рэспублікі Беларусь. Пачну са штатаў. Іх колькасць зменшана на некалькі дзесяткаў чалавек. Працэс гэты не закончаны, недзе ў бліжэйшым будучым агульны штат работнікаў сістэмы дзяржбяспекі яшчэ скароціцца, але не на шкоду справе.

Цяпер па некаторых канцэптуальных пытаннях. Ужо ў якасці старшыні камітэта я сабраў калегію і выклаў яе членам сваё бачанне сённяшняй ролі спецслужбаў. Галоўнае, пазбавіцца ў нашай працы «чекизма». На жаль, некаторыя мае калегі ўспрынялі гэты заклік, як імкненне адысці ад «слаўных традыцый», «абяззброіць» органы і г.д.

**— Што вы, Генадзь Міхайлавіч, укладваеце ў паняцце «чекизм»?**

— Пачну здалёк. Калі ў 1917 годзе бальшавікі ўзялі ўладу, ім удалося яе ўтрымаць і дзякуючы стварэнню Надзвычайнай камісіі па барацьбе з контррэвалюцыяй і сабатажам. Не буду зараз ацэньваць метады, якімі яна дзейнічала. Усякая рэвалюцыя — гэта кроў, гэта шматлікія ахвяры. Тым не менш, кожную грамадскую з'яву трэба разглядаць у пэўных гістарычных акалічнасцях, і, менавіта ў такім кантэксце трэба падыходзіць і да вядомых слоў Леніна, што кожная рэвалюцыя нечага вартая, калі ўмее абараніць сябе.

**— Але для чэкістаў тая рэвалюцыя расцягнулася на семдзесят з нечым гадоў. Я маю на ўвазе метады іх работы і ў трыццатыя гады, і ў пяцідзесятыя, ды і пазней...**

— Ну, пасля смерці Сталіна, асабліва ж пасля дваццатага з'езда, відаць, за палітычныя перакананні ўжо не расстрэльвалі...

**— Вядома ж, змясціць чалавека прымусова ў «псіхушку» ці дэпартаваць за мяжу — сама гуманнасць...**

— Так, на жаль, усё гэта было. Але органы дзяржбяспекі тады служылі сістэме, былі яе часткай. Сёння ж, што б там ні гаварылі, мы жывём усё-такі ў посткамуністычным грамадстве, і паводзіць сябе трэба адпаведна з гэтай акалічнасцю. Вельмі важна ў такіх абставінах умець пераламаць сябе, пастарацца мысліць пасучаснаму. Калі гэтага ўпарта не жадае рабіць радавы грамадзянін, так сказаць, абывацель, дык бог яму суддзя. А калі службовая асоба, ды яшчэ ў органах дзяржаўнай бяспекі?.. Вось чаму трэба пераходзіць ад ідэалагізаванай спецслужбы, якая была раней, бо абслугоўвала адну партыю, да спецслужбы радыкальна дэпартызаванай, у якой няма большага клопату, чым клопат аб інтарэсах усяго грамадства.

**— Значыць, як я зразумеў, тэндэнцыя да палітычнага вышуку, кантролю, кажучы па-руску, «над умами» сярод некаторай часткі работнікаў сістэмы дзяржбяспекі сябе яшчэ не зжыла?**

— Я прачытаў ваш артыкул, і з многімі яго думкамі, якія тычацца менавіта гэтага аспекту, згодзен. Але з адным удакладненнем. Тэндэнцыя, пра якую вы гаворыце, хоць і мае сваіх прыхільнікаў, практычна ўвасобіцца не можа.

**— Вашыя словы ды богу ў вушкі... У сваім артыкуле я працытаваў немудрагелісты вершык, які сёння бытуе ў народзе. У ім ёсць такія іранічныя радкі: «пройдет она — и демократия, и гласность, и вот тогда госбезопасность припомнит наши имена». Дык што, Генадзь Міхайлавіч, усё-такі прыпомніць?**

— Я ведаю гэты вершык. Вядома ж, нарадзіўся ён невыпадкова. Але я не стаў бы так драматызаваць становішча. Упэўнены цвёрда — назад дарогі няма. Але б і не стаў гаварыць, што ў нетрах нашага ведамства ўжо няма людзей, якія, пры выпадку, маглі б і «припомнить». Разам з тым, лічу сваім абавязкам падкрэсліць, што пераважная большасць работнікаў органаў дзяржбяспекі — прыстойныя людзі.

**— Увесь свабодны свет быў уражаны рашэннем Прэзідэнта Расіі Б.Ельцына скасаваць КДБ. Мяне асабіста ўразіла тое месца яго ўказа аб скасаванні дзяржбяспекі, дзе гаварылася, што сістэма гэтая не паддаецца рэфармаванню, што заўсёды застаецца небяспека самааднаўлення чэкісцкай ідэі.**

— Можна было, вядома, пайсці па шляху, па якім пайшла Расія ў гэтым пытанні. Але там іншая сітуацыя, іншыя палітычныя рэаліі. І усё-такі ў гэтым эксперыменце з органамі дзяржаўнай бяспекі там перайшлі мяжу разумнага, разбазарыўшы вопытныя кадры спецслужбаў...

**— Нядаўна я прачытаў у «Известиях» цікавую нататку. У ёй апавядалася, што ў Латвіі паблізу аднаго з мястэчак марадзёры разрабавалі могілкі, дзе быў пахаваны амаль увесь гарнізон рускай арміі, што кватараваў у тым мястэчку ў мінулым стагоддзі і быў амаль цалкам выкашаны эпідэміяй чумы. Драматызм самой сітуацыі з разрабаваннем могілак ускладняўся тым, што, па сведчанні санэпідэміялагічнай службы, усё гэта магло стварыць небяспеку распаўсюджання страшнай хваробы, бо бацылы чумы вельмі жыццястойкія і маюць здольнасць «прачынацца» праз стагоддзі. Да прадмету нашай гаворкі гэтая гісторыя быццам бы і не мае адносін, але пэўныя асацыяцыі яна ў мяне выклікала.**

— Я вас зразумеў, але «паралеляў» такіх не прымаю. Галоўнае — гэта хто заказвае музыку, часткай якой сістэмы з'яўляюцца органы дзяржбяспекі. Калі дэмакратычнай, да чаго мы імкнёмся, дык ніякіх падстаў для непакою, што яны зноў будуць займацца палітычнымі рэпрэсіямі, няма. Так што «чума» ніколі не адродзіцца.

**— Вы казалі, што Прэзідыум Вярхоўнага Савета зацвердзіў новую структуру КДБ...**

— Асноўнымі накірункамі нашай дзейнасці цяпер будуць знешняя разведка і контрразведка. Нашай рэспублікай з-за яе геапалітычнага становішча цікавяцца многія замежныя спецслужбы.

**— У прэсе шмат дыскутавалася пытанне аб дзейнасці замежных разведак пад дахам дыпламатычных прадстаўніцтваў.**

— Колькі існуюць разведкі, столькі яны карыстаюцца дыпламатычным прыкрыццем. Заўважу, дарэчы, што дзяржавы, якія маюць у нас у Беларусі свае пасольствы, таксама нічога новага ў гэтым плане не вынайшлі.

**— З гэтым больш-менш мне ўсё ясна. А як са славутым пятым упраўленнем, якое ажыццяўляла палітычны вышук, вербавала «стукачоў», змагалася з дысідэнцтвам і г.д.?**

— Яно скасавана.

**— Значыць, палітычны вышук у нас забаронены? Гэта дакладна?**

— Паўтараю, палітычнага вышуку ў нас зараз няма.

**— І, да прыкладу, мой тэлефон не праслухоўваецца?**

— Не, не праслухоўваецца. Ва ўсякім разе, органамі дзяржаўнай бяспекі. Паводле закона аб аператыўна-вышуковай дзейнасці, тэлефоны грамадзян могуць праслухоўвацца толькі з санкцыі пракурора.

У народзе ёсць аматары пагаварыць аб тым, што ў краіне татальна праслухоўваюцца літаральна ўсе тэлефоны. Магу засведчыць, што такога не было. Па-першае, у гэтым няма ніякай практычнай патрэбы, па-другое, калі б каму ў галаву ўзбрыла такая ідэя, яе б амаль немагчыма было б ажыццявіць з-за дарагоўлі — трэба было б стварыць вялізную службу перахопу тэлефонных размоў.

**— Тым не менш, калі заходзіць размова аб праслухоўванні тэлефонных размоў, усе адназначна маюць на ўвазе КДБ.**

— Некалі гэта было лагічна, бо толькі органы дзяржбяспекі маглі праводзіць так званыя аператыўна-тэхнічныя мерапрыемствы. Яны, па-першае, валодалі самай сучаснай спецыяльнай тэхнікай, а, па-другое, карысталіся найбольшым даверам пануючай сістэмы. Сёння ж такое права дадзена і органам унутраных спраў. Так што, Міхаіл Майсеевіч, калі я кажу, што ваш тэлефон не праслухоўваецца, дык маю на ўвазе толькі наша ведамства, за іншых сказаць не магу. Тым больш, калі гэтым пачалі зараз займацца камерцыйныя службы аховы, якім ніякі закон не пісаны. А набыць зараз за валюту самую сучасную апаратуру — не праблема. Раскажу такі выпадак. Нядаўна адзін знаёмы падвёз мяне на сваім «жыгульку» дадому. Пад'язджаем, ён працягвае мне нешта падобнае на радыётэлефон і кажа: «Вось нядаўна купіў, можаце пазваніць у сваю кватэру». Набіраю нумар і чую голас дачкі, якая з кімсьці размаўляе па тэлефоне. Бяры і запісвай. А да кватэры — метраў дзвесце. Я не кажу ўжо, што ёсць спецыялісты, якія прыватным спосабам зробяць і ўстановяць у патрэбным для «заказчыка» месцы «жучок» для падслухоўвання.

**— Мне здаецца, што менавіта органы дзяржбяспекі і павінны змагацца з дзейнасцю падобных «умельцаў», якія абыходзяцца без усялякіх пракурорскіх санкцый, ды й сакрэтныя службы, відаць, не вельмі гарантаваны ад іх цікаўнасці.**

— Ваша праўда. Нядаўна мы звярнуліся ў Саўмін рэспублікі з просьбай прыняць пастанову аб забароне падобнай дзейнасці камерцыйных структур.

**— Дарэчы, мяне заўсёды крыху здзіўляла, што нашы спецслужбы займаюцца і чыста, калі можна так сказаць, міліцэйскімі справамі — ловяць злодзеяў і іншых крымінальных злачынцаў. Мне здаецца, нідзе ў свеце такога няма. Спецслужбы — гэта спецслужбы, а паліцыя — гэта паліцыя.**

— Вашы развагі ў многім слушныя. Усё гэта ідзе ад старых традыцый, калі чэкісты займаліся і аднаўленнем чыгуначнага транспарту, і барацьбой з дзіцячай беспрытульнасцю, і да т.п. Ды й я, калі працаваў начальнікам аддзялення КДБ у Лепелі, мушаны быў ездзіць па фермах, правяраць, як там дояць малако, удзельнічаць у пасяўных і ўборачных работах, вядома, у якасці наглядчыка.

Мы, я лічу, усё-такі не праваахоўны орган у звычайным разуменні гэтага слова. Міліцыя, органы ўнутраных спраў ідуць ад злачынства, якое адбылося, каб адшукаць вінаватых і пасадзіць іх на лаву падсудных. Нашы ж функцыі

*(Працяг на стар. 12)*

для краіны светазлічэння. Таму невыпадкова, што ў кнізе «Храм і верш» шмат вершаў Алега Бембеля: пра пакаянне і цярпенне, пра Сына Чалавечага і Святы Покрыў над Беларуссю...

У дапытлівага чытача можа ўзнікнуць пытанне наконт таго, а што ж лічыць за духоўную паэзію, чым адрозніваецца яна ад усёй астатняй паэзіі? Не ўваходзячы ў падрабязнасці, напомнім, што здаўна класічным вызначэннем духоўнасці лічылася здольнасць чалавека ўспрымаць Усявышняга, Творцу сусвету і чалавека, «сумовіцца» з Ім. Гэтаму крытэрыю цалкам адпавядае жанр малітвы, малення. Штодня ўзносяць хвалу Богу вернікі, але як розніцца голас кожнага чалавека — не губляецца на шляху ўвыш, так і паэтычная *Асанна* мае свой тэмбр. Радкі Алы Канапелькі ў кнізе «Храм і верш» толькі па фармальнай прыкмеце звароту можна ўспрыняць як малітву:

**На развалінах дзяржаў і свету,**
**Божа мілы, голас дай паэту...**

**У астатні час зямной юдолі**
**Нашым душам я малю спатолі:**

**Песняю апошняга паэта**
**Хай любоў зямная будзе ўспета!**

**На кругах яе высокага свячэння**
**Скончым мы свае светазлічэнне.**

**Каб наступным жыхарам планеты**
**Свой адлічваць час ад песні гэтай.**

**Вырваўшыся з бед глухіх палону...**
**Наш пачаўся, можа быць, з праклёну.**

Праз скруху безнадзейнасці тут усё ж выбіваюцца надзея, вера ў працяг жыцця, што даецца чалавеку толькі духам. Увогуле, мабыць, сінонімам духоўнасці ёсць чалавечнасць, бо створаны чалавек «па вобразе і падабенстве» Божым. І да духоўнасці мае дачыненне ўсё тое, што памагае палюбіць бліжняга свайго, як сябе, але ж пры гэтым навучыцца любіць і сябе, што значыць «дар жыцця» ў сабе любіць...

Нарэшце прыйшоў час, калі «На парозе ацалелага Храма сарамліва здымаем шапкі» (Хрысціна Лялько), калі чуцен стаў голас званоў, якія загучалі пасля доўгай летаргіі тут, а на Беласточчыне ніколі не маўчалі.

Застаецца дадаць, што мастацкае афармленне кнігі «Храм і верш» зроблена Таццянай Місіюк, камп'ютэрны склад Юрыя Хмялеўскага. Выдадзены зборнік коштам Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы.

**Ґаліна ТВАРАНОВІЧ**

**Галоўная ж — Купала,**
**Царыца наша. Гэта сёння ёй**
**Спяваюць песні, ладзяць карагоды,**
**Яна жыве нядоўгае жыццё**
**Тут на зямлі... Кароценькая ночка,**
**Ёй дадзена, каб падарыць любоў.**
**Пасля ж прымае агнявую смерць,**
**На цэлы год, да новага Купалля.**

Другі пласт — новая вера. Але ж і яна толькі тады мецьме сілу, калі стане для народа сваёй. З ёй і народ узвысіцца. Адначасна і той, хто народу служыць. Нездарма Вітаўт прамаўляе:

**Жыві і веруй, мой святы народ.**
**Ты ўсклаў на галаву маю карону**
**І абавязак княства зберагчы,**
**Абараніць людзей ад злых напасцяў,**
**І з ворагаў сяброў сабе рабіць,**
**І сябру дараваць, калі ён — вораг.**
**Скарацца, адбівацца, нападаць,**
**І церабіць мячом сваю дарогу!**
**Як цяжка князем быць і верыць Богу...**

А тым самым і ўтвараецца падмурак дзяржаўнасці, узведзенай на Веры. Ёсць у нас гісторыя, дык навошта прыбядняцца! Ёсць у нас літаратура, дык чаму так слаба рупімся, каб яна выходзіла, за межы суверэннай дзяржавы?! І, пагодзімся, цяпер гэта рабіць куды цяжэй, чым раней. Што б ні казалі пра колішні дыктат Масквы, але колькі гадоў назад можна было разлічваць на публікацыі лепшых твораў у саюзных часопісах, ды і колішняе выдавецтва «Советский писатель» беларусаў не крыўдзіла, штогод кніжак па дванаццаць, а то і болей выходзіла. Цяпер «Современному писателю» не да прадстаўнікоў іншых літаратур. Таму найперш усё спадзяванне на «Нёман». Ён і імкнецца належным чынам прадстаўляць і рускамоўную літаратуру на Беларусі (у сакавіцкім нумары аповесць Ф.Конева «Воблака»), і даваць пераклады. Дзякуючы М.Шэлехаву цудоўна [illegible]алі па-руску два выдатныя прадстаўнікі беларускага замежжа: М.Сяднёў (дарэчы, у «Нёмане», у адзінаццатым нумары за 1991 год, друкаваўся яго раман «І той дзень надышоў») і У.Дудзіцкі, сапраўднае вяртанне якога беларускай літаратуры, думаецца, яшчэ наперадзе. А ў перакладзе А.Ждана «Версіі» Б.Пятровіча — пісьменніка надзіва арыгінальнага, са сваім светабачаннем і светаўспрыманнем. Ф.Яфімаў пераклаў В.Зуёнка. «Нам, беларусам, важна як магчыма хутчэй «знайсці саміх сябе», каб набыць сталасць уласнай нацыі» — так у некалькіх словах можна вызначыць пафас артыкула В.Каваленкі «Вяртанне да саміх сябе». А яшчэ ў «Нёмане» — «Гарым. Зноў гарым» В.Карамазава, старонкі ягонага дзённіка. Неблагая гэтым разам і крытычная падборка...

**М.АНДРЭНКА**

Анкета

***1. Ці пішацца сёння, і, калі без прымхаў, то што іменна?***
***2. Ці ўзнікала жаданне перагледзець набыткі, памяняць арыенціры, звярнуцца да іншых тэм і жанраў?***
***3. Сфера вашых жыццёвых інтарэсаў /так званае хобі/.***

Алесь Каско

# СЁННЯ ЎСЕ МЫ КРЫХУ ГАМЛЕТЫ

Адкрытыя, бескампрамісныя пытанні пастаўлены ў анкеце, і тут адно з двух: або палічыць іх за нетактоўныя і ўвогуле не адказваць, або адказваць гранічна шчыра, не тоячыся ні за іроніяй, ні за празмернай метафарычнасцю. Не без ваганняў выбіраю другое: здаецца, упершыню даводзіцца гаварыць пра сябе і сваю творчасць — гэта няпроста, а разам з тым адчуваю, што жаданне выказацца ўжо выспела.

Дык вось, калі шчыра: мне і раней, ад самага пачатку, вельмі рэдка пісалася «на ўзлёце», у часіны, калі паяўляецца тое, што Марына Цвятаева акрэсліла як «легкий огнь, над кудрями пляшущий». Большасць вершаў — плён нечага іншага, чым «лёгкий огнь». Роздуму, бадай, і найчасцей — роздуму скрушнага, а то й роспачнага: пра Час, які не «старэе» і не мяняецца — колькі стварае, столькі ж і нішчыць; пра мой Народ, які па дарозе з сівое даўніны парастрачваў свае доблесці дый забыўся на іх; пра Чалавека, гэтага «вянца прыроды», які між тым схіляе да найбольшай спагады і жалю, бо з усяго жывога адзін ён усведамляе і пакуты свае, і сваю смяротнасць... Прыгнечвала і асабістая несвабода, якую, аднак, не мог да канца асэнсаваць. Так, відаць, быў выхаваны. Вобраз разняволенага творцы наплываў аднекуль здалёк, з іншай эпохі ды іншага грамадскага ўкладу жыцця, і не знаходзіў працягу. Не суадносіцца ён ні з Арсеневай, ні з Жылкам, ні з Геніюш з той простай прычыны, што іхнія імёны, лёсы, творы былі па-за маім пазнаннем. Не ўвасабляўся ў тым вобразе нават Купала — ні як трагічны паэт-грамадзянін, якім заставаўся да канца сваіх дзён, ні як геніяльны паэт-мастак. Мае школьныя, а потым і некаторыя інстытуцкія настаўнікі неяк нясмела, безуважна закраналі эстэтычныя вартасці «Кургана» або «Адвечнай песні», уся вартасць твораў зводзілася да значнасці іх сацыяльнага зместу, і ў гэтым сэнсе ляўкоўскі паэтычны цыкл апынаўся на адным узроўні з імі, а то і ставіўся вышэй. Азначэнне «літаратура — спецыфічны від мастацтва» хоць і пераходзіла з падручніка ў падручнік, але неўпрыкмет ператварылася ў галаслоўе, саступіла фактычнаму: «літаратура — форма ідэалогіі».

Мне запярэчаць: талент, маўляў, шукае не апраўданняў, а выйсця, прабіваючыся праз любыя абставіны, як маладая трава скрозь бетон. Што ж, гэта праўда, але — надта жорсткая, бо тычыцца не аднаго творцы, а духоўнага стану цэлых пакаленняў. Меней было б «забетанаванай» глебы (зняволенага духу) — і не была б такою зрэджанай ніва беларускай культуры. А тое, што прарасло-прабілася: якім было б яно пры натуральных умовах росту, без выдаткавання сілы на пошукі выйсця з-пад «бетону»?

Можна, вядома, рабіць выгляд, што нічога не здарылася: такія былі рэаліі, а мы — дзеці свайго часу. Ды не менее нейкай невытлумачальнай крыўды. І стомы, якую заўважаю ў сябрах і адчуваю сам. Ці не з таго больш мудра — так прынята казаць — успрымаюцца цяпер клятыя пытанні быцця. Катэгорыя часу універсальная, падпарадкуйся ёй і не цешся, што можаш знайсці пачатак: нават калі вернешся, гэта ўжо будзеш не ты. І толькі аднаго пытання не магу аніяк далучыць да шэрагу невытлумачальных — пра мой народ. Не веру, што бяспамяцтва і пакуты яму пасланы звыш, не веру, што мы такія бяссільныя, каб не справіцца з уласным лёсам. Пра гэта думаецца часцей за ўсё. І пра гэта зрэдку пішацца, прычым — без кроплі гордасці за свой патрыятызм, які прымаеш не так за натуральнае пачуццё, як за наканаванне.

Міжволі зайздросціш тым, хто прыйшоў у літаратуру толькі што: свабода! Хочаш — апісвай павуціnne на гарышчы, хочаш — пацукоў у каморы. Давай волю сваім эратычным адчуванням, смела ўводзь у паэтыку вулічны фальклор. А ў пошуку арыгінальных форм пераступай не толькі класічныя каноны, а і размытыя межы сучаснага авангарду. Ніхто цябе не загоніць ні ў якія рамкі — не тое што гадоў дзесяцьпятнаццаць назад, калі наш друк не прапускаў нават верлібра, шырока і даўно распаўсюджанага ў сусветнай паэзіі.

Свабода творчасці — нязменнае права творцы. Іншая справа, як ён здолее распарадзіцца гэтай свабодаю. Пакуль што (колькі б я ні казаў пра міжвольную зайздрасць да маладых) яна падаецца мне апасродкаванаю. Усё яшчэ працягваецца пратэст супроць былой руціны і шэрасці. Уласна паэзіі, на жаль, мала, яна прыйдзе тады, калі пабольшае жыццёвай гармоніі і душэўнай раўнавагі (дарэчы, Восіп Мандэльштам нават у недаяданні бачыў вытокі масавага паэтычнага «псіхозу») і калі сённяшнія маладыя засяродзяцца нарэшце на тым, што паэзія — гэта ўсё-такі катэгорыя прыгожага і маральнага, а не вычварнага і хваравітага. Парасткі такога ўсведамлення, вядома ж, ёсць, як бы знарочыста ні затушоўвалі іх нашы «авангардысты». Напрыклад, мне зусім не прыкінуўся б напаўсамвыдатаўскі зборнік Славаміра Адамовіча, калі б у ім поруч з «аплявухамі грамадскаму густу» не было верша «Зямля Ханаан» ды некаторых іншых, народжаных з непадробных перажыванняў, з натуральнага прызнання вопыту вялікіх папярэднікаў, у дадзеным выпадку — Багдановіча, Караткевіча, якія аднолькава мужна неслі асабісты крыж, крыж свайго народа і ўсяго чалавецтва.

І яшчэ пра вопыт. Паколькі свет і сябе ў ім мы пачынаем пазнаваць найперш праз пачуцці, дык першасныя яны і ў творчасці, іменна яны даюць штуршок натхненню. Як і каханню, любові да маці або да роднага кутка. Але чытаеш сучасныя вершы і выразна бачыш, што зародак іх — не ў сэрцы, а ў галаве аўтара, надта ж ужо яны прыдуманыя, робленыя, з іх вытыркаецца і робленае — намаганнямі мозга — пачуццё ці, дакладней, яго грубыя абрысы. І ў чарговы раз робіш выснову: прыроду чалавека, ягоны жыццёва-філасофскі вопыт не праігнаруеш, прынамсі не ўтоіш пры гэтым уласнай няшчырасці. Вось такой высновы-арыентацыі не хацелася б мяняць ніколі, цягам доўгага ці кароткага чалавечага веку свайго, як бы з узростам ні прытуплялася сувязь са светам.

І не хацелася б мяняць стаўлення да класікі, фальклору, да нацыянальных традыцый з іх паўнакроўным жыццёвым павевам, да асаблівасцей нашай мовы, якім пазайздросціць могуць і мова польская, і французская з іхнім фіксаваным націскам у словах (з-за чаго, відавочна, так мала там рыфмаванай паэзіі). Усё гэта наш грунт, а толькі на трывалым грунце можна ствараць новае. Прасцей кажучы, спачатку трэба навучыцца чытаць і пісаць, бачыць і цаніць, каб вырасці як творца і асоба. Я ніколі, напрыклад, не задумваўся, які Пабло Пікасо мне падабаецца болей — ранні, рэаліст, ці позні, кубіст, бо, няспынна развіваючы магчымасці жывапісу, ён выключнага майстэрства і непаўторнасці дасягаў на ўсіх этапах сваёй творчасці. Як у нашай паэзіі Алесь Разанаў: ад гартаванага класічнага верша — да унікальнага вершаказа, у якім арганічна, на маю думку, паядналіся традыцыя і наватарства, нацыянальнае і агульначалавечае. Чым не арыенцір? Бяда, аднак, калі яму сённяшняму падражаюць слепа, не маючы ні дастатковага таленту, ні «дашкольнай» падрыхтоўкі, а галоўнае — не ведаючы, як цяжка падымацца на вяршыню першым.

Змена жанру... Калі ёсць схільнасць і жаданне, дык чаму б і не змяніць яго, паспрабаваць сілы ў іншым. Рабіў і раблю спробы ў прозе. Практыкаваннямі не дужа задаволены: скоўвае празмерная сцісласць, да якое прызвычаіўся ў вершах. А ёсць жа свая паэзія ў прозе, я гэта адчуваю, ёсць шырокая магчымасць выказацца пра жыццё, пра чалавека — і шырэйшая, бадай, чым у вершаскладанні, вось толькі засталося па-сапраўднаму намацаць і «ўлавіць» яе!

Ну, а пакуль што проза — адно з маіх «хобі», будзем так лічыць. Другое — журналістыка, хоць і выйшаў я ў свой час з Саюза журналістаў, хоць і называў тады газетчыкаў цыркавымі сабачкамі: сказалі гаўкаць — гаўкаюць, загадалі стаць на заднія лапкі — паслухмяна становяцца-служаць. Нямала пакрывіў душою і сам. Але гэта было тады... Тое-сёе перамянілася, пэўную вагу набыло газетнае слова. Яно — праўдзівае, дасведчанае, канечне, слова — патрэбнае сёння людзям, народу, які столькі гадоў драмаў ды цешыўся падзеямі, што адбываліся дзе-небудзь у Гандурасе ды Эфіопіі. Сёння народ хоча ведаць болей пра сябе, пра сваю краіну і неабыякавы да інфармацыі. Ужо не кажу пра магчымасці такога важкага журналісцкага жанру, як нарыс. Дык і супрацоўнічаю трохі са «Звяздою», трохі — з «ЛіМам».

Нарэшце — палітыка (самае сур'ёзнае «хобі»). Куды ад яе падзецца, калі на кожным кроку пішчом улазіць у сэрца і свядомасць. Калі бывае так, што займацца ёю і няма больш каму, асабліва ў нас на перыферыі, апрача паэту ды журналісту. Ступілася або паржавела каса, дык можна тады і бруском. Гэтак іранічна-горка сказаў Караткевіч. Мне смешна і скрушна сядзець у гасцях і пазіраць, як сябар-калега надоўга ўнурваецца ў тэлевізар, перажывае, абураецца або радуецца, а потым са злосцю цісне на выключальнік і лаецца на самога сябе: маўляў, на халеру мне трэба тая палітыка?..

Што ж, сёння ўсе мы ў большай ці меншай ступені Гамлеты. Самакрытычна або самаапраўдальна ацаніць зробленае, быць верным нацыянальным вытокам і традыцыям, прыродзе мастацтва або «разняволіцца» да суперавангарду і гульні ў вершы, гаварыць пра набалелае ці лавіць кан'юнктуру, замкнуцца ў сабе, цалкам засяродзіцца на «чыстай красе» ці хоць зрэдку выходзіць на бурлівую вуліцу — гэтыя дылемы народжаны самім жыццём, і рабіць выбар кожны творца будзе сам. Аднак ухіліцца, думаю, не зможа ніхто.

# ФРАГМЕНТЫ

***Аляксандр ЗІНОЎЕЎ жыве ў Мюнхене (яго «выставілі» з СССР у 1978 г.). Вядомы як антысталініст, філосаф, пісьменнік. Напісаў звыш 20 кніг, стварыў вучэнне, якое лічаць уласнай рэлігіяй. Ніжэй прыводзім урыўкі з кнігі А. Зіноўева «Иди на Голгофу» (ці выдавалася яна ў Расіі — звестак не маем). І хоць яго светапоглядная эвалюцыя многіх сёння здзіўляе, але, як мудра сказана, — «напісанае застаецца».***

«Дабро і зло. Што я раблю, калі людзі хочуць рабіць зло? Такія людзі да мяне не прыходзяць. Таму, хто жадае рабіць зло, парады не патрабуюцца. Ён і без парад сам добра ведае, як гэта робіцца. Акрамя таго, я не вучу ні дабру, ні злу. Я вучу таму, як жыць у такім разрэзе быцця, дзе губляюць сэнс паняцці дабра і зла...»

«Душа. Я зыходжу з факта існавання душы і не шукаю яму навуковага тлумачэння. Гэта — пэўная дадзенасць, усведамляемая пэўнымі людзьмі і відавочная ім самім. Калі чалавек заўважае ў сабе наяўнасць душы, яму не трэба тлумачыць, што гэта такое. Калі ж не заўважае, яму не зразумець, што гэта, пры любых тлумачэннях, падобна як сляпому немагчыма растлумачыць светлавыя адчуванні, а глухому — гукавыя. Душа ёсць нешта падобнае на шостае пачуццё.

Калі ты адчуў у сабе душу, г. зн. зведаў азарэнне, ведай, што табе лёсам дадзены вышэйшы дар з усіх магчымых дароў быцця. Валоданне ім і ёсць найвышэйшае шчасце. Беражы гэты дар, узмацоўвай і ўзбагачай сваім наступным падзвіжніцкім жыццём. Не мяняй гэты дар ні на што іншае, інакш мена будзе няроўнай для цябе. Усё астатняе ў параўнанні з ім ёсць прах, «суета сует». Зрабі крок па шляху, на які кліча цябе незвычайны дарунак, і ты сам пераканаешся ў гэтым. /.../

Я адмаўляю душу як нейкую ідэальную і недаступную для назірання субстанцыю, лічачы яе не менш дадзенай рэальнасцю, чым аб'екты, якія вывучаюцца навукай. Душа даступная для назірання. Яе адчувае сам чалавек, што валодае ёю, а для іншых яна праяўляецца ў яго паводзінах».

«Ты і іншыя. Зберагай асабістую годнасць. Трымай людзей на дыстанцыі. Зберагай незалежнасць у паводзінах. Стаўся да ўсіх з павагаю. Будзь цярпімым да чужых перакананняў і слабасцей. Не прыніжайся, не халуйствуй, не падхалімнічай, чаго б гэта ні каштавала. Не глядзі ні на кога звысоку, калі нават чалавек нікчэмны і заслужыў пагарду. /.../

З кар'ерыстамі, інтрыганамі, даносчыкамі, паклёпнікамі і іншымі кепскімі людзьмі не будзь блізкім. З кола благіх людзей выйдзі. Абмяркоўвай, але не спрачайся. Размаўляй, але не разглагольствуй. Тлумач, але не агітуй. Не адказвай больш таго, пра што пытаюцца. Не прыцягвай да сябе ўвагі. Калі можаш абысціся без чужой дапамогі, абыдзіся. Сваю дапамогу не навязвай. Не заводзь занадта інтымных адносін з людзьмі. Не лезь да іншых у душу, але і не пускай нікога ў сваю. /.../

Не насілуй іншых. Насілле над другімі не ёсць прыкмета волі. Толькі насілле над сабой ёсць воля. /.../»

*Мюнхен, 1985*

## СВЯТЛО ДАЎНІХ СТАГОДДЗЯЎ

Яшчэ ў 1991 годзе была заснавана міжвыдавецкая серыя «Літаратурныя помнікі Беларусі». Першым у гэтым кірунку, як вядома, поспеху дасягнула выдавецтва «Полымя». Чытач змог пазнаёміцца з такімі кнігамі, як «Люд беларускі» М. Федароўскага, «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах» У. Сыракомлі, «Падарожжа па Палессі і беларускім краі» П. Шпілеўскага, «Літоўская гаспадыня». А толькі што з'явіўся першынец і ў выдавецтва «Мастацкая літаратура».

«Кніга жыцій і хаджэнняў» — так называецца гэты зборнік (укладанне, прадмова і каментарыі А. Мельнікава, навуковы рэдактар царкоўнаславянскіх тэкстаў і іх перакладаў В. Чамярыцкі). Пад адной вокладкай сабраны «Аповесць жыцця і смерці святой і блажэннай і найпадобнейшай Еўфрасінні...», «Слова пра манаха Марціна...», «Памяць святога айца нашага Кірылы, епіскапа Тураўскага», «Жыццё і цярпенне найпадобнейшага айца нашага Аўрамія...», «Аповесць пра дзіва, якое ўчынілася ад абраза найсвяцейшае Багародзіцы...», «Памяць святых наваяўленых пакутнікаў Антонія, Іаана, Яўстафія», «Хаджэнне Ігнація Смаляніна ў Царград», «Пэрэгрынацыя, або Паломніцтва Ясна Асветленага Князя Ягамосьці Мікалая Крыштофа Радзівіла ў Святую Зямлю», «Дзённік, пісаны ў Англіі пра тое, як там вандравалася і жылося» Т. Білевіча.

Як бачым, творы гэтыя ўзніклі на значным прамежку часу — паміж з'яўленнем першага з іх і апошняга пралёг шлях ці не ў пяць стагоддзяў. А з часу напісання «Аповесці жыцця і смерці... Еўфрасінні» і зусім мінулася восемсот гадоў. А калі ўлічыць, што мова жыцій і хаджэнняў спецыфічная (пераклады, выкананыя А. Мельнікавым, С. Шупам, Л. Чарнышовай, безумоўна, адметнасць гэтую захавалі), а ў самім змесце столькі «дзівосаў», да якіх наўрад ці можна паставіцца сёння інакш, чым з усмешкай...

У некаторых чытачоў можа ўзнікнуць і запытанне, на што ў прадмове «Кнігі цудаў і вандраванняў» звяртае ўвагу і А. Мельнікаў: «... ці варта марнаваць хуткаплынны час, перагортваючы старонкі гэтае кнігі? Што новага могуць даць сэрцу і розуму містычныя праявы святога Меркурыя, дыдактычная казань полацкай Еўфрасінні?». Ён жа і адказвае: «Можа, і нічога... акрамя магчымасці зведаць, што думалі, чым захапляліся нашы далёкія і не вельмі далёкія продкі, у што верылі, чым ганарыліся, што любілі, чым грэбавалі. А гэта, далібог, не так і мала!». І працягвае: «Нашы продкі жывуць, пакуль раскрываюцца драўляныя, у падрапанай скуры кніжныя пераплёты, пакуль хоць чыёсьці вока ўглядаецца ў бляклыя літары, у якіх — думы, і мары, і спадзяванні. Кнігі гэтыя даюць нам апошні і з кожным годам усё меншы шанц аб'яднаць нашы пачуцці з пачуццямі тых, хто быў у вяках да нас, аб'яднаць — і ў здзіўленні прамовіць словам апастала: «Вы — святло свету! Хай жа свеціць святло ваша перад людзьмі!»

Застаецца дадаць, што ўслед за першынцам у «Мастацкай літаратуры» з'явяцца і іншыя «дзеткі». Серыю «Літаратурныя помнікі Беларусі» папоўняць такія выданні, як «Дыярыушы. Дзённікі», «Летапісы. Хронікі», а таксама зборнік беларускай польскамоўнай паэзіі XIX стагоддзя «Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай».

**А. М.**

## НАВОШТА НА СТАЛІЦУ АЗІРАЦЦА?

Менавіта так вырашылі ў Віцебску і падрыхтавалі «Руска-беларускі тлумачальны слоўнік вытворча-значных тэрмінаў і паняццяў». Аўтары яго — В. Аранская і У. Слабін. У дапаможнік увайшло 1133 тэрміны. Там жа, у Віцебску, слоўнік быў і выдадзены. Шкада толькі, што вельмі невялікім накладам — усяго 100 адпаведнікаў.

## СПЯВАЛІ РАЗАМ З БАРДАМ

На вялікую радасць берасцейскіх аматараў аўтарскай песні выступіў самадзейны спявак Алег Атаманаў. І калі два гады таму публіка з такой нагоды абмяжоўвалася толькі досыць шчырымі воплескамі, то на гэты раз і ў лялечным тэатры, і ў актавай зале педінстытута спявалі разам з Алегам.

Узбагаціла свае фонды тэлебачанне, і ёсць шанц, што нас перастануць тэрарызаваць «Лашадкай шэрай», вадой з вядомага ярка і г.д. Папоўняцца і фанатэкі мясцовых меламанаў, але, напэўна, ніякіх грошай сапраўдныя фаны не пашкадавалі б за вартасны студыйны альбом.

**Я. БЯЛАСІН**

*г. Брэст*

Паэзія

Анатоль ВЯЛЮГІН



# З КНІГІ «ЗАКЛЁН НА СКРУТНЫ ВІР»

## НА ПЛОШЧЫ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Ля хорама дзяржавы
яліны і шынелі
на холадзе куржава
дасвеццем заінелі.

Здароў, сухі аўторак!
На сесіі сягоння
у лямансе разборак
агніцца меч Пагоні.

Ні меча, ні арала
як след не браўшы ў рукі,
гарлаюць генералы —
акопнікаў унукі.

А іх, штабных у зорках,
што спрытна зарабілі, —
як снегіроў на горкай
аснежанай рабіне.

Пасля крутой размовы
аб мове і Расіі
яны на час зімовы
вакацый зноў прасілі.

З аўторка да суботы
пасля агнішча духу
на гойданках дрымоты
дабрэла пасядуха.

Сягоння ж ён пабудка,
парт-гвардыі Савета, —
у сёдлах крэслаў пудка
адкінуты газеты.

На плошчу кліча плошча
галосна а зубаста.
Калоціць залу пошчак
прысуду плошчы:
— Баста!..

Нямала ж перла бродам
да вабных круч кар'еры,
між імі і народам —
міліцыі бар'еры.

Не злічыш да суботы
пад ветласцю жалезнай,
на колькі тысяч ботаў
падкута незалежнасць.

*1994*

## ЗАКЛЁН НА СКРУТНЫ ВІР

На сконе дня за часам дымнагрывым,
калі заціх пяхоты абмалот,
на сыпкім зрэзе жоўтага абрыву
мігціцца беражанак вострых лёт.

Цяпер бывай, бліндаж у тры накаты —
пячорны побыт і жыцця гарант.
Чалом зямлісты, а душой крылаты
чытае ўголас кнігу лейтэнант.

Знаёма ўсё: рака бяжыць, як бегла,
у ёй аржа балотнае руды
(а можа, кроў), і чуе камень белы
за плёсам тупат стомленай арды.

Туманіць сэрцы пад гарэлым клёнам,
стагі і шлях пад вежамі аблок,
пявучым словам, плачам і заклёнам
на скрутны вір
чаруе скрутна Блок.

Счарнелы клён і музыка сінечы,
у даўкай горычы палын-зямля.
...Чытае войнік,
побач шэлест нечы —
на голас Блока выпаўзла змяя.

*1993*

## ПРАЛЕСКІ

*Васілю ВІТКУ*

Кроплі пагоднага неба,
сіняя ласка вясны.
Больш анічога не трэба
для маладой сівізны.

Промень усмешкі кранецца
губ і абветраных шчок:
сёння ў метро прадаецца
сіняй пяшчоты пучок.

Смецце скарбовае фаўны
з беднай кішэні грабеш,
сцяўшы прад цёткаю слаўнай
дзікае слова: грабеж.

Скідкі патрэба не просіць.
Звабіць, кране да слязы
лесу вясновая просінь
у пояску дзеразы.

Будзем жа ціха маліцца
труднай а любай зямлі.
Бачыце, як расцвілі
вочы панурай сталіцы!

Колькі той радасці трэба —
палі на сэрцы і сны
кроплі пагоднага неба,
сіняя ласка вясны.

*1994*

## НЕРАСТ

Яшчэ ў бары шарпак
іглістa крые верас.
Шчапае лёд шчупак
і прэ з ракі на нераст.

У лузе між куп'я
на водмелі зарэчча
малочнікаў сям'я
ля бруха маткі трэцца.

У шумавінні дна
самцуюць ягамосці.
Наводмашкі
з чаўна
ударыць хіжа восці.

Удача — будзь здароў!
Грабі да пераброду.
Цвіце здабычы кроў
на плаўніках заходу.

*1994*

## НАДПІС НА КНІЗЕ

На стальніцы твой палетак,
рыфму, браце, затачы.
Выміраюць не паэты,
выміраюць чытачы.

— Што нам кніжка? Дайце рэпы
ды картоплі з малаком! —
Аблыселыя нардэпы
б'юць у грудзі кулаком.

Горад стаўся крамным д'яблам
з поснай ношкаю патрэб,
едуць ньютаны да яблынь
зарабіць сабе на хлеб.

Спеўных рэек моўкне скерца
у цішы барвяных крон.
Падаліст асыпаў сэрца,
вершаваны сніцца сон.

Хараством зямлі сагрэты,
рыфму, майстра, затачы:
выміраюць не паэты —
выміраюць чытачы.

*1993*

## БЕЖАНЦЫ З ПАЛЕССЯ

Налілася ў жаўранка сляза.
Не да спеву — так пяршыць у горле.
Сцяўшы голас лютасцю ляза,
прывід смерці ў нетру песні горне.
Стогнуць песні хворае зямлі,
разгукаць дубровы не паспелі.
Скавышы па свеце размялі
шары попел прыпяцкай Пампеі.

А ў сталіцах звонка ззяе медзь,
у літаўры Мая б'юць парады.
Хоць бы вестку
з верхатур займець:
як нам жыць...
Ні весткі,
ні парады.
Бежанцы запрудзяць бальшакі,
выйдзе чын са стрэчнае машыны:
«Можна жыць і сеяць, землякі...» —
Дзверцы ляснуць,
рушаць лімузіны,
толькі пыл
на лес
і азярыны.
Паімчаў рысісты дабрадзей,
на прывале скінуўшы падковы.
Здайце, людзі, ў гомельскі музей
чаравікі стольніка Слюнькова.

Колькі ў нас блюзнерства і маны!
Балансуе лёс на коўзкай кладцы,
хоць збірай у зонах рызманы,
каб на Марс...
ці хоць куды падацца.
Дзікі айсцер
займшэлы дах
ахіне жалобным апярэннем.
З сэрца
збудзеш
на чужыну шлях,
а не вырвеш
сосны на кладах
і дубы на Прыпяці
з карэннем.

*1986, 1994*

## МІКОЛА НАГНІБЕДА

У прозвішчы — і род, і лёс.
Да першае сустрэчы
я думаў:
коннік ці матрос...
нашчадак вольнай Сечы...
Такі, напэўна, на хаду
парою хмарнай змогі
сагне ў казіны рог біду,
брыду шугне з дарогі.

Усё супала:
жыццялюб,
ад роду непакора
у стэпа ўзяў пшанічны чуб,
а сінь вачэй — у мора.
Яму з салёных парусоў
сарочку маці шыла —
паўнютка сонца, сініх сноў
лірычнае вятрыла.

*

На сконе зім
палілі з ім
сухой лістоты наспы.
Клубіўся дым,
паганскі дым
на дачах Кончы-Заспы.
Марзянка пудкае жаўны
драбіла смоль зацішку.
Свае рыбацкія чаўны
смаліў Андрэй Малышка.
Ягоны покліч баявы
пачуўся з пекла смагі:
— Стаўляй жа, бацька кашавы,
на лысы пень біклагі!..

Дняпра-Славуціча сыны,
мы бралі па кілішку
за дружбу, хмельны шал вясны
і салаўя Малышку.
Дастаў русявы сечавік
яшчэ патайны глечык,
і ласкай матчынай
*ручнік*
спавіў братэрства плечы.
Нясём, здалося, на плячах
Зямлю — жыцця калыску,
а вечнасці Чумацкі Шлях
паслаўся ў зорным бліску.
*
Пасол крылатай музы, ён
дастаўся ў Мінск на свята,
а мой кватэрны тэлефон
штодня маўчыць зацята.
Тады знайшоў мяне ў лясах
на той гары заслаўскай,
куды з палону біты шлях
калісьці стэпам слаўся:
пад поўняй ззяла серабро
лісцьвянае раіны;
як меч Рагнеды,
стыг Дняпро
у мораку даліны...
Крывава-смутных звад папас,
круты і валахаты
адкрыўся нам у позні час
з высокіх вокан хаты.
Паэт замроіўся:
— Паглянь,
дымок на лугавіне
бялее чэзнучы, як здань
самотніцы князіні...

У вокнах сосна.
Пах смалы.
Гусцее смольна ціша.
Лясная варта,
бы малых,
на лапах крон калыша.
У мілых згадках маладосць
вяртаецца паволі.
Здаровы смех, і поруч госць
як некалі ў застоллі.
А жолуд чарачкі, на жаль,
старэчай згодна мерцы.
— І сталь стамляецца... і сталь... —
Руку паклаў на сэрца.
Пагляд напоены журбой
асенняга спачынку,
і ніткай матухны святой
на веях павучынка.

Ад павучынак на раллі
да воблакаў сінечы —
усё адплачуць жураўлі
апошняе сустрэчы.
*
Чуеш, браце...
«Кру-кру» зноў на сэрца лягло,
залачэе крыло
на барвяным вятрыле зары
ад Сулы да Дзвіны.
І Хатыні званы
адгукнуліся сумна ў бары.

Чуеш, браце...
Гудзе свята пчол на вярбе,
тут чакаюць цябе
на свой злёт партызаны-арлы,
і матулі з Расон,
як вядзецца здавён,
на Вялікдзень накрылі сталы.

Чуеш, браце...
Вясной ходзіць песня ў журбе.
Хай узнімуць цябе,
ахінуўшы крылом,
жураўлі.
*— Чую, дружа мой, чую,*
*хоць даўно ўжо начую*
*над грымучым Дняпром*
*у зямлі.*
*І з вятрамі, дажджамі*
*весень грае грамамі,*
*свігавіцамі гасне ў рацэ.*
*Я душу выслаць мушу,*
*бо скалы сам не зрушу,*
*шчэ й Малышка ляжыць на руцэ...*
*1994*

# КАТАРСІС,
# ЦІ ЭЛЕГІЯ АДРАДЖЭННЯ

## МАЎКЛІВАЯ РАЗМОВА З СЯБРАМ

***Мы, беларусы, вытанчаныя ў сваёй памяркоўнасці, усё роўна максімалісты. Максімалізм наш дзіўны, бо схаваны глыбока-глыбока ў нас саміх. Што ні кажыце, а самыя шчырыя пачуцці месцяцца ў сэрцах нашых; самыя патаемныя думкі залеглі ў сховах душ нашых; непрымірымыя думкі пакутуюць у галовах нашых. Проста язык наш адзеравянеў і не можа выказаць боль, пакуты ды памкненні нашы іншым...***

***..Баліць, баліць сэрца за раскрыжаваную ды знявечаную Бацькаўшчыну ў дзяцей яе!***

Будзе навальніца!

«Варыць, як у катле», — звычайна ў такіх выпадках кажа мая маці. Да млоснасці душна і далягляд ужо зацягнуўся смугою. Яшчэ гадзіна-другая — і пакоцяцца валамі чорныя хмары. Спачатку здалёк, а потым бліжэй і бліжэй будуць чутны грымоты і ўрэшце з нябёсаў абрынецца залева. Зямля, усё жывое на ёй атрымае доўгачаканую ахалоду, але разам з тым вецер і дождж зблытае ды пакладзе жытнёвыя палеткі, а пярун спаліць чыйсьці будынак.

Няма ў навальніцы памяркоўнасці. І што б ні казалі выбітныя фарысеі, няма памяркоўнасці і ў людзей. Не было ніколі. Ды, пэўна, і не будзе.

...Наш легкавік вырываецца з жалезабетоннага лабірынту Менска і мы кіруем на захад. Побач — мой сябра. Яму ўпершыню давялося прысутнічаць на фронтаўскім пасяджэнні і ён, скупіўшы ўсю літаратуру, якую прапаноўвалі бадай што адзіныя нацыянальныя камерсанты, зараз моўчкі праглядае яе. Маўчу і я ды калі-нікалі кідаю на яго позірк удзячнасці за гэтую маўклівасць...

Як я разумею цябе, мой дружа!

Для цябе ўсё гэта ўпершыню, усё страшэнна цікава. Ведаю па сабе. Сапраўды, напачатку яно захапляе кожнага. Колькі тут чыстай беларускай гаворкі, палымяных прамоў і сардэчнай заклапочанасці пра сённяшняе і будучае Бацькаўшчыны! Ды яшчэ нечага роднага і блізкага, што нельга перадаць словамі.

У кожнага з нас пасля пэўных жыццёвых недарэчнасцей з'яўляецца неспатольная прага быць дасведчаным ва ўсім, што адбываецца наўкол. Доўгія, пакутныя пошукі дабрыні і справядлівасці звычайна безвыніковыя і застаецца ўрэшце адзін шлях, які прыводзіць цябе ў шарэнгі Адраджэнцаў. І тады з самымі найлепшымі памкненнямі мы горача бяромся за справу, мкнемся ахапіць адразу ўсё. А ісціна адна. Усяго не ахопіш, але і ты, як я некалі, думаеш зараз інакш. Ты, дружа, павінен быць пераборлівы ды разважны. Шмат у нашай справе недарэчнасцей, пустазвонства і так мала дзеянняў. Ты вось чытаеш упершыню папяровыя штохвілінныя дэкларацыі і непахісна верыш ім. Прачытаўшы другі раз, ты зразумееш іх аднастайнасць і аднадумнасць. Успомні: гэта ўсё было ў тваім жыцці. Толькі з той розніцай, што было яно аднастайнае і па-марксісцку аднадумнае. Успомні, як некалі ты безаглядна лічыў нікчэмных асоб правадзейнымі і разам з усімі верыў іх хлусні. Калі верыш, дык не думаеш пра існасць веры.

Я чамусьці ўпэўнены, што ты ва ўсім разбярэшся сам. Не адразу, але сам расставіш усе кропкі над «і».

Зараз мяне радуе іншае. Добра, вельмі добра тое, што ў цябе пачала балець душа за родны куток, за зялёны поплаў, ціхую затоку, дзе плюскае рыба, за дуброву і маркотны шум яе верхавін. Ты — яшчэ адна кропля, яшчэ адна невялічкая часцінка нашага адраджэнскага асяроддзя. Нас стала болей, вось што радуе і цешыць душу.

Ты — яшчэ адзін, хто неабыякава ставіцца да зямлі бацькоў сваіх.

О, зямля беларуская! Каго ты толькі ні нараджала ва ўлонні сваім: генія і дурня; святую, чыстую, як твае крынічныя воды, душу і д'ябла; чалавека праведнага, боскага пачатку і ката; забойцу і бязвінную ахвяру; героя-волата і пакаленні манкуртаў-здрайцаў. У тваіх сівых берагах некранутае згрувашчанне самае гісторыі, дзе непрымірымая варажнеча месціцца са стваральнай працай, братазабойчыя Усход і Захад учыняюць нечуваны гвалт і пішуцца першыя кнігі.

Усё гэта было ў нашай старонцы, мой сябра!

Так. Усё было. Было ды сплыло, незваротна патанула ў сутарэннях чужой міфалогіі і нашага бязглуздага безгалоўя.

Вось паглядзі! Паабапал дарогі — разбураныя муры старажытных бажніц з выбітымі, быццам выкалатымі вачыма, вокнамі. Жудасны малюнак нашай рэчаіснасці. О, тройчы памяркоўны беларус! (А мне іншы раз здаецца, што ты проста падліза, які згубіў свой нацыянальны гонар.) Замест таго, каб паўстаць супраць ворага, рабаўніка і захопніка, ты бяздумна глумішся над сваёй памяццю, бяздумна нішчыш тое, што стагоддзямі стваралі і чым ганарыліся твае продкі, нічога не стварыўшы сам. Літасцівы Божа! Калі ты ёсць, калі ты бачыш усё гэта, даруй яму, безгаловаму, і за ўсе грахі яго пакарай мяне, няверуючага ў цябе, бо, я ўпэўнены, заўтра ён усё роўна саграшыць супраць самога сябе, а да цябе прыйдзе прасіць літасці не за грахі свае, а за звычайнае глупства, і будзе паўтараць без патрэбы імя тваё ўсюды ды шаптаць модлы, не думаючы пра іх сэнс.

Вось такі ён, сябра мой, неспагадны да памяці сваёй беларус, спрадвеку зняверaны ў свой шчаслівы лёс.

Зараз ты лічыш, што душою і сэрцам аддaны Бацькаўшчыне. Ты мкнешся дзейнічаць і бачыць вынікі свайго плёну. У цябе светлыя думкі, і здаецца, што іх так проста данесці да людзей: да кожнага паасобку і ўсіх разам. Не! Не проста! Ой як не проста! Ты хутка ўпэўнішся, што твае намаганні дарэмныя. Простыя людзі не будуць разумець цябе. Нават не захочуць слухаць. Яны будуць абыякавыя да ўсяго таго, ад чаго табе баліць сэрца. У іх вачах ты прачытаеш абыякавасць, непрымірымасць да сваіх памкненняў і нават варажнечу. Вельмі хутка прыйдзе час, калі ты зразумееш, што твая любоў да свайго народа — звычайнае няспраўджанае каханне. Настане цяжкі момант спрэчкі з самім сабою. Цябе ахопіць няўмольная роспач і захочацца плюнуць на ўсё ды паслаць усіх да д'ябла. Тады, у час роспачы, нават на запытанне блізкага табе чалавека: «Што з табою?» адкажаш абыякава: «Усё добра! Усё так добра, што няма ніякай магчымасці думаць пра жыццё». Ад жыцця, вядома, можна адмовіцца лёгка, калі ты маеш сілу волі. Яно так. Было такое і са мною. Але вось калі ты пакахаеш па-сапраўднаму, невылечна захварэеш жаданнем бескарысна служыць сваёй гарапашнай Радзіме, ты будзеш паводзіць сябе, як сапраўдны мужчына, які да бяспамяцтва кахае блудніцу, ды, застаўшы яе ранкам з іншым, знаходзіць сілы пераадолець сябе і ўвечары прыносіць ёй букет пунсовых ружаў.

Ты — кахаеш! І ніякая сляпая бяздумная выпадковасць ужо не можа перайначыць цябе. А прытым яшчэ хачу зазначыць: не вер хціўым дарадцам, якія лагодна нашэптваюць, што каханне псуе характар. Гэта бесхарактарнасць псуе каханне.

Кахай! Кахай сваю Бацькаўшчыну, сябра!

І між тым памятай, што ў сляпой роспачы ты можаш згубіць кантроль над сваімі паводзінамі і распачнеш чыніць неасэнсаваныя ўчынкі ці проста тварыць глупства. Можа здасца табе, што гэтым няўмольным памкненням не будзе мяжы. Няварта тут спасылацца на Бога. Ён ніколі не імкнуўся стварыць нас непагрэшнымі.

У жыцці бывае ўсялякае. І самае дзіўнае, што кепска з цягам часу забываецца, робіцца неістотным, іншы раз нават недарэчным. З гадамі ты пачынаеш цвяроза глядзець на рэчы і падзеі, становішся больш разважлівым ды нечакана для сябе знаходзіш выйсце нават з безвыніковых сітуацый.

Памятаеш заўжды толькі добрае!

Шчаслівыя імгненні жыцця — яны сапраўды імгненні, як само нашае жыццё. Не мною прыдумана, што ад нараджэння да смерці — адзін крок. А колькі добрага хочацца зрабіць людзям!

Цябе, пэўна, як і мяне, зараз хвалюе найбольш адно пытанне: чаму так павольна ідзе наша Адраджэнне? Звычайна ў такіх выпадках я пытаю сябе: «А колькі нас, як казаў адзін занадта разумны чалавек, «шчырых» беларусаў? Ці многа тых, хто самаахвярна і самаадданa можа служыць гэтай ідэі? Чаму не бясконцыя нашыя шыхты?» Бачу, што ты са мною ва ўсім пагаджаешся, але тут жа хочаш запярэчыць мне і ўсклікнуць: «А інтэлігенцыя!»

Інтэлігенцыя?! Колькі іх, сапраўдных нацыянальных інтэлігентаў, тых, у чыёй душы нязгасным полымем свеціць знічка беларускасці? Пальцаў на руках з астаткам хопіць пералічыць іх. А астатнія? Ці пятая калона суседняй дзяржавы, ці проста людзі, якія гібеюць у невуцтве і распусце. Ды яшчэ п'юць. П'юць, як апошнія недарэкі на вёсцы ці няўцямныя рабацягі ў мястэчку. П'юць, як на падводных лодках, як п'юць па ўсёй Расеі. Без усякай меры і прычыны на тое. Як тыя, хто не мае ніякай культуры. І лаюцца.

П'янка і лаянка — адзінае, што мы змаглі пераняць за столькі гадоў рабства.

Тут ёсць аб чым гаварыць і бясконца спрачацца. Асноўны водараздзел у пытанні беларускасці прайшоў па інтэлігенцыі. Іменна тут адбылося размежаванне ідэй, думак, поглядаў, меркаванняў ды памкненняў. Час раскідаў нас па розныя бакі нябачных барыкад.

Паглядзі, нават сярод нас, аднадумцаў, колькі разнастайных арыгінальных ідэй, дзіўных меркаванняў. Адзін плача, што мы апошняе пакаленне, якое сяк-так валодае беларускаю моваю. Другі, наадварот, самаўпэўнена сцвярджае, што мы апошняе пакаленне, якое дрэнна гаворыць па-беларуску. Нехта кляне маці і бацьку ды вінаваціць іх у тым, што нарадзіўся ён тут, а не там, дзе паўднёвае сонца песціць грудзі красуням-мулаткам і райскае жыццё атаясамляецца са спелым бананам. Іншы, бяздумна ўзяўшы на веру словы слыннага паэта зямлі беларускай, гундосіць, што ў беларусаў нічога няма...

Бясконцы хваласпеў нашых меркаванняў. Усе мы любім казаць, але не любім слухаць іншых.

Колькі, колькі тут лішніх, нічога не азначальных слоў! Колькі непатрэбных тлумных думак! А галоўнага ніхто не бачыць. Ніхто не бачыць, што ў нас няма веры ва ўласныя здольнасці. Няма ніякага жадання паспрабаваць сябе ў сапраўднай справе, адчуць сябе гаспадаром. А галоўнае — баімся: атрымаецца, што тады рабіць будзем?

Зараз мы проста, растапырыўшы вушы, з замілаваннем слухаем чужыя мудраванні былых язычных вешчуноў, а нам варта проста працаваць. Працаваць да стомы, да знямогі дзеля нашага Адраджэння, забыўшы ўзаемныя крыўды і пакінуўшы пры сабе ўласныя амбіцыі.

У час роспачы ў такіх выпадках я заўжды кажу адно: «Божа! Дазволь майму народу ўстаць на ногі, і пабачыш, усё астатняе ён адолее сам. І тады яскрава спраўдзяцца словы другога слыннага паэта: «Беларусь! Твой народ дачакаецца залацістага яснага дня!»

І зноў чытаю, мой сябра, у тваіх вачах запытанне: «А што астатнія беларусы? Няўжо ў іх няма ўласнага гонару?»

Ёсць, сябра! Вядома, ёсць! Лёкайскія прыстасаванскія звычкі ёсць у майго народа, які вякамі шматпакутна гібеў у цемрыве рабскага брацтва. Што тут успамінаць гісторыю? Непадуладна яна нашаму розуму.Мы проста не ведаем яе, а жывём гістарычнымі байкамі і казкамі. Прыклад таму — нашы адносіны з Расеяю зараз. Не ўсё тут тлумачыцца спракавечным братэрствам ці імперскімі амбіцыямі, хоць пра гэта гавораць усе. Расейцы не бачаць, наўмысна не хочуць бачыць у нас самастойнага пачатку, нашых спрадвечных каранёў. І самае страшнае, што мы ў большасці сваёй таксама не хочам бачыць, не хочам зразумець, што мы зусім іншы славянскі народ. Мы паслухмяна ва ўсім імкнёмся выпетрана ўсхваляць вялікага ўсходняга брата, плюнуўшы на сваю ўласную годнасць. І таму зразумела, што яшчэ не год і не два будуць хіліцца ў паклоне ўсё на той жа ўсход нашы спіны, а тутэйшыя фарысеі будуць дзе трэба і не трэба казаць пра наш бязродны пачатак і спрадвеку бядотны стан.

Заўжды помні, мой сябра: не бывае геніяльных народаў, геніяльнымі бываюць яго прадстаўнікі.

У дзіўны час жывём мы з табою. Вялікія памкненні і маленькія поспехі нашы спадарожнікі. І таму іншы раз узнікае жаданне жаданае выдаць за існае. І не дзіва, што іншы раз чуюцца воклічы: воля, нарэшце дачакаліся! Так кажуць толькі недасведчаныя людзі. Я згодны толькі з тым, што мы атрымалі магчымасць глядзець на свет сваімі вачыма, без бальшавіцкіх акуляраў. Глядзім ачмурэла і дзівімся, як усё непаўторна цікава. А яшчэ — як усё складана ў гэтым свеце, да чаго мы зусім не падрыхтаваны. І тым не менш мы не заўважаем шматлікіх недарэчнасцей нашага асяроддзя. Не можам заўважыць (нават пагадзіцца з тымі, хто нам аб гэтым кажа!), што ўсё роўна мы глядзім на свет не ўласнымі вачыма, а праз акуляры расейскасці. І доўга яшчэ будзем глядзець, бо яны ў нас саміх, у нашых душах, нашым светапоглядзе, складзе думак, звычках, учынках. Што яно не наша, не беларускае, чужое, нам цяжка зараз распазнаць, а яшчэ цяжэй прыняць на веру ды пазбавіцца.

...Хутка бяжыць час, мы едзем дамоў, на захад. І я ўдзячны табе, мой сябра, што ты ні разу не патурбаваў мяне, не перабіў мой маўклівы расповяд самому сабе, не зблытаў і без таго блытаныя мае думкі. Магчыма, я ў чымсьці памыляюся, ты думаеш інакш. Гэта неістотна. Паглядзі на неба. Яго напалову заслалі хмары і сям-там далягляд перакрэслівае бліскавіца. Хутка! Хутка будзе ачышчальная навальніца, пасля чаго над нашым краем заззяе яркае сонца!

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

*г. Масты*

ЛіМ
ЧАСАПІС



# КАМПАЗІТАРЫ — ГОСЦІ МАЛАДЗЕЧНА

**У канцэртнай зале Маладзечанскага музычнага вучылішча імя М. К. Агінскага адбылася вечарына-сустрэча з кампазітарамі Яўгенам Глебавым ды Валерыем Івановым. У канцэрце ўдзельнічаў сімфанічны аркестр г. Маладзечна пад кіраўніцтвам Рыгора Сарокі. Перапоўненая зала сціцшылася — і палілася цудоўная мелодыя В. Іванова «Родныя берагі». Яе змяніла «Фландрыя» з балета «Ціль Уленшпігель» Я. Глебава. Кожны музычны твор суправаджалі авацыі, букетамі кветак віталі кампазітараў. Цікавая і разнастайная праграма дазволіла дырыжору Р. Сароку прадэманстраваць тонкі густ, шырокую тэмбравую палітру сімфанічнага аркестра, яго багатыя выразныя рэсурсы.**

**Безумоўна, без спонсара сімфанічнага аркестра — фірмы «Слава» — наўрад ці ажыццявіліся б усе творчыя мары музыкантаў. Кіраўнік фірмы Вячаслаў Рак — былы выпускнік Маладзечанскага музвучылішча — застаўся верным сябрам музыкантаў. Хіба не дзівосная з'ява ў нашым цяперашнім жыцці: камерсант выдаткоўвае грошы не на «Снікерс» ці «Марс», а падтрымлівае аркестр, адраджаючы даўно забытыя высокія традыцыі мецэнатаў мінулага!**

**Сустрэча з вядомымі кампазітарамі — Я. Глебавым ды яго маладзейшым калегам В. Івановым — прайшла ў цікавай і змястоўнай форме, у памяць пра маладзечанскую вечарыну гасцям былі ўручаны каштоўныя падарункі.**

**Н. ШУНЬКО,**
старшыня калектыўнай сябрыны ТБМ імя Ф. Скарыны Маладзечанскага завода парашковай металургіі

# ЗНОЎ ЗДЗІЎЛЯЕ МУЗКАМЕДЫЯ

**Падчас традыцыйнага ўжо, але не такога гучнага, як у мінулыя гады, Міжнароднага фестывалю «Я люблю балет» Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі Беларусі паказаў прэм'еру. Нязвыклай для гэтай сцэны навінкай стала рамантычная мроя «Шапэніяна», якая нагадала славутую харэаграфічную імпрэзу М. Фокіна на музыку Ф. Шапэна. Пастаноўку «Шапэніяны» на беларускай сцэне ажыццявіла знаная балерына з Расіі Любоў Кунакова.**

# СВЯТА СКОНЧЫЛАСЯ. ПЫТАННІ ЗАСТАЛІСЯ...

**Віцебск, бадай, адзіны абласны горад, дзе ў многім знікае паняцце культурнай правінцыйнасці і, няхай нясмела і цяжка, нараджаюцца свае мастацкія традыцыі. Можна, вядома, звязаць гэта з фэстамі ды фестывалямі ў нядаўна пабудаваным музычным комплексе альбо са з'яўленнем неафіцыйнай арт-галерэі Алеся Пушкіна. Але хутчэй за ўсё імідж горада змяніўся яшчэ напачатку стагоддзя, калі адно за адным узнікалі тут легендарныя цяпер імёны мастакоў: Пэна, Шагала, Малевіча, а з утварэннем мастацкай школы — і Ермалаевай, Якерсона, Лісіцкага, Ахола-Вало... Нават пасля дзесяцігоддзяў знішчальнай дзяржаўнай палітыкі, якая перапыніла развіццё супрэматызму, мастацкая навучальная ўстанова Віцебска (а яна за савецкі час перайменоўвалася некалькі разоў) была адметная каларыстамі: Цвіркам, Ранам, Дзежыцам, Кудрэвіч, з ёю звязаны імёны Ахрэмчыка, Паслядовіч, Міхалапа і іншых.**

**З нагоды 75-годдзя Віцебскай мастацкай школы ў Віцебскім мастацкім музеі адбылася навуковая канферэнцыя, куды былі запрошаны даследчыкі з Мінска, Масквы, Пецярбурга, актыўна паўдзельнічалі і мясцовыя навукоўцы, выкладчыкі мастацка-графічнага факультэта педінстытута. Яны ж і прадэманстравалі сённяшні стан, у якім знаходзіцца мастацкая адукацыя Віцебска, наладзіўшы выставу разам з іншымі мастацкімі аб'яднаннямі горада — Саюзам мастакоў, «Квадратам», дзіцячай школай. А наперадзе — міжнародны шагалаўскі пленэр, у якім прымуць удзел і мінскія, і віцебскія мастакі.**

**Свята скончылася, падведзены вынікі, пададзены прапановы. Але пытанні для гаворкі засталіся. Ды і не дзіўна гэта, калі мы толькі-толькі спрабуем прааналізаваць тую гісторыю, што захоўвалася ад нашага ўсведамлення за ідэалагічнымі замкамі.**

Н. Ш.

Тэатр

# УСЁ — АД ЧАЛАВЕКА

## ГОМЕЛЬСКІЯ ПАРАТЭАТРАЛЬНЫЯ ЎРАЖАННІ

### ЗАМЕСТ ПРАЛОГА

На Усебеларускай тэатральнай канферэнцыі, што адбылася ў канцы мінулага года, мяне зацікавіла выступленне мастацкага кіраўніка Гомельскага абласнога драматычнага тэатра Уладзіміра Караткевіча, які расказаў пра свой уласны творчы эксперымент — стварэнне цыклу беларускамоўных спектакляў (нагадваю, Гомельскі тэатр з дня свайго заснавання працуе на рускай мове) для розных узроставых груп школьнікаў. На канферэнцыі шмат гаварылі, дыскутавалі пра шляхі беларусізацыі ў тэатральным мастацтве, і ў адным з перапынкаў, у гутарцы з У. Караткевічам я сказаў, што, маўляў, крытыку трэба ўсё ўбачыць на ўласныя вочы, а потым ужо рабіць адпаведныя высновы. Тады і дамовіліся аб сустрэчы ў Гомелі...

... Раніца была цяжкая. Амаль усю ноч не спаў: гатэль «Гомель», што на прывакзальнай плошчы, вобразна кажучы, «святкаваў» да самай раніцы: спяваў, скакаў, рагатаў аднiчасова на ўсіх паверхах. Мелодыі пераважалі паўднёвыя, каўказскія. Не скажу, што спявалі кепска, але тэмпераменту і моцы было занадта, яго хапіла б ці не на два дзесяткі вайсковых ансамбляў песні і танца. Стралянiны, праўда, не было — і гэта суцяшала. А тое, што ў суседніх нумарах, мяркуючы па выразным «гукавым афармленні», надзвычай актыўна праводзіліся своеасаблівыя «семінарскія» заняткі па праблематыцы першага айчыннага супербаевіка «Сексалогія» (выданне Беларускай энцыклапедыі), то гэта толькі яшчэ раз даказвала агульнавядомае: покліч жыцця — непераможны.

... У 9 гадзін раніцы ад службовага пад'езда Гомельскага аблдрамтэатра павольна рушыў у дарогу аўтобус з артыстамі. У апошнюю хвіліну мне ўдалося-такі паспець; далей усё пайшло, як дамовіліся.

### 10.00. «РАЗУМНАЯ ДАЧКА»

Вялікая актавая зала гомельскай сярэдняй школы N 47 была паўнюткай. Гледачы — вучні першых, другіх і трэціх класаў. Па маіх назіраннях, гэта самыя ўдзячныя гледачы і самыя актыўныя саўдзельнікі сцэнічнага відовішча (ці не гэтую катэгорыю гледачоў меў на ўвазе калісьці К. С. Станіслаўскі, калі гаварыў, што менавіта глядач з'яўляецца «сатворцам» спектакля?). Відаць, У. Караткевіч (ён аўтар інсцэніроўкі і пастаноўшчык) добра гэта разумеў, будуючы спектакль у форме актыўнага дыялога, сцэны — з глядзельнай залай. Гэты прынцып заяўляецца адразу, з першых хвілін сцэнічнага дзеяння: выходзіць акцёр Аляксей Бычкоў (ён выконвае ролю Бацькі) і звяртаецца да маленькіх гледачоў з цёплым прывітаннем. Дзеці дружна адгукаюцца, актыўна ўключаюцца ў прапанаваную тэатрам вясёлую забаву. Атмасфера актыўнага ўзаемадзеяння сцэны і глядзельнай залы — самая каштоўная і плённая асаблівасць спектакля для дзяцей. Выканаўцы роляў Надзея Бяляева (Маці), Яўгенія Канькова (Кацярынка), Маргарыта Дзевятка (Зорачка), Аляксандр Лаўрыновіч (Пан) і Аляксандр Камінскі (Мурлыка) працуюць з поўнай творчай аддачай, аздабляючы сцэнічныя вобразы знаёмых казачных герояў выразнай пластыкай (тут хочацца адзначыць работу балетмайстра Таццяны Свірыдэнкі), разнастайнымі акцёрскімі знаходкамі, у аснове якіх — стыхія тэатральнай гульні. Яна патрабуе ад выканаўцаў не толькі добрай тэхнікі, але і здольнасцей да імправізацыі, бо на кожным прадстаўленні нечаканасці ад маленькіх гледачоў, якія з вялікім імпэтам і задавальненнем падтрымліваюць сваю ўлюбёную гераіню Кацярынку супраць хітрага і жорсткага Пана. Улюбёнка, дзякуючы свайму розуму і ведам, перамагае пана-недарэку, што сустракаецца дзецьмі з абавязковаю ўдзячнасцю...

Заўважу, што даўно не выпадала бачыць у нашых тэатрах дзіцячых спектакляў, пастаўленых галоўнымі рэжысёрамі (цяпер яны называюцца мастацкімі кіраўнікамі). Звычайна спектаклі для дзяцей ставяць пачаткоўцы, студэнты тэатральных навучальных устаноў, у лепшым выпадку — чарговыя рэжысёры. Насуперак гэтай прыкрай завядзёнцы Уладзімір Караткевіч не палічыў такую работу другараднай, стварыў захапляльнае сцэнічнае відовішча, якое стала для маленькіх гамяльчан сапраўдным тэатральным святам. Адначасова гэты спектакль, на мой погляд, даволі актыўна і дзейсна выконвае яшчэ адну важную функцыю ў сённяшніх працэсах нацыянальна-культурнага абнаўлення і развіцця, — ён у захапляльнай, вынаходлівай форме дэманструе хараство і мілагучнасць роднай мовы.

### 14.00. «СВЕТЛЫ СЛЕД...»

Іншая атмасфера панавала ў актавай зале другой гомельскай школы N 61. Дзякуючы намаганням дырэктара школы Васіля Сцяпанавіча Мікалаенкі, яна пераўтварылася ў своеасаблівы ліцэй мастацтва. Сюды прыходзяць вучыцца тыя, хто захапляецца выяўленчым мастацтвам і тэатрам. Ёсць тэатральныя класы, у якіх вучні, акрамя школьнай праграмы, вывучаюць гісторыю сцэнічнага мастацтва, знаёмяцца з акцёрскім майстэрствам. Тут ёсць свой школьны тэатр, якім кіруе (прабачце, што ўжываю штамп, але іншае вызначэнне знайсці цяжка) энтузіяст сваёй справы Тамара Абрамаўна Шляхтман. Яна ў свой час атрымала рэжысёрскую адукацыю ў БДТМІ, Гомельскі тэатр узяў шэфства над школай, дапамагае касцюмамі, дэкарацыямі, асвятляльнай тэхнікай. Дапамог і ператварыць звычайную актавую залу ў сапраўдную тэатральную.

Зразумела, што гледачы на спектакль «Светлы след...» прыйшлі ўжо даволі падрыхтаваныя, здольныя ўспрымаць і разгадваць шматлікія «рэбусы» сучаснай тэатральнай мовы.

А зацікаўленасці ды ўвагі вымагала перш за ўсё атмасфера самога спектакля, пастаўленага У. Караткевічам па творах Максіма Багдановіча. Жанр пастаноўкі — музычна-паэтычная кампазіцыя. (Прызнаюся, калі ўбачыў у праграмцы гэтае традыцыйна-звыклае вызначэнне стасункаў тэатра і паэзіі, засумаваў... І як жа, думалася, тэатральныя творцы будуць вырашаць вечную праблему-пытанне — чым здзіўляць свайго гледача?.. Назіраючы за сучасным творчым працэсам, мне нярэдка прыходзіць сумная думка, што многія сённяшнія майстры наогул адмовіліся ад вырашэння гэтай складанейшай і, адначасова, цікавейшай мастацкай задачы, маўляў, нашага гледача, атрымаўшага своеасаблівую тэлевізійную «адукацыю», ужо нічым здзівіць нельга...)

Ужо ў сцэнічным афармленні (яно належыць рэжысёру) — відавочнае імкненне стварыць пэўную атмасферу: уздоўж задніка выцягнуліся невысокія, у рост чалавека, белыя калоны, на якіх стаяць бронзавыя падсвечнікі. Каля кожнай калоны — па адным крэсле. У глыбіні сцэны вісіць вялікі партрэт Максіма Багдановіча. Складаная структура шматколернага асвятлення надае сцэнічнай прасторы таямнічасць і непрадказальнасць...

Неўпрыкмет, павольна ўзнікае мелодыя — лірычная, шчымлівая, яна адразу бярэ неспакойную глядзельную залу ў свой салодкі палон. Усталёўваецца тая рэдкая тэатральная цішыня, у якой можна пачуць стук сэрца. А музыка (кампазітар Васіль Кандрацюк) працягвае лірычны маналог... Пакуль глядач са здзіўленнем і душэўнай радасцю прыслухоўваецца да ўласных пачуццяў, на сцэну нетаропка, разважліва выходзіць Вядучы (гэту ролю выконвае сам рэжысёр) з прыгожым падсвечнікам, на якім гараць дзве свечкі. Імклівае полымя скача, пераўтвараецца ў ледзь прыкметныя бліскучыя кропелькі, прыцягвае позіркі гледачоў, нараджае прадчуванні... Загучалі вершы Максіма Багдановіча, вершы, таямніцу чарадзейнай моцы якіх ніколі і нікому да канца не спасцігнуць, не зразумець. Іх можна толькі адчуць і парадавацца ўсведамленню таго, што ёсць на белым свеце такія дзіўныя з'явы, якія нясуць у сабе хараство і гармонію...

Спектакль адразу і рашуча ўцягвае гледача ў такі неабходны сёння ўсім нам роздум аб лёсе Бацькаўшчыны, роздум пра сэнс жыцця, яго спрадвечныя маральныя каштоўнасці. Усё прыходзіць і адыходзіць на гэтай зямлі, і толькі светлы след (добра, калі светлы, чысты след!) застаецца пасля нашага жыцця...

Мастацкая структура пастаноўкі пазбаўлена штучнай складанасці, яе аснову складаюць пяць пар юнакоў і дзяўчат (іх ролі выконваюць С. Лагуценка і А. Шагалава, Т. Зміцюра і А. Старчанка, Р. Радзькін і Н. Дзяберына, Ю. Марціновіч і М. Дзевятка, Т. Ганчарова і У. Карака). Кожная пара (дзяўчаты сядзяць у крэслах, юнакі стаяць побач) раскрывае пэўную тэму: Айчыны і яе лёсу, кахання, пошуку сэнсу жыцця, роздуму аб гармоніі і хараstве. І можна толькі пашкадаваць, што спектаклю забракавала дынамікі дзеяння, развіцця і сутыкнення розных характараў, думак, назіранняў у сцэнічным апавяданні пра трагічны лёс самога паэта і яго радзімы. Тут спрацавала рэжысёрскае рашэнне пластычнага малюнка спектакля: падкрэсленая статыка мізансцэн дазваляла выканаўцам выкарыстоўваць толькі адзін сродак акцёрскай выразнасці — голас. Натуральна, заставалася яшчэ і сама акцёрская фактура: твар, вочы... Але большасць выканаўцаў — пачаткоўцы і для іх рэжысёрская задача аказалася вельмі складанай. Хоць, напрыклад, вопытны акцёр Уладзіслаў Карака знайшоў адметныя фарбы для перадачы пранікнёнага лірызму вершаў Багдановіча. Непасрэднасцю пачуццяў, сцэнічнай выразнасцю і абаяльнасцю вылучалася таксама маладая актрыса Алена Шагава.

Спектакль здзіўляе сваім фіналам, у якім удзельнічаюць зусім маленькія дзеткі. Яны ўзнімаюцца на сцэну, запальваюць свечкі і чытаюць неўміручую «Пагоню». Іх звонкія галасы, пазбаўленыя ўсялякага штучнага пафасу, падхоплівае эмацыянальна насычаная асаблівым драматызмам музыка, і фінальная акрэсленая кропка пераўтвараецца ў глыбокае, змястоўнае шматкроп'е...

Магчыма, у другой глядзельнай зале спектакль будзе гучаць з іншымі акцэнтамі і адценнямі, і ўспрымацца па-іншаму, але ў той зімовы дзень ва ўтульнай зале гомельскай сярэдняй школы N 61 «Светлы след...» прагучаў і быў успрыняты своеасаблівым тэатральным санетам, які сваім эмацыянальным уздзеяннем на пачуцці нагадаў славуты паланез Агінскага «Развітанне з Радзімай». Памятаеце, як нешта журботна-пяшчотнае нараджаецца ў глыбіні душы, і вы пачынаеце са здзіўленнем і радасцю ўсведамляць, што Радзіма — не проста яшчэ адно прыгожае слова?..

### 19.00. «ДАГАРЭЛА СВЕЧАЧКА...»

Тэма Радзімы, яе трагічнага лёсу стала галоўнай і ў спектаклі «Дагарэла свечачка да палічкі...» А. Петрашкевіча, паказанага ў той дзень вечарам на малой сцэне, асталяванай у невялікай зале на другім паверсе тэатра. Гэты спектакль я ўжо бачыў у Мінску ў час восеньскіх гастроляў Гомельскага калектыву. Тады, на малой сцэне Рускага тэатра пастаноўка гамяльчан, прызнаюся, асабліва моцнага ўражання на мяне не зрабіла. П'еса мне падалася маладзейснай, апавядальнай. Гледачоў тым разам было зусім мала і акцёрскія «флюіды» амаль не знаходзілі зваротнай сувязі. А без гэтага сцэнічны твор робіцца падобным да той расліны, што змагаецца за сваё існаванне ў бязводнай пустыні...

Глядзельная зала малой сцэны Гомельскага тэатра была паўнюткай. Зноў, ужо ў каторы раз, пераканаўся ў адной бясспрэчнай ісціне: сапраўды, хвалюючы спектакль можа нарадзіцца толькі тады, калі разам з рэжысёрам, драматургам, акцёрамі працуюць і гледачы. Яны ж адгукаюцца, як вядома, толькі тады, калі тэма, прапанаваная тэатрам, іх па-сапраўднаму цікавіць і хвалюе.



*Людміла Гарбунова (Марфа) і Уладзіслаў Карака (Лявон) у спектаклі «Дагарэла свечачка да палічкі...» А. Петрашкевіча*

У цэнтры спектакля трагічны лёс беларускай сялянкі Марфы. Шмат пакутаў і самых розных выпрабаванняў выпала на яе долю: Вялікая Айчынная вайна адабрала мужа і аднаго з сыноў, потым на Афганскай вайне загінуў апошні сын, а цяпер яшчэ і Чарнобыльская бяда гоніць з роднай вёскі, з роднай хаты...

Уладзімір Караткевіч (тут нельга не ўхваліць рэжысёра за шматгадовую вернасць творчай дружбе з драматургам-аднадумцам) зноў спалучыў у сваёй асобе сцэнографа і пастаноўшчыка. Уся сцэна задрапіравана чорным сукном. Падлога таксама чорная. Самыя неабходныя дэталі абмалёўваюць інтэр'ер вясковай хаты: стол, лава, на задняй сцяне ікона, партрэт сына, традыцыйны сямейны фотапартрэт. Пачатак спектакля ціхі, простых: выходзіць актрыса М. Дзевятка (Любка), за ёй У. Карака (Лявон), потым, апошняй, Л. Гарбунова (Марфа). У. Карака бярэ гітару, асцярожна кранае адну струну, другую, пачынае спяваць... Спявае аб бацькоўскім кутку, аб радзіме, дзе нарадзіўся, убачыў матчыны вочы, пачуў калыханку... І раптам, нечакана, з вуліцы далятае істэрычна-камандны голас: «Граждане села Словень! Эвакуация назначена на 20 часов 30 минут! При себе иметь одно место!»

Гэта ж як трэба кагосьці ўгнявіць, каб зноў і зноў па нашай зямлі пракатваліся хвалі смяротнай бяды (на гэты раз радыяцыйнай!), выпрабоўваючы людзей на жыццядольнасць, мужнасць, цярплівасць і шмат іншае, што робіць народ непераможным перад любой навалай... Але не сёння сказана: усе пачаткі на гэтым белым свеце ад саміх людзей...

Дык што — зачараванае кола? Можна толькі здагадвацца і спадзявацца, што нейкі ратунак ёсць, павінен быць, вось толькі дзе ён?..

Стваральнікі спектакля, дакрануўшыся да самых пякучых праблем нашага сённяшняга (і ўчарашняга!) існавання, пераканаены ў адным: ратунак прыйдзе тады, калі чалавек здолее адчуць сябе годнай асобай... Так, нікуды ад гэтай вялікай і вечнай ісціны не дзецца: усё на нашым свеце — ад людзей...

Спектакль У. Караткевіча з уласцівай яму творчай адметнасцю пазбаўлены знешніх мудрагелістых рэжысёрскіх прыёмаў і знакаў, усе намаганні пастаноўшчыка скіраваны на выяўленне псіхалогіі чалавека, яго духоўнага свету. Рэжысёру ўдаецца стварыць, на мой погляд, галоўнае, рашаючае ў мастацтве: адлюстраваць Чалавека з яго непаўторным лёсам, з яго Часам, з яго жыццём, пакутамі і радасцямі...

Увасабленнем менавіта такога героя стала Марфа — жанчына, я б сказаў, праметэеўскага складу характару. Менавіта на такіх трымалася і сёння трымаецца беларуская зямля. Тут ужо і самы час сказаць пра выдатную акцёрскую работу Людмілы Гарбуновай — адной з вядучых актрыс гомельскай трупы. Актрыса вядзе сваю ролю ў некалькі стрыманай манеры, але гэта не пазбаўляе створаны сцэнічны той неабходнай эмацыянальнай энергетыкі, якая знаходзіць актыўны водгук у глядзельнай зале і выклікае разнастайныя пачуцці, думкі, суперажыванні. Больш за тое, мне падалося, што свой гомельскі глядач (а гэта, нагадаю, была ў абсалютнай большасці моладзь!) стаў галоўным партнёрам актрысы, партнёрам на дзіва ўважлівым, тонкім, эмацыянальным. У выніку — высокі, трагічны напал пачуццяў у сумеснай рабоце тэатра і гледача, глыбокі, змястоўны роздум аб нашым жыцці, на шляху якой паўстала новая бяда...

Тры спектаклі, пастаўленыя Уладзімірам Караткевічам для школьнікаў рознага ўзросту, аб'ядноўвае адна галоўная тэма — лёс Радзімы. Гэту тэму, як мы бачым, можна вырашаць па-рознаму. У работах гамяльчан нельга не заўважыць адной вельмі каштоўнай рысы — непадробнага мастакоўскага і грамадзянскага хвалявання творцаў за будучае падрастаючага пакалення, якому і адрасуюцца пастаноўкі.

## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

Вяртаўся ў гасцініцу позна ўвечары ў гуморы (крытыку сёння не так ужо і часта шанцуе на харошыя спектаклі, асабліва ў абласных тэатрах). На прыступках стаяў даволі шчыльны натоўп моладзі. «Тусавацца» на пранізлівым ветры іх прымусілі, як я бачыў, два дужыя міліцыянеры, якія ў дзвярах гасцініцы «фільтравалі» жадаючых трапіць у цёплы хол. У гэты момант да мяне імкліва падскочылі дзве дзяўчынкі — прыгожыя, намаляваныя як лялькі.

— Мужчина, пожалуйста, проведите, там нас подружки ждут! — лагодна папрасіла адна.

Я зірнуў на гадзіннік, было ўжо блізка да дванаццаці:

— А не позна?

— Мужчина, пожалуйста, — уступіла ў размову другая «лялька», — проведите, мы вас отблагодарим!..

— Мужчина, вы ведь действительно мужчина! — у голасе першай «лялькі» пачуліся «прафесійныя» інтанацыі.

Я адчуў, што маю паўзу сяброўкі разумеюць па-свойму, таму адказаў:

— Вам, паненачкі, даўно трэба спаць, заўтра ў школу можаце спазніцца...

— Ой, да это писатель, не видишь, белорусски выпендривается! — другая «лялька» пацягнула сяброўку за шырокі рукаў яркай курткі і, змераўшы мяне адпаведным позіркам, дадала з максімальнай іроніяй, — идите, возрождайтесь, мужчина!

Вакол дружна зарагаталі.

Хтосьці фальцэтам выкрыкнуў:

— Дорогу возрожденцу!

Гэты заклік патануў у новым выбуху жарабячага рогату мясцовых «тусоўшчыкаў».

Нарэшце, я трапіў у гасцініцу, але мае тэатральныя ўражанні, прызнаюся, крыху пабляклі...

... Высновы рабіць не хочацца. Тэатр і рэальнае жыццё, з'явы, вядома, розныя... І... не варта з гэтай прычыны сумаваць?

Тут, відаць, трэба ставіць кропку, бо злавіў сябе на думцы, што вяртаюся да пачатку — пад уплывам спектакляў Уладзіміра Караткевіча і яго сатворцаў — акцёраў, драматургаў, гледачоў...

**Рычард СМОЛЬСКІ**

# НАРАДЖАЕЦЦА ТРАДЫЦЫЯ

***У Тэатры-лабараторыі беларускай драматургіі «Вольная сцэна» адбылася літаратурная вечарына гумару і сатыры.***

Што 1 красавіка — дзень смеху, на Беларусі, шчыра кажучы, не адчуваецца. Нават тыя «Юмарыны», што спантанна ўспыхваюць у розных гарадах на розных мерапрыемствах, прысвечаных гэтаму дню, хутчэй нагадваюць чэзлыя рэшткі смехатворства, прыгнаныя «юмарскімі» хвалямі з Усходу. І ўсё ж прыемна адзначыць, што ў нас нарэшце нараджаецца свая традыцыя сустракаць дзень смеху: ужо другі год запар на 1 красавіка ладзіцца беларускамоўная вечарына сатыры і гумару.

Год таму ў Доме літаратара была праведзена першая падобная вечарына, якая называлася «Тутэйшоўка маладых жартыстаў», дзе не вельмі сталыя літаратары, барды, акцёры дэманстравалі свае сатырычныя, гумарыстычныя, іранічныя, парадыйныя, поўныя радаснага запалу альбо едкага сарказму творы. «Тутэйшоўка» прайшла паспяхова, і, як вынік, некаторыя з маладых літаратараў аб'ядналіся ў табалу «S-тэт», якая сёлета правяла другую вечарыну сатыры і гумару пад назвай «Ачмурэлы чорны вечар».

Табала (па слоўніку В. Ластоўскага «табала» — гэта натоўп) «S-тэт», як паведаміў вядучы вечара, уяўляе сабой каля дзесятка маладых беларускіх літаратараў (у асноўным паэтаў), аб'яднаных не столькі агульнымі творчымі падыходамі, колькі пэўнай эстэтычнай гульнёй. Хлопцы называюць адзін аднаго дзядзькамі, а дзяўчат — ладамі (праўда, ніводнай дзяўчыны ў табале пакуль няма). Кіручая рада — Руя, на чале са Стодам, ёсць Вяжбіт, які адказвае за інфармаванне табалоўцаў, і ёсць галоўны кансультант — старэйшы дзядзька, Папеж. У табалу могуць уваходзіць маладыя літаратары да 27 гадоў, пасля гэтага ўзросту яны за пэўныя заслугі становяцца Папежамі, альбо ганаровымі гасцямі. Усе табалоўцы з'яўляюцца аматарамі тэатра, таму і сабраліся яны пад дахам «Вольнай сцэны», а галоўнаму рэжысёру В. Мазынскаму нададзены ганаровы тытул Дзедзіша.

Хоць вечарына і была прысвечана чорнаму гумару, але ні пошласці, ні яўнай «чарнухі» тут не было. Чорны гумар (у лепшым сэнсе гэтага словазлучэння) у некаторых момантах проста ператвараўся, калі так можна сказаць, ва ўсмешку з-пад хмары, што сапраўды ўласціва беларусам (асабліва гэта адчувалася ў вершах Іллі Сіна), ці ў сумную іронію (вершы Севы Гарачкі). З сарказмам і экспрэсіяй гучалі творы Сяргея Патаранскага. Ведання гістарычных шляхоў літаратуры патрабавала інтэлектуальная пародыя Алеся Туровіча. Палітычнай пародыяй на погляды цяперашняга сярэдняга жыхара Беларусі можна назваць твор Кастуся Ворсіна, які быў цёпла сустрэты публікай. Таксама спадабаліся забаўныя песенькі і гумарыстычнае апавяданне Сержука Мінскевіча, а яго парадаксальная фраза перад выступленнем магла б паслужыць эпіграфам да вечарыны.

З бутафорскім чэрапам у руцэ ён падышоў да мікрафона і сказаў: «Жыццё чорнае, час чорны, свет чорны, усё чорнае... А Ерык (чэрап) — белы. Значыцца, ёсць у кожнага з нас унутры светлае... І толькі тады, калі мы адчуем гэта сваімі ўласнымі Ерыкамі, можа, і настане прасветленне».

На вечарыне была прэзентавана першая кніга Сержука Мінскевіча «Зборнік абсурдэлек», выдадзены самвыдатаўскім шляхам. Невялічкі стос гэтых кніжачак быў разабраны яшчэ да перапынку.

Нягледзячы на тое, што са сцэны шмат гаварылася пра сумнае, у зале былі і ўсмешкі, і смех, і апладысменты. Сярод гасцей выступалі: Янусь Малец з аддзела літаратуры «Вожыка», паэт Алесь Емяльянаў, малады літаратар Генадзь Кажамякін, Наталля Кучмель праспявала народную песню; закрыў першую частку дыпламант 1-га фестывалю аўтарскай песні «Залатая горка» бард Алег Мізула.

Спектакль Міколы Казачонка «Часны сэктар», незвычайны сам па сабе, з'явіўся моцным, заключным акордам вечарыны беларускага гумару. І хоць яна і пакінула пасля сябе розныя меркаванні, але, відавочна, перадавала гледачу вялікі станоўчы зарад і звярнула ўвагу грамадскасці да беларускага нацыянальнага жыцця.

Магчыма, першая «Тутэйшоўка» ў будучым пераўтворыцца ў вялікі фестываль беларускага гумару.

**В. ДАНІЛЕНКА**

# ДЭБЮТ У СЛОНІМЕ

У часопісе «Тэатральная Беларусь» была надрукавана п'еса Андрэя Федарэнкі «Жаніх па перапісцы». Сам аўтар адзначае, што «п'еска задумвалася і пісалася мною, як пародыя на меладраму, пародыя на маленькія, будзённыя трагедыі звычайных «беларускіх савецкіх» урбанізаваных людзей, жыццё якіх уціскаецца ў чатыры сцяны стандартнай сяміметровай кухні. Але, пачаўшы пісаць, правіць і перапісваць, калі больш-менш героі пачалі мне здавацца жывымі, я стаў шкадаваць гэтых людзей і неяк незаўважна для сябе змякчаў іхнія словы, дзеянні...»

Рэжысёр Слонімскага драматычнага тэатра Валерый Бандарук знайшоў адпаведныя фарбы і для стварэння дыхтоўнага сцэнічнага твора. Пастаноўку першыя гледачы ўспрынялі вельмі цёпла.

Аферыст Чалы (С. Бачкоў) па перапісцы знаёміцца з адзінокімі жанчынамі.. Такое знаёмства адбываецца ў яго і з Клаваю (Н. Ільчанка). Але гэтым разам яму не пашанцавала: трэба браць Клаву за жонку. Тады ён з дапамогай Жуліка (І. Ерш) становіцца «ахвярай» ялцінскай мафіі, а яшчэ (гэта ўжо рэжысёрская прапанова) крадзе ў Клавы грошы. На дапамогу прыходзіць бацька Клавы (В. Багушэвіч), які некалі сядзеў у турме...



*Іна Ерш (Жулік) і Сяргей Бачкоў (Чалы).*

У п'есе А. Федарэнкі паказана, як бацька ідзе да знаёмага Верхаводы, які стаў сапраўдным мафіёзі, за дапамогай. Яго людзі ў чорным дастаўляюць Чалага да Клавы. У пастаноўцы слонімскіх артыстаў, наадварот, бацька сам, без аніякай дапамогі, спраўляецца з Чалым і Жулікам. А замест Верхаводы і яго людзей рэжысёр у спектакль увёў міліцыянера (артыст В. Сявец), які арыштоўвае аферыста Чалага. Як бачыце — тут не да фарсу...

І ў п'есе, і ў спектаклі, дзякуючы мастацкім дэталям, надзвычай выяўлены аблічны і норавы людзей; варта вылучыць Уладзіміра Навуміка, які сыграў дзядзьку Кандрата, Ніну Жукоўскую, якая стварыла вобраз Халімонаўны, і Іну Ерш, якая выдатна выканала ролю Жуліка. Вельмі каларытна падаў свайго героя-прайдзісвета Чалага Сяргей Бачкоў — той хоча «кінуць к чорту ўсё, жыць з Клаваю каля рэчкі, у хаце, рыбкі палавіць, па лесе ранічкаю пацягаца, малачка свайго папіць...» Запомніўся гледачам і створаны Віктарам Багушэвічам вобраз бацькі — вясковага, моцнага мужыка.



*Ніна Жукоўская (Халімонаўна) і Уладзімір Навумік (Кандрат).*

*Фота Мікалая СУПРУНА*

Беларускі крытык Алесь Бельскі неяк падкрэсліў, што «Жаніх па перапісцы» — п'еса, якая несумненна мае права на сцэнічнае жыццё». Я з ім поўнасцю згаджаюся, бо яе сцэнічнае жыццё ўжо пачалося ў Слоніме.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## РАЗВІТАННЕ... З НАДЗЕЯЙ НА СУСТРЭЧУ

**Напрыканцы мінулага тыдня ў Нацыянальным мастацкім музеі адкрылася выстава, якая распачала святкаванні 200-х угодкаў паўстання Тадэвуша Касцюшкі. Акцыя, адметная звычайнай вернісажнай шматлюднасцю і палымянасцю прамоў, прыгожай старадаўняй музыкай, адзначылася і тым, што прычынілася, нарэшце, і дзяржава да яе правядзення. Касцюшка пачынае займаць даўно яму прызначанае годнае месца на Беларусі. Але не забыліся яшчэ аматарскія пошукі дакументаў, самадзейныя «несанкцыянаваныя» акцыі, спробы хоць бы нешта распавесці ў друку. Ці не ганьба, што, стварыўшы музей Суворава, мы абышлі маўчаннем Касцюшку? Некалькі год назад такое пытанне выклікала б не проста нязгоду, але больш агрэсіўную рэакцыю...**

**А сёння праходзіць тыдзень, прысвечаны паўстанню 1794 г., сёння працуе выстава, няхай трохі нязвыклая па форме, уключаная ў сталую экспазіцыю музея. Па сутнасці і не выстава: у зале старажытна-беларускага мастацтва глядзяць са сцен партрэты вядомых магнатаў — Радзівілаў, Тышкевічаў, іншых. А вакол найлепшыя вырабы беларускіх майстроў — тут нацыя ў цэльнай прыгажосці і росквіце. Пра тое і распавядалі на адкрыцці навукоўцы В. Шматаў, І. Саверчанка, мастак М. Купава, намеснік міністра культуры У. Рылатка ды іншыя.**

**Н. Ш.**

## У ПОЛАЦКУ — СЁМЫ

**Здаецца, зусім нядаўна гэта было, калі па ініцыятыве дырэктара Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка Т. Рудавай прайшоў у Сафійскім саборы першы фестываль старадаўняй і сучаснай камернай музыкі. А між тым, мінула ўжо сем гадоў! Наш чытач памятае, колькі розных падзей — і радасных, і прыкрых — спадарожнічала ўкараненню ў Полацку высокадухоўнай фестывальнай традыцыі. Традыцыя жыве. І вось ужо сёмы год запар прыязджае на фестываль цудоўны расійскі дырыжор В. Палянскі — цяпер ужо з Дзяржаўнай капэлай, у якой паядналіся хор і аркестр. У праграме VII Міжнароднага фестывалю старадаўняй і сучаснай камернай музыкі, які прадоўжыцца да пачатку мая, побач з гасцямі, як заўсёды, і беларускія выканаўцы: Полацкі камерны хор пад кіраўніцтвам Л. Жукавай — пераможца І Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі «Магутны Божа», хор хлопчыкаў Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі, гітарысты з Віцебска.**

**С. І.**

## ВЫДАДЗЕНА Ў ЖЛОБІНЕ

**У Жлобіне ў Палацы культуры металургаў адбылася прэзентацыя зборніка мясцовай паэткі, настаўніцы Марыі Смірновай «След на зямлі», якая выйшла ў мясцовай друкарні некалькі месяцаў таму. На сустрэчу з аўтаркай прыйшлі прадстаўнікі гарвыканкама, Беларускага металургічнага завода, раённай газеты «Новы дзень» — спонсары выдання, сябры аўтаркі, аматары паэзіі.**

**Перад прысутнымі выступілі рэдактар райгазеты П. Шутаў, дырэктар СШ N 10 Т. Байкачова, дырэктар гарадскога цэнтра дзіцячай і юнацкай творчасці «Факел» Н. Фларызяк і іншыя. Уласную песню на словы М. Смірновай выканала навучэнка гарадской дзіцячай музычнай школы Л. Пахнюшчая. З музычным віншаваннем выступіў і вакальна-інструментальны ансамбль Палаца культуры металургаў «Крэда».**

**Прысутныя з задавальненнем паслухалі новыя вершы паэткі ў аўтарскім чытанні.**

**М. ШУКАНАЎ**

## ЛІРЫЧНА-КАСМІЧНЫЯ ПРЫГОДЫ

**11 красавіка Беларускі тэатр лялек «Лялька» пазнаёміў юных гледачоў горада Віцебска са сваёй новай работай — спектаклем «Касмічная казка» паводле лірычнай казкі латышскага драматурга Херманіса Паўкша.**

**... Барсучаня Цік-Так (Т. Атарава і В. Корзун), якое марыць аб касмічных вандроўках, сканструявала дзівосны апарат для міжзорных падарожжаў і адправілася на пошукі сяброў-іншапланецян. Аб дзівосных прыгодах Цік-Ціка (С. Лунева і В. Маханькова), Цік-Така і Астраноміка (А. Маханькоў і Ю. Франкоў) распавядае трэцяя сёлетняя прэм'ера «Лялькі». Пераклаў п'есу на беларускую мову і ажыццявіў яе пастаноўку акцёр Юрась Сяменчанка, лялькі і сцэнаграфію прыдумала Ганна Сідарава, музыку напісаў Генадзь Шэмет.**

Юрась ІВАНОЎСКІ

Пошта

# ПАМЯЦІ АДРАДЖЭНЦА

Вось як бывае. 1 красавіка 1994 г., разам з газетай «ЛіМ», дзе прачытаў нататкі «Я таксама хачу справядлівай гісторыі» Рыгора Родчанкі, і іншымі выданнямі прыйшла мне з майго любімага Слуцка вестка, што пакінуў гэты свет на Беларусі яе адраджэнец, яе ўлюбёны краязнаўца, натхнёны даследчык, палымяны літаратар, рамантычны чалавек.

Мне пашчасціла быць знаёмым і перапісвацца з Р.Родчанкам — вялікай і шчырай душы і сэрцам чалавекам. Да часу нашага знаёмства я ўжо ведаў яго як нястомнага і ўлюбёнага даследчыка гісторыі, культуры і літаратуры Слуцкай зямлі. З-пад яго пяра выйшлі такія вядомыя (на сёння гэта бібліяграфічныя рэдкасці) кнігі, як «Старэйшая школа Беларусі», «З вечнага» (два выданні фальклору Случчыны). Гэта Р.Родчанка знайшоў па апісаннях Язэпа Дылы і аднавіў магілу Альгерда Абуховіча, а потым выдаў пра яго кніжку-нарыс жыцця і творчасці «Альгерд Абуховіч-Бандынелі», а пазней кнігу твораў А.Абуховіча з сваёй прадмовай. Адразу стала бібліяграфічнай рэдкасцю і кніга «Слуцкая старасветчына», выпушчаная ў 1991 годзе.

Нарадзіўся Р.Родчанка на Украіне, на Луганшчыне, 15 ліпеня 1929 года. У 1932 годзе разам з бацькамі пераехаў на радзіму маці — у мястэчка Цімкавічы на Случчыне. У гады Вялікай Айчыннай вайны падлеткам пайшоў у партызаны, неаднойчы ўдзельнічаў у баях з фашыстамі, неаднаразова быў паранены.

Пасля Р.Родчанка служыў на Балтыйскім флоце. Завочна вучыўся. У 1959 годзе звольніўся ў запас, бо не дазвалялі служыць баявыя раны. Тады ж прыехаў жыць і працаваць у Слуцк. Быў настаўнікам рускай мовы, беларускай мовы і літаратуры.

Друкаваўся з 1959 года. Творы яго перакладаліся на рускую, украінскую, чэшскую, латышскую і іншыя мовы. Ды і сам ён добра перакладаў з братняй украінскай мовы («Зборнік «Эліксір маладосці»).

Нядаўна ў Слуцку пабачыў свет яшчэ адзін калектыўны зборнік «На крылах душы», ёсць там і новыя вершы Р.Родчанкі.

**Я быў народжаны партызанам,**
**які змагаўся ўсё жыццё**
**з няпраўдай, здрадай і са зманам**
**за вольны край, за пачуццё**
**уласнай годнасці народа,**
**за родны люд, за ўсіх людзей,**
**якім сапраўдная свабода**
**патрэбна, як уздых грудзей.**

Ён сапраўды меў права сказаць пра сябе так.

Мяркую, што гарадскія ўлады Слуцка знойдуць сродкі годна ўшанаваць памяць Рыгора Віктаравіча Родчанкі.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ,**
**правадзейны член Геаграфічнага таварыства**

*г.Баранавічы*

# АРМІЯ ПАД СЦЯГАМ «ПАГОНІ»

Усім сёння цяжка. У тым ліку і людзям у пагонах. Апошнім перападае з розных пазіцый. Адны бачаць у іх прычыну многіх нашых бед (маўляў, дармаедаў кормім), другія незадаволены тым, што вайскоўцы (афіцэры найперш) супраць суверэнітэту, не хочуць, каб беларуская мова была дзяржаўнай, і за аднаўленне колішняга Саюза выступаюць...

Але ці заўсёды падобныя абвінавачванні правільныя? Каб знайсці адказ на гэтыя і іншыя пытанні, Саюз пісьменнікаў Беларусі апошнім часам арганізаваў шэраг сустрэч літаратараў з салдатамі і афіцэрамі нашай арміі.

Адна з такіх сустрэч адбылася днямі. Літаратары наведалі так званы аб'яднаны вучэбны цэнтр, прасцей кажучы — вучэбку. Прынамсі, такім словам звычайна карыстаюцца ў прастамоўі. А так гэта — вучэбная дывізія. Камандуе ёю генерал-маёр М. Мінаеў, беларус, дарэчы, некалі сам у гэтай самай «вучэбцы» служыў курсантам. Раней тут рыхтавалі спецыялістаў для многіх ваенных акруг, цяпер толькі для ўласнай арміі. Цяжкасці — як ва ўсіх. Напрыклад, на сённяшні дзень 400 чалавек стаіць у чарзе на атрыманне жылля. Гэта — для афіцэраў. А для салдат — утульныя казармы, спрыяльныя ўмовы для баявой вучобы і адпачынку, у тым ліку і бібліятэка. У чытальнай зале яе і адбылася сустрэча пісьменнікаў з афіцэрамі, супрацоўнікамі бібліятэкі, тымі, хто займаецца ў вучэбцы культурна-асветнай работай.

Першае, што адразу кінулася ў вочы: у бібліятэцы беларуская мова зусім не чужая. На стэлажах — багаты выбар мастацкай літаратуры. Тут і творы нашых класікаў, і літаратараў-сучаснікаў. Шмат і тэматычных выставак, стэндаў: «Гісторыя Беларусі», «Ваенная гісторыя», «Да 50-годдзя вызвалення беларускай зямлі ад фашызму», «Песняры зямлі беларускай», «Беларусь — мая маці, паветра і хлеб». На сталах — выданні, якія паступілі нядаўна і, па ўсім відаць, карыстаюцца попытам, бо «зачытаныя», вось толькі некаторыя з іх: «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах» У. Сыракомлі, «Рандэву на манеўрах» У. Арлова, «100 пытанняў і адказаў па гісторыі Беларусі», «Што трэба ведаць кожнаму беларусу» В. Ластоўскага, яго ж «Кароткая гісторыя Беларусі», зборнік гістарычных нарысаў пра знакамітых людзей «Праз смугу стагоддзяў», свежыя нумары часопіса «Спадчына», «Беларускага гістарычнага часопіса». Картатэка, у якой названы артыкулы, карэспандэнцыі з перыёдыкі па пытаннях нацыянальнага Адраджэння, надзіва поўная і аператыўна папаўняецца.

Дарэчы, і ў гарадку пераважная большасць стэндаў афармлена па-беларуску, і ўсюды — выявы «Пагоні». Праўда, на яе фоне вельмі ж коляць вочы выказванні Суворава пра неабходнасць ваеннай вучобы. А, сказаць папраўдзе, хто парупіўся, чыімі б меркаваннямі іх замяніць? Кажуць, што павінны быць ваенныя вучылішчы не імя Суворава, а імя Т. Касцюшкі. А чаму не К. Каліноўскага?

Што ні чалавек, то і сваё меркаванне. У гэтым пераканалі і выступленні саміх літаратараў — намесніка старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзіміра Паўлава, Івана Скарынкіна, Петруся Макаля, Анатоля Сульянава (дарэчы, перад салдатамі, непасрэдна ў казармах і вучэбных пакоях, акрамя іх выступалі Алесь Махнач, Нічыпар Пашкевіч, Аляксандр Капусцін, Іван Кудраўцаў, Мікола Татур, Віктар Трасцянскі, Яўген Каршукоў (ініцыятар гэтай паездкі да воінаў, як і іншых), Мікола Базарэвіч, Алесь Давыдаў). Гучалі і папрокі, наконт таго, што неабходна больш рабіць у справе нацыянальнага Адраджэння, але чулася захапленне і тым, што зроблена. У адным, бадай, знаходзілі агульную мову і госці, і гаспадары: супольнымі намаганнямі неабходна змагацца супраць бездухоўнасці. Тут шмат могуць даць кантакты пісьменнікаў з воінамі. Прыйшлі да высновы: такія паездкі ў воінскія часці трэба практыкаваць. Армія, якая ўзняла сцяг з «Пагоняй», вартая таго, каб яе разумелі і любілі.

**А. М.**

# ТРЫ ГАДЗІНЫ Ў БЫЛЫМ КАБІНЕЦЕ ЦАНАВЫ

*(Пачатак на стар. 5)*

іншыя. На жаль, не ўсе гэта разумеюць. Нам трэба мяняць і характар ацэнак работы спецслужбаў. Раней першая графа справаздачы аб праробленай кожным супрацоўнікам КДБ рабоце была сфармулявана так: «Колькі рэалізавана спраў, з іх з прыцягненнем да крымінальнай адказнасці». Не трэба доўга даказваць, што такія патрабаванні маглі стымуляваць прагу хутчэй завесці на каго-небудзь крымінальную справу і пасадзіць чалавека ў турму.

Трэба ад такой практыкі рашуча пазбаўляцца, хоць, разумею, зрабіць гэта будзе нялёгка. Наогул, я часам здзіўляюся, як, бывае, учэпіста людзі трымаюцца за старыя падыходы, як цяжка пазбаўляюцца колішніх уяўленняў. Я не адкрыю вялікага сакрэту, калі скажу, што нашы спецслужбы працуюць і ў войску. Зразумела, што ваенная контрразведка не сядзіць без справы. Сучасная армія мае атамную зброю, якая вымагае самай пільнай аховы і ад замежнай разведкі і ад рознага роду тэрарыстаў, авантурыстаў і г.д. Але па старой завядзёнцы нашы «асабісты» ў арміі сачылі яшчэ і за вайскоўцамі, пераважна за камандным саставам. І «сачэнне» гэтае найчасцей ператваралася ў збор кампрамату чыста бытавога плана — той выпівае, той нераўнадушны да жанчын, той спазняецца на працу і г.д. Потым гэты «кампрамат» ішоў наверх па інстанцыі і, у рэшце рэшт, трапляў у партыйныя органы, якія і вырашалі — караць чалавека ці міласаваць.

На ўжо прыгаданай мной калегіі КДБ я выказаў думку, што нам трэба пазбаўляцца такой практыкі і, прызнацца, не сустрэў аднадушнай падтрымкі...

**— Генадзь Міхайлавіч, вы былі членам былой часовай камісіі Вярхоўнага Савета па расследаванні дзейнасці камерцыйных структур у органах улады, якую ўзначальваў А.Лукашэнка. Ацэнкі працы Лукашэнкі на гэтай пасадзе ў грамадстве самыя розныя — ад захаплення «мужным чалавекам, які рэжа праўду-матку ў твар», да скептычнага ўспрымання ўсёй гэтай яго папулісцкай мітусні, на якой ён спрабаваў нажыць палітычны капітал. Асабіста я з самага пачатку ўспрыняў усю гэту «лукашэншчыну» крайне негатыўна. Цікава, як вы ацэньваеце дзейнасць камісіі?**

— Вы, мабыць, чулі маю заяву на апошняй сесіі Вярхоўнага Савета аб выхадзе з камісіі Лукашэнкі. Хоць Аляксандр Рыгоравіч наскроб кучу кампрамату на дзесяткі службовых асоб і з трыбуны парламента на ўвесь свет назваў іх імёны, але ўсё гэта было зроблена нецывілізавана і супярэчыла прававым нормам. Колькі разоў я яму казаў: «Аляксандр Рыгоравіч, не гарачыся, не мітусіся. Назваць чалавека злачынцам можа толькі суд». Але да ўсіх заўваг, і не толькі да маіх, ён быў абсалютна глухі, паставіўшы перад сабой мэту выйсці з усёй гэтай гісторыі героем, ды яшчэ песцячы мару стаць прэзідэнтам рэспублікі. І, як і трэба было чакаць, скончылася ўсё канфузам, усеагульным раздраем. Ёсць ва ўсім гэтым і віна праваахоўных органаў, у тым ліку КДБ, якія паспяшаліся забяспечыць Лукашэнку рознай, у тым ліку, сакрэтнай (пакуль ішло следства) інфармацыяй. Я асабіста да гэтага дачынення не меў, наадварот, папярэджваў, што агалошваць усе гэтыя звесткі — значыць, груба парушаць закон аб аператыўна-вышуковай дзейнасці.

**— Мне застаецца толькі падзякаваць вам, Генадзь Міхайлавіч, за шчырую гутарку.**

**P.S. У канцы сустрэчы Генадзь Міхайлавіч выказаў пажаданне паказаць мне музей Камітэта дзяржбяспекі. Мы доўга крочылі па, здаецца, бясконцых калідорах. У нейкім месцы Г.Лавіцкі спыніўся ля акна і паказаў рукой: «Вось гэта і ёсць следчы ізалятар КДБ». Зірнуў у двор, дзе за каменнай сцяной з калючым дротам бачылася невялікае, мне падалося, круглай формы памяшканне. «Зняволеных палітычных матывах тут даўно няма», — сказаў Генадзь Міхайлавіч. «Няўжо пустуе?» — здзівіўся я. «Ды не, не пустуе, — сказаў старшыня, — тут цяпер утрымліваюцца найбольш небяспечныя крымінальныя злачынцы. Помніце Віцебскую справу аб серыі забойстваў жанчын? Дык вось, злоўлены маньяк-забойца Міхасевіч утрымліваўся менавіта тут. Уцячы з нашага ізалятара практычна немагчыма».**

**Ну, а музей быў як музей. Здымкі першых чэкістаў, ветэранаў сакрэтных службаў, ганаровых гасцей, якія прыязджалі ў Беларусь, дакументы, розныя рэчавыя доказы, шпіёнскія прылады. На адной са сцен нават вісеў парашут, на якім, як сведчыў подпіс, спусціўся ў свой час з самалёта закінуты на нашу тэрыторыю дыверсант. Ля аднаго са стэндаў затрымаўся даўжэй — на ім была адлюстравана гісторыя пошуку і арышту аўтараў «антысавецкіх» лістовак. Адзначыў сам сабе: тое, што на іх напісана, сёння можна сустрэць на старонках любой газеты. Тут жа змешчаны фотаздымкі чэкістаў, якія адшукалі ананімных аўтараў тых лістовак. У чэкістаў былі мужныя твары, пранікнёныя позіркі. Сапраўдныя нашчадкі жалезнага Фелікса.**

**Але ўжо не «жалезны», а гіпсавы Фелікс, сурова гледзячы са свайго пастамента, устаноўленага на лесвічным маршы ля самага вестыбюля, праводзіў мяне, калі я выходзіў з «будынка з калонамі». Выходзіў...**

**М.З.**

# ЭТНІЧНАСЦЬ ЦІ СУГРАМАДЗЯНСТВА?

## БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА ЯК АСНОВА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СІСТЭМЫ АДУКАЦЫІ

«Дарогу адолее той, хто ідзе» — гаварылі некалі старажытныя рымляне. Аптымізм гэтага сцвярджэння так неабходны нам сёння, калі шматлікія праблемы эканамічнага і палітычнага характару перашкаджаюць нашаму грамадству не тое што «ісці», а нават бачыць дарогу (сваю, уласную!). У дачыненні да тых працэсаў, што адбываюцца сёння ў функцыянаванні і развіцці нашай сістэмы адукацыі, можна ўпэўнена адзначыць, што яны — «ідуць»: ідуць у напрамку да стварэння нацыянальнай школы і — больш таго — нацыянальна-дзяржаўнай сістэмы адукацыі.

Я не буду спыняцца на матэрыяльных перашкодах на гэтым шляху — яны агульныя для ўсіх сфер нашага грамадства. Я не буду аналізаваць у якасці перашкод, так бы мовіць, старыя ідэалагічныя стэрэатыпы грамадскай свядомасці: лёс іх далейшага існавання-неіснавання вырашыцца не эмацыянальнымі заклікамі суверэнітэту нашай краіны. Як прыклад нагадаю толькі аб адсутнасці чакаемых масавых выступленняў бацькоў супраць «беларусізацыі» школы: што тут — так званая талерантнасць ці ціхая надзея на лепшую будучыню сваіх дзяцей у якасці грамадзян суверэннай Беларусі?..

Мне хацелася б звярнуцца ў гэтым лісце не да перашкод на шляху стварэння нацыянальнай школы і нацыянальна-дзяржаўнай сістэмы адукацыі, а да характарыстык самой «дарогі», да яе накірунку ў сусветнай сацыякультурнай прасторы.

Справа ў тым, што, характарызуючы сёння намаганні дзяржавы і працэсы ў галіне адукацыі, мы даволі часта называем нашу сітуацыю унікальнай, выключнай, ні з чым не параўнальнай і г. д. Пры гэтым аргументы прыводзяцца і справа, і злева. Маўляў, толькі ў Беларусі — суверэннай дзяржаве — могуць весціся нейкія дыскусіі аб мове навучання ў дзяржаўнай навучальнай установе і, наогул, — аб мэтазгоднасці стварэння нацыянальнай школы. Ці наадварот: толькі ў Беларусі, ва ўмовах адсутнасці хоць якіх-небудзь аб'ектыўных падстаў для «беларусізацыі» (гэта значыць — ва ўмовах татальнай зрусіфікаванасці насельніцтва) можа праводзіцца такая нерацыянальная палітыка. Дык наколькі ж выключная наша сітуацыя? Ці такая ўжо унікальная наша «дарога», каб адны лічылі дзяржаўную адукацыйную палітыку гераічнай, другія — вар'яцкай, а трэція апускалі рукі ад цяжару такой гераічна-вар'яцкай працы?

Вынікам маіх разважанняў па гэтым пытанні ёсць цвёрдае перакананне ў тым, што мы не маем падстаў для сцвярджэнняў аб выключнасці нашай сітуацыі, што «дарога» наша зусім не разыходзіцца з сучаснымі дарогамі агульначалавечай цывілізацыі. Глянем жа...

Агульнавядома, што рух за нацыянальную школу з'яўляецца важнай кампанентай стаўлення нацыі-дзяржавы: напрыклад, яшчэ ў XIX ст. не ўсе баварцы, саксонцы, прусакі, гесенцы адчувалі сябе германцамі — па словах Бісмарка, вайну за аб'яднанне Германіі выйграў прускі настаўнік; яшчэ ў XIX ст. К. Ушынскі пісаў артыкул «О необходимости сделать русские школы русскими»; яшчэ ў XVII ст. у Францыі вялася барацьба за тое, каб айчынная мова ўвайшла ў агульнае карыстанне. Аднак гэта мінулыя стагоддзі, а сёння?

А сёння, адзначае канадскі даследчык У. Маккей, рух за нацыянальную школу з'яўляецца натуральным вынікам такога распаўсюджанага ў свеце працэсу, які атрымаў назву культурнага ірэдэнтызму этнасу. Па вызначэнні спецыялістаў, культурны ірэдэнтызм — гэта рух, які заснаваны на жаданні ўзняць статус этнічнай мовы, аднавіць мову продкаў, зрабіць яе сваёй роднай і роднай для наступнага пакалення, мовай зносін і школы. Па сутнасці, гэта рух народа, які ўсвядоміў тое, чым ён быў, і, маючы непасрэдны доступ да ўзораў іншых культур, пачаў разумець, чым ён мог бы быць.

Як пра нас сказана! Але сказана гэта ў якасці характарыстыкі аднаго з сучасных сацыякультурных працэсаў... Заўважым, што ў дачыненні да Беларусі гэты рух якраз нельга назваць сучасным, бо пачаўся ён яшчэ ў XIX ст.

Больш таго, даследчыкі з'явы культурнага ірэдэнтызму бачаць праблему не ў самім існаванні гэтай з'явы, а ў тым факце, што ў свеце існуе 6170 жывых моў і ўсяго 200 суверэнных дзяржаў. Адсюль — праблема шматкультурнага грамадства, шматкультурнай адукацыі, пошукі механізмаў суіснавання прадстаўнікоў розных культур у шматкультурным асяроддзі. Цікава, што накірунак гэтага пошуку прама супрацьлеглы былым асімілятарскім установкам нацыі-дзяржавы.

Такім чынам атрымліваецца, што адметнасць нашага шляху — са знакам «плюс», на нашу карысць: тое, што так падобна да ірэдэнтальнага руху, адбываецца ва ўмовах суверэннай дзяржавы, з'яўляецца зместам дзяржаўнай адукацыйнай палітыкі. Гэта значыць, што стварэнне беларускай школы (этнічнай?) супадае па часе з блізкім, але іншым складаным працэсам — пабудовай нацыянальнай сістэмы адукацыі як атрыбута суверэннай дзяржавы. З'яўляючыся ж элементам гэтай сістэмы, сучасная беларуская школа не можа быць чыста этнічнай з'явай, накшталт «беларускіх школак» пачатку XX ст.

На жаль, гэтая акалічнасць пакуль што цалкам не асэнсавана ні на ўзроўні афіцыйных і тэарэтычных дакументаў, ні на ўзроўні грамадскай свядомасці. Таму, на мой погляд, неабходна развесці гэтыя паняцці — «беларуская нацыянальная школа» і «нацыянальная сістэма адукацыі», звярнуўшыся да самога паняцця «нацыя».

Сэнс паняцця «нацыя» ў навуковай і філасофскай літаратуры вар'іруецца ў дыяпазоне ад генетычнай, крэўна-роднаснай сувязі да духоўна-містычнай — праз грамадзянска-дзяржаўную. Для нашай жа грамадскай свядомасці постсавецкага чалавека гэта паняцце атаясамляецца з паняццем нацыянальнасці як сурагатам біялагічных і духоўна-містычных сувязей: грамадзянскія сувязі апынуліся вынесенымі за межы паняцця «нацыі». Між тым, еўрапейскае паняцце нацыі — гэта перш за ўсё «суграмадзянства» ў адрозненне ад этнічных супольнасцей, заснаваных на роднасных і культурных сувязях. Таму натуральным вынікам такога падыходу з'яўляецца вызначэнне нацыі як дзяржаўна аформленай грамадзянскай супольнасці этнасаў.

Такое вызначэнне падаецца даволі слушным і ў нашых умовах. Яно арыентуе на пэўнае адзінства беларускага народа, на згоду паміж этнасамі, наогул — на прызнанне неактуальнасці этнічных сувязей у параўнанні з нацыянальна-грамадзянскімі. Зразумела, аднак, што так спазніўшыся з нацыянальна-дзяржаўным самавызначэннем і так няўпэўнена пазначаючы сябе ў свеце як самастойную нацыянальна-дзяржаўную адзінку, Беларусі цяжка прэтэндаваць на нацыянальна-грамадзянскае аб'яднанне этнасаў, якія даўно вызначыліся як самастойныя сталыя нацыі (рускія, палякі, яўрэі). І ўсё ж такі адукацыйная палітыка дзяржавы — гэта моцны сродак умацавання нацыянальнага адзінства.

Я далёкая ад той думкі, што адукацыйныя метады аб'яднання нацыі па прыкладзе Германіі і Расіі мінулых стагоддзяў цалкам адпавядаюць нашым сучасным умовам: асімілятарская палітыка дзяржавы-нацыі асуджана часам. Аднак, як было пазначана вышэй, воляю гістарычнага лёсу беларуская дзяржава будуе сваю адукацыйную сістэму, ствараючы адначасова аснову гэтай сістэмы — беларускую школу: этнакультурнае яднанне беларусаў як мэта беларускай школы аказваецца падпарадкаваным грамадзянскаму яднанню нацыі як мэце функцыянавання нацыянальна-дзяржаўнай сістэмы адукацыі. Таму вельмі важна з самага пачатку бачыць у беларускай школе не толькі і не столькі этнічную з'яву, колькі нацыянальна-дзяржаўную.

Рух за «беларускую школу», які пачаўся ў XIX ст. і набыў сваю паўнату ў дзейнасці «нашаніўцаў» на пачатку XX ст., ва ўмовах адсутнасці дзяржаўнасці ў беларусаў не мог быць чым-небудзь іншым, як рухам за этнічную школу для беларускіх дзетак. Вось адно з вызначэнняў сутнасці гэтага руху — словы Цёткі: «Калі пачнуць у нас уводзіць новыя начальныя школы, трэба, канечне, каб дзяцей у іх навучалі па-беларуску, каб тлумачылі ім усё па-тутэйшаму, па-свойму, як дзеці гавораць у хаце з бацькамі і як ім лягчэй разумець. Тады дзеці і чытаць скарэй навучацца і пазнаюць лягчэй іншыя мовы — расейскую ды польскую. Дзеля таго ўсе беларусы і ўсе, хто хоча даць народу праўдзівую навуку, павінны дамагацца для беларусаў беларускай начальнай школы».

Аднак і з набыццём савецкай дзяржаўнасці сутнасць руху «за беларускую школу» засталася этнічнай. Таму тое, што ва ўмовах адсутнасці дзяржаўнасці было бясспрэчным дасягненнем — арыентацыя на этнічную культуру беларусаў, у савецкай школе выродзілася да вульгарных, чыста вонкавых, дэкаратыўных форм. Я маю на ўвазе агульнавядомыя факты паказной «беларускасці» пры поўнай адсутнасці нацыянальнага зместу адукацыі. Яшчэ і сёння можна сустрэць такія формы «беларусізацыі» адукацыі: павесіў ручнік, развучыў народную песню — лічы, увёў нацыянальны элемент у навучальна-выхаваўчы працэс.

На мой погляд, ёсць два вызначальныя фактары пераадолення этнічнага падыходу да развіцця беларускай школы. Першы звязаны з усведамленнем таго факта, што беларуская культура не можа быць зведзена да этнічнай культуры. Яна ўяўляе сабою развітую еўрапейскую культуру, што асімілявала дасягненні антычнай і хрысціянскай культур. Таму этнічнасць, фальклорнасць павінны займаць у адукацыйным працэсе пачэснае, але не галоўнае месца.

Другі фактар — гэта, як ужо адзначалася, дзяржаўны падыход да стварэння беларускай школы. Паняцце «нацыянальнай сістэмы адукацыі» якраз і пазначае гэты падыход: «нацыянальнае» ў гэтым спалучэнні адназначна атаясамляецца з «дзяржаўным», а не з «этнічным». Маючы сёння «Закон аб адукацыі», распрацаваны на ўзроўні лепшых еўрапейскіх стандартаў, наша грамадства можа быць больш паслядоўным у стварэнні нацыянальна-дзяржаўнай сістэмы адукацыі — мы проста застрахаваныя ад якіхсьці самаізаляцыйных ці шавіністычных тэндэнцый у выніку правядзення ўласнай нацыянальнай адукацыйнай палітыкі. Там, здаецца, улічана ўсё: і магчымасць набыцця адукацыі на роднай мове для этнічных меншасцей, і неабходнасць міжнародных пагадненняў па эквівалентнасці адукацыі, і нават абарона рускай мовы як сродку пашырэння магчымасцей беларускага грамадзяніна далучыцца да скарбніц агульначалавечых каштоўнасцей. «Дарога», здаецца, ясная. Але... Няўпэўненасць адных і незацікаўленасць другіх у заўтрашнім існаванні краіны як самастойнай нацыянальна-дзяржаўнай адзінкі відавочна стрымлівае рух.

На мой погляд, марудзіць у такіх спрыяльных умовах — гэта здрада. Народ і пакаленні самаахвярнай беларускай інтэлігенцыі зрабілі сваю справу: захавалі культурную традыцыю, развілі мову. І сёння менавіта сістэма адукацыі заклікана вярнуць гэта нашым дзецям. У тым ліку і непрывабнымі чыноўніцкімі метадамі: дзяржаўнай справе — дзяржаўныя сродкі і метады; асветніцкая работа, эмацыйныя заклікі тут недастатковыя. Катэгарычнасць гэтага сцвярджэння не мае нічога агульнага з прыніжэннем годнасці настаўніка, выкладчыка, адміністратара. Наадварот: дзяржава не можа (і не павінна!) прымусіць масавага настаўніка «быць шчырым беларусам», любіць дзяржаўную мову і размаўляць на ёй дома — гэта права самавызначэння належыць чалавеку; аднак дзяржава можа і павінна, даўшы масаваму настаўніку сродкі (падручнікі, праграмы), патрабаваць ад яго правядзення дзяржаўнай адукацыйнай палітыкі. Гэта рэальны шлях, іншых гісторыя станаўлення нацый не ведае.

Інакш, толькі спяваючы народныя песні, развешваючы ручнікі і заклікаючы адзін аднаго любіць родную мову, мы ніколі не адолеем «дарогі», якая вядзе да чалавечага існавання ў сучасным свеце і зусім не разыходзіцца са шляхамі агульначалавечай цывілізацыі.

**Таццяна БУЙКО,**
**старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага інстытута адукацыі**

Пошта

# КУДЫ ПАДЗЕЛІСЯ МУЗЫКІ?

Я часта думаю пра тое, што сумна жыве моладзь у наш час. Раней былі вечарыны, якія ні ў якім разе нельга параўнаць з сучаснымі. Весялосць так і біла ключом. Гучна граў гармонік, а яму дапамагалі скрыпкі, цымбалы, бубны. І нельга было ўседзець у куточку. Здавалася, што душа спявала, а ногі самі пускаліся ў скокі. А танцы якія былі прыгожыя! Кракавяк, падэспань, каробачка, месяц, аляксандраўскі вальс і нарэшце беларуская полька, без якой і танцы былі не танцамі. А як цікава вадзілі дзяўчаты карагоды, колькі прыпевак ведалі... Я сама калісьці ведала іх некалі соцень.

У кожнай амаль вёсцы быў свой музыка. Ён быў душой моладзі, яго любілі і старыя, і малыя. А цяпер музыкі сталі рэдкасцю. Няўжо гэта мядзведзь на вуха наступіў нам? Што з намі сталася? Цяпер толькі магнітафоны весяляць моладзь. І што цікава: былі цэлыя сем'і музыкаў. Некалі на Дзісненшчыне вельмі слыннымі былі Янцэвічы з вёскі Наваполле. Уявіце сабе: дзевяць сыноў і адна дачка — і ўсе выдатныя музыкі! У іх вельмі любіў бываць Язэп Драздовіч. Ён тут душой адпачываў. Асабліва добрыя адносіны склаліся ў яго з Мар'янам Янцэвічам. Янцэвічы не толькі выдатна гралі на ўсіх музычных інструментах, але і хораша спявалі. Давалі нават выязныя канцэрты.

Чула, што беларускія музыкі-майстры славіліся сваімі самабытнымі гармонікамі далёка за межамі бацькаўшчыны. Чатыры майстры былі на Беларусі, гармонікі якіх разыходзіліся па ўсёй краіне. І сярод гэтых слынных майстроў — наш зямляк з вёскі Лужкі Янка Лютынскі, альбо Іван Напалеонавіч. Іх было тры браты, майстры і музыкі: Янка, Віктар і Жэнік. І надзяліў іх бог вялікім талентам, асабліва вылучаўся сярод іх Янка. Слава аб гармоніках грымела па ўсім наваколлі. Многія жадалі набыць гармонікі іх работы, што былі не толькі звонкагалосыя, але і вельмі прыгожыя. Мець такі гармонік кожны вясковы музыка лічыў за гонар. А ў вёсцы Васілёва жылі браты Жандары — таксама таленавітыя хлопцы, ігралі на гармоніках і рамантавалі іх.

Па драбніцах збіраем мы нашу спадчыну. Аб'ездзілі свой раён і суседскія ў пошуках самаробных музычных інструментаў, асабліва цікавяць гармонікі Лютынскіх. Вельмі ўжо хочацца сабраць іх калекцыю: яны розныя і па мастацкіх якасцях, і на выгляд. Жаданне зрабіць у музеі мастацтва і этнаграфіі імя Я. Драздовіча куток братоў Лютынскіх прывяло мяне да дзяцей Івана Напалеонавіча. Сустрэцца з сынам Паўлам не давялося. Зяць майстра, Асіпёнак Іван Дзмітрыевіч, сказаў мне, што прыязджалі мінскія музейшчыкі, маладыя хлопцы, і ён уласнымі рукамі аддаў з альбома ўсе фотаздымкі. Тыя абяцалі вярнуць фотаздымкі разам з копіямі. Мяркую, што мой артыкул трапіць на вочы тым хлопцам-музейшчыкам, яны яго прачытаюць і зробяць выснову: слова трэба трымаць. Спадзяюся, хлопцы, што так яно і будзе. Сустрэўшыся з дачкой Івана Напалеонавіча Зосяй Маляўкай, я даведалася, што нарадзіўся яе бацька ў 1894 г. Нідзе не вучыўся, да ўсяго дайшоў сам, сваім розумам, сваім талентам. Браты вучыліся адзін у аднаго. На жаль, не пакінулі ў спадчыну сынам свайго дару — рабіць гармонікі, толькі іграць навучылі.

І мяне хвалюе пытанне: няўжо не з'явяцца на нашай зямлі такія людзі, як Янцэвічы, Лютынскія, Жандары? Няўжо не асвецяць наша змрочнае жыццё сваім прыродным талентам?

**А. РАЙЧОНАК,**
**дырэктар музея імя Драздовіча**

*в. Германавічы*
*Шаркоўшчынскага раёна*

# ПРЫВІЛЕЙ, АТРЫМАНЫ З РУК ГІСТОРЫІ

***— Рака з караблём, над якім змешчаны хімічны знак бензолу, і ўсё гэта — на фоне касога паса — «стужкі бастарда». Такі герб чытаецца адназначна: байстручны горад на бензолавай рацэ.***

***Гэткае меркаванне я пачуў ад знаёмага студэнта гістфака, паказаўшы яму выдадзены ў Наваполацку плакат з выявай не так даўно зацверджанага герба маладога горада. Наваполацк — адзін з шэрагу беларускіх гарадоў, якія за апошнія гады атрымалі ўласныя гербы альбо памянялі старыя. Але ў якой ступені цяперашні парадак атрымання горадам свайго сімвала адпавядае гістарычным традыцыям нашага краю? Наколькі работы сучасных мастакоў-геральдыстаў адпавядаюць канонам беларускай геральдыкі? Адказы на гэтыя ды іншыя пытанні я хацеў пачуць ад Анатоля ЦІТОВА — старэйшага навуковага супрацоўніка Беларускага навукова-даследчага цэнтра дакументазнаўства, археаграфіі і архіўнай справы, аўтара кніг «Гарадская геральдыка Беларусі», «Пячаткі старажытнай Беларусі» і іншых.***

— Карыстаючыся даступнымі нам матэрыяламі, можна меркаваць: гарадская геральдыка Беларусі мае свой пачатак у XV стагоддзі. Менавіта тады асобныя гарады пачалі атрымліваць гербы і магдэбургскае права. У той час атрыманне горадам герба было міласцю вялікага князя ці караля, якія аддзячвалі жыхарам за нейкія заслугі, вызваляючы іх з-пад улады ваяводаў ці старастаў і надаючы права на самакіраванне. Прыклад таму — Пераброддзе, цяперашні цэнтр сельсавета, а ў мінулым — старажытнае места, якое атрымала герб яшчэ ў XVI стагоддзі ад караля Стэфана Баторыя. У той час гэта было невялічкае селішча — некалькі рыбацкіх хат, жыхары якіх, як сцвярджаюць дакументы, паказалі войску караля брод. У падзяку жыхары Пераброддзя атрымалі герб і магдэбургскае права, з сялян ператварыўшыся ў мяшчан. Падобную гісторыю атрымання герба маюць і іншыя гарады — Астрына, Геранёны. Сёння іх гарадскі статус скасаваны, але яго, на мой погляд, трэба аднавіць.

Вяртаючыся да гісторыі сярэдневечча, трэба адзначыць, што ў той час атрыманне селішчам герба, а значыць статуса горада азначала пачатак новага этапа эканамічнага і сацыяльнага жыцця яго жыхароў. У час Вялікага княства і Рэчы Паспалітай наш край быў самай заходняй тэрыторыяй, на якой існавала саслоўная арганізацыя гарадскога жыцця, дзе розныя слаі насельніцтва займалі свае месцы ў жыцці грамадства. У суседняй Расіі гэтага ўжо не было. Там усе, ад баярына да апошняга смерда, былі «халопамі гасударавымі». У Беларусі ж вельмі ясна вызначаліся саслоўі сялян, мяшчан, шляхты... І мяшчане былі носьбітамі найбольш прагрэсіўнай ідэалогіі, рухавіком эканамічнага жыцця краіны. Прыклад таму — Полацк, палітычны, эканамічны, рэлігійны цэнтр вялікага рэгіёна ў часы сярэдневечча. Карабель на гарадскім гербе — яўны ўплыў сімволікі Ганзы, саюза балтыйскіх гарадоў, вядомага з XII стагоддзя, які яднаў гарады на тэрыторыі цяперашніх Германіі, Францыі, Скандынавіі і нават узбярэжжа Атлантыкі. І не выпадковасць тое, што менавіта ў гэтым горадзе пачалі свой шлях такія асветнікі, як Францішак Скарына ці Сімяон Полацкі.

**— Але ж з цягам часу статус гарадоў мяняўся і разам з ім — змест і выгляд герба?..**

— Так. Гісторыя гарадской геральдыкі Беларусі — частка гісторыі дзяржавы, яе ўздыму і заняпаду. І таму мы можам вызначыць чатыры яе перыяды: да пачатку XIII стагоддзя — дагеральдычны, на якім, дарэчы, татарскае нашэсце спыніла Расію; XIII-XIV стагоддзі — пачатак геральдычнага, мяжа XVI-XVII стагоддзяў — час найбольшага развіцця і, нарэшце, позні геральдычны перыяд — час існавання Беларусі ў складзе Расійскай імперыі. Апошні перыяд быў часам надання гарадам гербаў без уліку геральдычных і гістарычных традыцый, з мэтамі чыста прапагандысцкімі — падкрэслення перамог расійскай зброі і падпарадкаванасці беларускіх гарадоў расійскаму арлу. Дарэчы, з моманта далучэння нашых земляў да Расіі ўлады імперыі пачалі браць за ўзор нашу сістэму арганізацыі гарадскога жыцця, бо атрыбутаў самакіравання расійскія гарады датуль не мелі. Пачаткі самакіравання былі ўведзены толькі ў 1785 годзе граматай Кацярыны II. Тады ж пачалі ствараціца і расійскія гарадскія гербы, якія ў Беларусі даўно ўжо сталі часткай традыцыі.

**— На доўгі час традыцыя існавання гарадоў як самастойных супольнасцей і валодання іх гербамі была перапынена. Ваш пункт гледжання на сённяшнія спробы аднаўлення гарадской геральдыкі?**

— Бальшавікі ў час свайго панавання імкнуліся падпарадкаваць сабе ўсе сферы грамадскай думкі, кантралюючы не толькі сучаснасць, але, праз фальшаванне гісторыі, і

## ЮБІЛЕЙ АДЗНАЧЫЛІ З МУЗЫКАЙ

**Добрая фея пануе ў Сенніцкай музычнай школе. За многія гады ў гэтым дзівосным музычным гняздзечку «сталі на крыло» больш за пяцьсот гадаванцаў, з якіх 140 навекі звязалі свой лёс з прафесійным мастацтвам. Васіль Тарасевіч цяпер — дырыжор ваеннага аркестра, Яўгенія Любовіч — канцэртмайстар харэаграфічнага вучылішча, Сяргей Залковіч — дырэктар абласнога драматычнага тэатра. Шмат выпускнікоў стала выкладчыкамі музычных школ, сорак чалавек удасканальваюць сваё прафесійнае майстэрства ў вышэйшых і сярэдніх навучальных установах мастацтваў. А тыя, што вучацца тут, трымаюць аўтарытэт школы, як, напрыклад, Давід Шышко і Віктар Радзюкевіч.**

**За адданасць любімай прафесіі паважаюць аднавяскоўцы-калгаснікі педагагічны калектыў школы, асабліва яе лідэраў — ветэранаў — Уладзіміра Богдана, Аляксея Хамяка, Ірыну Буевіч, Любоў Зайцаву. Гэта яны сваімі клопатамі ды творчым удзелам дамагліся адкрыцця ў свой час філіялаў Сенніцкай школы ў Мачулішчах, Бараўлянах, Самахвалавічах, якія з часам сталі самастойнымі і дастойнымі асяродкамі музычнага выхавання дзятвы. Эстафету старэйшын падтрымліваюць, прымерваючыся да самых станоўчых традыцый, маладыя: Людміла Шылава — педагог па класе цымбалаў, Таццяна Шарэйка — баяна, Кацярына Саснова — гітары, Таццяна Уладысік — фартэпіяна.**

**Сенніцкая музычная працуе ў суполцы з мясцовым Палацам культуры. Тут створаны аркестр пад кіраўніцтвам завуча школы Леаніда Граковіча. Педагогі і вучні пяюць у калгасным народным хоры, удзельнічаюць у народным харэаграфічным ансамблі «Сенніца». Мастацкі ўзровень самадзейных артыстаў настолькі гожы, што іх прымаюць нават за мяжой.**

**На вечары з нагоды 40-годдзя музычнай школы віншаванням не было пераліку. Адусюль прыляцелі тэлеграмы і паштоўкі, з'ехаліся былыя выхаванцы. Юбілей адзначалі з музыкай.**

**А.СУРЫНОВІЧ,**
**намеснік дырэктара Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці**

## ЗАПРАШАЕ ДОМ ЛІТАРАТАРА

**Прэм'ера кніг В. Сарокі «Спасите наши души», «Оставь надежду...», «Витебское дело», или Двуликая Фемида», «Бывшие сотрудники» запланавана на 4 мая.**

**Прагляд мастацкага фільма рэжысёра Д. Зайцава «Франка» па матывах рамана Э. Ажэшкі «Хам», вылучанага на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі, адбудзецца 11 мая.**

**Творчы вечар Авяр'яна Дзеружынскага пройдзе 18 мая.**

**19 мая праводзіцца вечарына беларуска-латышскага спараднення, прысвечаная памяці Яніса Райніса і 100-годдзю з дня нараджэння Яна Судрабкална.**

**Яшчэ адна вечарына — «Беларуская паэзія ў творчасці кампазітара Паўла Яроменкі» — адбудзецца 24 мая.**

**Жадаючыя змогуць 25 мая паглядзець цыкл дакументальных і навукова-папулярных фільмаў рэжысёра Станіслава Гайдука «Чырвоны дзень календара», «Роздум ля палітры», «Кірыла Тураўскі», «Іван Насовіч», «Вянок цярновых васількоў», «Рэха збройнага чыну», «Самотная альба верніка». Яны вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі.**

**У спісе прэтэндэнтаў на гэтую ганаровую ўзнагароду значацца і дакументальныя фільмы рэжысёра Міхася Жданоўскага «Дарога на Курапаты», «Жаўрукі Беларусі». Яны будуць дэманстравацца 26 мая.**

**Мастацка-публіцыстычныя фільмы рэжысёра Віктара Дашука «Чурбанаў і іншыя», «Віцебская справа» таксама прэтэндуюць на Дзяржаўную прэмію Беларусі. Прагляд іх прызначаны на 30 мая.**

**31 мая — урачысты вечар, прысвечаны 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

**Згаданыя мерапрыемствы пачынаюцца ў 18 гадзін 30 мінут.**

**12 мая а 15 гадзіне праслухоўванне песень для дзяцей «Мой родны край» кампазітара Алега Чыркуна (на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі).**

**У гэты ж час, але 17 мая для дзетак будуць паказаны мультфільмы рэжысёра І. Воўчака «На зары, на двары», «Канчэрта-гроса», «Муха», «Праз шэры камень», «Як лісіца ваўка судзіла». Яны вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі.**

**Духоўнаасветніцкія чытанні ў гонар Агульнанароднага Дня Святой Еўфрасінні Полацкай пачнуцца 23 мая ў 16 гадзін.**

Гэта было...

# АГНЯВАЯ МОЛАДЗЬ НАД ДНЯПРОМ ШЫРОКІМ...

***У пакуль што ненапісаную гісторыю юнацкага беларускага руху 20-х гадоў нашага стагоддзя, пэўна ж, увойдуць і «смаленскія» старонкі. Прыкладам, колькі год пры Пятроўскай (сёння Ціміразеўскай) сельскагаспадарчай акадэміі плённа працаваў навуковы гурток па вывучэнні Смаленскай губерні, створаны ўраджэнцамі губерні і сябрамі Беларускай культурна-навуковай асацыяцыі студэнтаў той жа акадэміі. На скрайнім усходзе губерні, у Вязьме, працаваў гурток беларускай моладзі. Надта развіты быў зямляцкі рух. Пры Горы-Горацкай сельскагаспадарчай вучэльні працавала Смаленскае зямляцтва студэнтаў, а ў Смаленску — Беларускае, Брагінскае і Гомельскае зямляцтвы.***

Савецкая навука з прычын ідэалагічных вывучала гісторыю дзейнасці адно камсамольскіх, піянерскіх і нават «акцябрацкіх» арганізацый ды цалкам ігнаравала нацыянальныя і мясцовыя зямляцтвы, асацыяцыі, клубы, іншыя аб'яднанні непартыйнай ці некамуністычнай моладзі. Таму перад сучаснымі гісторыкамі ляжыць шырокая неўзараная ніва для працы.

Вывучэнне архіўных дакументаў і смаленскай перыёдыкі 20-х гадоў дазволіла рэканструяваць фрагменты тых не надта ўжо далёкіх падзей.

На пачатку нашага стагоддзя, прынамсі, палову насельніцтва Смаленскай губерні складалі беларусы. Нацыянальна-культурная самабытнасць смаленскіх беларусаў захоўвалася прыкладна да сярэдзіны 30-х гадоў, аж пакуль не была панішчана русіфікацыяй. У 20-х гадах беларускім мацерыком у Смаленскай губерні РСФСР было сялянства, але беларушчыну свядомую выхоўваў горад, а менавіта Смаленск. Тут у розных вучэльнях здабывала веды ладная колькасць маладых аўтахтонных беларусаў і пасланцоў суседніх Віцебскай і Гомельскай губерняў. Прыкладна ў 1922 годзе ў Смаленску ўзніклі першыя беларускія гурткі навучэнцаў. Ідэйным падмуркам гуртавання былі цікавасць да гісторыі і культуры Беларусі, намер прапагандаваць іх сярод смаленскіх беларусаў. Магчыма, што на смаленскую беларускую моладзь уплывалі захады ў суседняй БССР па беларусізацыі грамадскага жыцця ў рэспубліцы. Урэшце, арганізацыі студэнтаў-беларусаў ужо існавалі ў Маскве, Ленінградзе, Варонежы, Казані ды некаторых іншых гарадах РСФСР. У 1921 годзе з ініцыятывы БССР пры Смаленскім губеранскім аддзеле народнай асветы была заснавана беларуская секцыя, якая распачала арганізацыю беларускіх школ у губерні. Секцыя ў сваю чаргу разлічвала на дапамогу нацыянальна свядомай моладзі і таму ўсяляк падтрымлівала яе пачынанні. Увосень 1924 года выканкам Смаленскага дзяржаўнага універсітэта зарэгістраваў Беларускае зямляцтва студэнтаў. Новая арганізацыя мелася займацца навучальнай і навуковай дзейнасцю. Каб змякчыць «навучальную адарванасць» ад БССР, выбарнае праўленне зямляцтва разам з беларускай секцыяй пачало забяспечваць студэнтаў беларускімі падручнікамі і дапаможнікамі. Загадчык БС Мікалай Агейчык, малады настаўнік Пётр Кароль і старшыня зямляцтва Усевалад Ганчароў кіравалі гуртком беларусазнаўства для сяброў зямляцтва, выкладчыкі М.Ражнова і Ю.Лазарэвіч вучылі моладзь літаратурнай беларускай мове. Лекцыі па гісторыі і этнаграфіі чытаў Аляксандр Ляўданскі, які неўзабаве стаў вядомым беларускім археолагам.

БС аформіла для зямляцтва падпіску на газеты «Савецкая Беларусь» і «Чырвоная змена», на часопісы «Маладняк», «Наш край» ды інш. Гэта была значная дапамога зямляцтву, бо індывідуальная падпіска была тады надта дарагая і таму мала даступная студэнцтву. З часткі атрыманых выданняў зямляцтва дапамагала губеранскай бібліятэцы камплектаваць адмысловы беларускі фонд.

Некаторыя сябры зямляцтва, праўдападобна, практыкаваліся ў літаратуры. Невыпадкова ў 1925 годзе ў Менску ў цэнтральным праўленні літаратурнага аб'яднання «Маладняк» колькі разоў абмяркоўвалася пытанне аб заснаванні смаленскай філіі. Па гэтым пытанні ў Смаленск да У.Ганчарова прыязджаў з Менска літаратар Іларыён Барашка. У некаторых газетах і часопісах БССР пачатку 1926 года паведамлялася аб існаванні філіі, хоць якіх-кольвек дакладных звестак дагэтуль не знойдзена.

29 лістапада 1925 года зямляцтва правяло першую канферэнцыю вучняў-беларусаў Смаленска. Адным з найважнейшых было пытанне аб пашырэнні беларускай культурна-асветнай працы ў горадзе. Толькі выхадцаў з Віцебшчыны і Гомельшчыны вучылася ў Смаленску каля 200 чалавек, некаторыя часткі Чырвонай Арміі складаліся амаль цалкам з беларусаў. Канферэнцыя гэтаксама выказалася за ўтварэнне ў СДУ кафедры беларусазнаўства, якая б абслугоўвала не толькі студэнтаў універсітэта, але й некаторых смаленскіх тэхнікумаў і вучэльняў.



*Будынак былога Смаленскага дзяржаўнага універсітэта і рабфака.*

Удзельнікі канферэнцыі паслалі прывітальную тэлеграму ў Менск: «Першая Смаленская гарадская злучаная канферэнцыя студэнтаў і слухачоў Смаленскіх навучальных устаноў пасылае сваё брацкае прывітанне кіраўніку і правадыру — Народнаму Камісару Асветы Б.С.С.Р. т.Ігнатоўскаму. Канферэнцыя запэўнівае Вас у гатоўнасці несці атрыманыя намі веды на вёску к сялянам Беларусі».

Напрыканцы 1925 года М.Агейчык пакінуў Смаленск. На ягоную пасаду быў прызначаны У.Ганчароў, што значна пашырыла фармальныя магчымасці арганізацыі беларускіх студэнтаў. Пэўна, менавіта дзякуючы сумяшчэнню У.Ганчаровым пасад старшыні зямляцтва і загадчыка беларускай секцыі праца зямляцтва з канца 1925 да 1927 года характарызуецца найбольшым уздымам.

мінуўшчыну падпарадкаваных ім народаў. Таму геральдыка была ўвогуле забыта як навука і як традыцыя. Але ў час хрушчоўскай «адлігі» і пазней былі зроблены спробыператварэння гэтай традыцыі ў яшчэ адзін спосаб ідэалагічнага абдурвання народа. Прыкладам гэтага могуць служыць гербы, прынятыя ў 60-х — першай палове 80-х гадоў — з выявамі сімвалаў індустрыялізацыі, меліярацыі, хімізацыі і гэтак далей. З падобнай з'явай можна было б змірыцца, калі б гэта тычылася толькі новазбудаваных гарадоў і пасёлкаў, якія не маюць за сабой шматвяковай гісторыі. Але нават сёння, калі камуністычная ідэалогія стала часткай мінулага, засталіся яе носьбіты, якія, займаючы высокія пасады, працягваюць уплываць на фармаванне інстытута гарадскога герба. Вынік таго — шматлікія гербы беларускіх гарадоў, вытрыманыя ў стылі сацыялістычнага мадэрнізму.

У 1989 годзе выйшла мая кніга «Гарадская геральдыка Беларусі». Цешу сябе надзеяй, што яна ў нейкай ступені паспрыяла таму, што частка гарадскога кіраўніцтва цяпер з павагай ставіцца да старой сімволікі. Але другая частка працягвае ствараць гербы на свой капыл, адпаведна ўласнаму густу і ўзроўню развіцця. І самае цікавае: калі гарадскія ўлады абвяшчаюць конкурс на новы герб, дык перамагае на ім звычайна галоўны архітэктар.

Сумным прыкладам сказанаму вышэй можа стаць герб Слуцка — Пегас, які існуе з другой паловы XVII стагоддзя. Гарадскім уладам захацелася быць святцей за папу рымскага, і таму яны ўзялі за герб Пагоню. Але ж гэты сімвал быў абсалютна не характэрны для гарадскіх гербаў, бо выкарыстоўваўся як дзяржаўны. Гарадам яго не надавалі, каб пазбегнуць дэвальвацыі, а адзіным выключэннем быў Магілёў, Пагоня на гербе якога была толькі адным з элементаў.

Трэба сказаць, што прыклад Слуцка — далёка не найгоршы. Так, нядаўна былі зроблены спробы распрацоўкі гербаў для Светлагорска — з выявай Праметэя і паходні (нібыта для алімпійскай зборнай) і Лунінца, дзе выява луня дадзена не ў геральдычнай рэдакцыі, а побач з ёй змешчаны сімвалы дасягненняў мясцовай гаспадаркі. Назіраюцца спробы рэвізіі герба і ў Полацку, дзе пад выглядам барацьбы за Пагоню імкнуцца працягнуць матывы расійскай імперскай геральдыкі. Людзі, якія ствараюць падобныя гербы, кіруюцца, магчыма, самымі лепшымі намерамі. Але геральдыка — строгая навука, якая абмяжоўвае колькасць і змест сюжэтаў на гербе. Тым не менш быў прыдуманы герб Бабруйска з малюнкам бабра, хвост якога пераходзіць у малюнак шыны вытворчасці мясцовага шыннага камбіната. Але ж існаваў герб Бабруйска часоў Магдэбургскага права, вопіс якога мне нядаўна пашанцавала адшукаць. На ім — гарадскія вежы, рака і выявы гармат, бо як крэпасць горад існаваў яшчэ ў часы Рэчы Паспалітай. Апрацаваны і прыняты герб Наваполацка, на якім карабель запазычаны з полацкага герба, форма шчыта адпавядае сімволіцы XVIII стагоддзя і ў дадатак да ўсяго ў якасці элемента недарэчна прышпілены знак бензола. Я разумею шчырасць гэтай спробы, але бачу яе няўдаласць. Ці варта было прымаць уласны герб гораду, які праз некалькі гадоў стане часткай Полацка? Вынікам стане наяўнасць двух гарадскіх гербаў, а права на валоданне двума гербамі мае толькі адзін беларускі горад — Гомель, які меў герб з 60-х гадоў XVI стагоддзя, пазней уключыў у свой склад Беліцу — горад з уласным гербам.

Што датычыць бензольных колаў, зубчатак, шрубаў, трактароў, атамных ядзер і гэтак далей, дык увядзенне іх у гарадскія гербы не практыкуецца нідзе ў свеце. Здаўна шукаліся вобразы, якія падкрэслівалі старажытнасць горада, яго прыгажосць, геаграфічнае становішча, выдатныя падзеі ў яго гісторыі ці значэнне ў дзяржаве. Гарадскі герб — гэта перліна, якая дасталася нам у спадчыну і якую трэба шанаваць. Нездарма найбольш прэстыжнымі ва ўсім свеце лічацца найбольш старажытныя гарадскія гербы.

**— Якія, на ваш погляд, спатрэбяцца захады дзеля захавання традыцый беларускай гарадской геральдыкі?**

— Гэтае пытанне для мяне не новае. Мы павінны карыстацца наступнымі прынцыпамі:

1. Гарадскі герб — з'ява незнішчальная і жорстка зафіксаваная ў храналагічна-геральдычнай прасторы. У пэўнай ступені можа мяняцца стылістыка або форма шчыта — тарчы, але ідэя сімвала і колеры мусяць заставацца нязменнымі. Чым больш старажытны герб — тым больш гонару і павагі яго ўладальнікам.

2. Для Беларусі (гэта ж датычыць заходніх рэгіёнаў Расіі — этнічных беларускіх земляў, а таксама Украіны) характэрная наяўнасць двух геральдычных пластоў: ранейшага, звязанага з Магдэбургскім правам, і пазнейшага, звязанага з дзейнасцю Геральдычнай канторы Расійскай імперыі. Безумоўная перавага мусіць аддавацца ранейшым гербам, як найбольш адпаведным ідэям і традыцыям самакіравання.

3. Выбіраючы сімвал горада, варта звяртацца да найбольш старых узораў. Калі гораду нададзена больш аднаго герба, перавага аддаецца ранейшаму. Трапляюцца выпадкі, калі першы герб адлюстроўвае толькі ідэю горада, а другі — канкрэтную падзею, звязаную з гэтым месцам. Тады гэты пастулат можа губляць моц.

4. Выява сімвала (герба) размяшчаецца на тарку, адпаведным часу ўзнікнення герба.

5. Выява герба можа стылізавацца ў межах, калі яна не страчвае сэнсу ды індывідуальнасці.

6. Практыка абрання і зацвярджэння гербаў мясцовымі ўладамі мусіць быць спынена. Гэтыя ўлады могуць мець выключна права пошукаў доказаў карыстання горада гербам.

7. Павінна быць распрацавана ўрачыстая працэдура пацвярджэння права горада на герб шляхам падпісання першай асобай дзяржавы адпаведнага дакумента — прывілея, у якім была б выява герба, яго вопіс ды згадка аб першым наданні ды наступных пацвярджэннях.

8. Неабходнае прыняцце дзяржаўнага закона ці палажэння аб гарадскім гербе з акрэсленнем правоў на карыстанне гэтым гербам і звязаных з гэтым ільгот для ўсяго горада.

9. Пры наданні герба маладым гарадам яго распрацоўкай могуць займацца як гарадскія ўлады, так і спецыяльныя службы. На апошнія ўскладаецца функцыя гістарычнай і геральдычнай экспертызы, а за першымі пакідаецца права дарадчага голасу.

Сёння прыспеў час уважлівай рэвізіі гарадскіх гербаў, як створаных у апошнія дзесяцігоддзі, так і прынятых раней. Бо права на герб — гэта прывілей, атрыманы з рук Гісторыі.

**Гутарку вёў У. ПАНАДА**

---

На пачатку 1926 года зямляцтва аб'ядноўвала 115 чалавек, пераважна студэнтаў педагагічнага і медычнага факультэтаў СДУ, губеранскай савецка-партыйнай школы, рабфака, фармацэўтычнага і кааператыўнага тэхнікумаў. Прыкладна палова сяброў былі ўраджэнцамі Смаленшчыны. Толькі нямногія сябры належалі да партыі ці камсамола. Вышэйшым органам зямляцтва, паводле статута, прызнаваўся агульны сход сяброў. Выканаўчымі органамі былі выбарныя праўленне і бюро. У склад апошняга ўваходзілі старшыня У.Ганчароў, старшыня эканамічнай камісіі, губсаўпартшколец Стэфан Кулагін, старшыня культурнай камісіі, рабфакавец Б.Манеўскі, сакратар А.Міхальчанка і пяцёра іншых студэнтаў. Рэвізійную камісію ўзначаліў рабфакавец Гамаліцкі.

Пад кіраўніцтвам студэнта-медыка Івана Хацкевіча пры зямляцтве склаўся драматычны гурток. Праўленне недзе здабыло грошы і наняло кваліфікаванага спецыяліста П.Івашчанку кіраваць харавой студыяй. У тым жа часе губеранскае таварыства краязнаўства прапанавала зямляцтву супрацоўніцтва па вывучэнні і апісанні населеных беларусамі заходніх паветаў Смаленшчыны. Аднак пакуль невядома, ці ажыццявіўся гэты праект.

Матэрыяльныя ўмовы жыцця студэнцтва былі ў той час вельмі цяжкія. Сціплыя сяброўскія складкі не маглі пакрыць усе выдаткі зямляцтва. Невялікія сумы грошай час ад часу выдзяляла БС. З просьбай аб матэрыяльнай дапамозе на 1926/27 навучальны год зямляцтва звярнулася ў цэнтральнае бюро пралетарскага студэнцтва Беларусі, у штат якога ўжо былі залічаны некаторыя арганізацыі беларускай моладзі РСФСР і ў сувязі з гэтым забяспечваліся грашовымі субсідыямі ды іншага кшталту дапамогай. Разам з залічэннем у штат арганізацыі падпадалі пад арганізацыйны і ідэалагічны кантроль Пралетстуда, але пакуль што гэта не замінала іхняй нацыянальна-культурнай беларускай дзейнасці.

Выканкам СДУ падтрымаў зварот зямляцтва ў Менск хадайніцтвам, адзначыўшы актыўную дзейнасць зямляцтва сярод студэнтаў і беларускага насельніцтва Смаленска пры адсутнасці сталай фінансавай падтрымкі. Выканкам гэтаксама паінфармаваў Пралетстуд БССР аб планаваным адкрыцці ў 1927/28 навучальным годзе беларускіх аддзяленняў на рабфаку і ў губсаўпартшколе, і аб адпаведным пашырэнні абсягу працы зямляцтва.

Залічэнне ў штат Пралетстуда адбылося ўвосень 1927 года. Зямляцтва на гэты час ужо ўзрасло да 157 сяброў з-за далучэння Гомельскага зямляцтва ды ўступлення новых сяброў. Беларускае зямляцтва атрымала з Менска літаратуру і 300 рублёў на ўвесь навучальны год, а таксама абяцанне выдзеліць некалькі персанальных стыпендый і аплаціць частку выдаткаў на канкрэтныя масавыя імпрэзы.

19 кастрычніка 1927 года адбыўся справаздачны сход зямляцтва. Усевалад Ганчароў ізноў абраны быў старшынёй, камісіі ўзначалілі студэнты саўпартшколы Караськоў і Марыя Чунаева, сакратаром стаў рабфакавец Мікалай Цішкевіч, у бюро праўлення абралі Ігната Дзмітрачэнку, І.Хацкевіча, В.Кліма. На сходзе былі сфармуляваны наступныя задачы арганізацыі: рэгістрацыя беларусаў усіх факультэтаў СДУ, актывізацыя культурна-асветнай і гуртковай працы, пошук неабходных для працы грошай. Сход пастанавіў наладзіць кантакты са Смаленскім аддзяленнем Таварыства палітэмігрантаў Заходняй Беларусі.

У 1926-27 гадах культурная актыўнасць зямляцтва была высокая.

Часта ладзіліся так званыя «вечары беларускай моладзі» ў губеранскім Палацы працы і ў памяшканні латышскага клуба. Часам адбываліся платныя танцавальныя вечарыны з аркестрам, зборы ад якіх папаўнялі касу зямляцтва. Вядома, што 5 снежня 1926 года ў губсаўпартшколе зямляцтва правяло вечарыну да 20-годдзя літаратурнай дзейнасці Якуба Коласа, на якой чытаўся даклад аб творчасці паэта, дэкламаваліся вершы і гучалі спевы. Гэтаксама вядома, што драмгурток зямляцтва паставіў п'есу Янкі Купалы «Прымакі» ды іншыя творы беларускіх аўтараў. 10 снежня 1927 года гурток выступіў з п'есай Францішка Аляхновіча «Калісь...», што дзівіць, бо сам аўтар ужо амаль 2 гады знаходзіўся ў Салавецкім лагеры і ў БССР ягоныя п'есы не ставіліся.

Сябры зямляцтва дапамагалі станаўленню сістэмы беларускай асветы і адукацыі на Смаленшчыне. Напрыклад, улетку 1927 года для дзетак беларускіх сялян БС арганізавала дзіцячыя пляцоўкі — своеасаблівыя дзённыя гурткі культурнага выхавання і адпачынку, кіраўнікамі якіх працавалі ў тым ліку вучні беларускага аддзялення саўпартшколы і сябры зямляцтва Чунаева, Ганчарэнкава, Сушчэўская, Мартвенка ды іншыя.

На пачатку 1928 года зямляцтва атрымала ад Беларускага дзяржаўнага выдавецтва перыядычныя выданні і новыя падручнікі, спеўнікі М.Равенскага і У.Тэраўскага, зборнікі драматычных п'ес. Бюро зямляцтва аформіла падпіску на часопісы і газеты БССР на 1928 год. Працягваліся заняткі ў гуртку беларусазнаўства, ва універсітэце і саўпартшколе выдаваліся насценныя беларускія газеты. У сакавіку прадстаўнік зямляцтва браў удзел у працы канферэнцыі студэнцтва БССР у Менску.

Летам 1928 года некаторыя сябры зямляцтва з ліку выпускнікоў педагагічнага факультэта СДУ святкавалі заканчэнне вучобы ў губеранскім Доме настаўніка. З гэтымі студэнтамі сустрэўся Максім Гарэцкі, які праездам апынуўся ў горадзе ды спыніўся ў інтэрнаце Дома настаўніка. Гэты выпадак пісьменнік пазней згадаў у сваім творы «Кіпарысы».

Скончыў вучобу і У.Ганчароў. Замест яго старшынёй зямляцтва стаў студэнт СДУ, ураджэнец Вяліжскага павета Іван Дубінец. Ён кіраваў зямляцтвам да вясны 1929 года. Гэта і ёсць апошняя вядомая ў біяграфіі зямляцтва дата. Прыкладна тады ж і гэтак жа невытлумачальна абарвалася праца беларускіх зямляцтваў у Ленінградзе, Маскве, Томску, Кіеве ды некаторых іншых гарадах.

Зрэшты, нацыянальнай працы ўжо не спрыяў час — з 1928 года распачалася шырокая кампанія пераследу беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі, разгром яе культурных і асветных арганізацый. Цалкам магчыма, што і пасля 1929 года зямляцтва яшчэ існавала ў пасіўным стане і, усведамляючы неспрыяльныя грамадскія ўмовы, не імкнулася афішаваць сябе. Захавалася адна вельмі сціплая дакументальная згадка пра існаванне ў кастрычніку 1931 года ў Смаленску беларускай тэатральнай трупы. Ці не драматычны гурток зямляцтва?

З усіх сяброў зямляцтва і блізкіх да яго людзей удалося ўстанавіць толькі біяграфію Івана Ільіча Хацкевіча. Сёння ягоная амаль 90-гадовая родная сястра Марыя Васілеўская і сваяцтва —спадарства Ліннік жывуць у вёсцы Радзіца Крупскага раёна. Яны паведамілі, што нарадзіўся ён у 1895 годзе ў вёсцы Ратуцічы Барысаўскага павета. Працаваў фельчарам у вёсках павета. Уступныя іспыты ў СДУ здаваў чамусьці ў вёсцы Зачысце. Вучыўся на медычным факультэце СДУ на хірурга. У Смаленск перавёз жонку і дваіх дзяцей. Жыццё ў студэнцкія гады не было лёгкае, таму падпрацоўваў у Смаленску вырабам балалаек ды іншых музычных інструментаў. Пасля заканчэння універсітэта працаваў ваенным хірургам. Быў на фронце. Памёр у Цверы (Калініне) у 1974 годзе.

Гэтаксама вядома, што колішні загадчык беларускай секцыі Мікалай Агейчык пасля выезду са Смаленска працаваў выкладчыкам у Віцебскім беларускім педагагічным тэхнікуме. У Інстытут беларускай культуры ён здаў рукапіс складзенага ім «Краёвага слоўніка Смаленшчыны», які дагэтуль не знойдзены. У другой палове 20-х гадоў друкаваўся ў часопісе «Асвета». Далейшы лёс М.Агейчыка невядомы.

Зусім няма ніякіх вестак пра Усевалада Ганчарова, Мікалая Цішкевіча, Пятра Караля, Марыю Чунаеву, Ігната Дзімтрачэнку, В.Кліма, К.Жэжаля, М.Чадовіча, М.Шакуна, І.Дашкевіча ды многіх іншых сяброў зямляцтва.

Ёсць толькі адзін невялічкі, прысвечаны ім усім вершаваны ўспамін Уладзіміра Дубоўкі пра сакавіковую сустрэчу ў Смаленску. Гэты самы эмацыянальны дакумент пра іх:

**У Смаленску, над Дняпром шырокім**
**напаткаў я моладзь агнявую.**
**Нашу дружбу, нашыя гаворкі**
**задушэўнай песняй ушаную, —**
**(...)**
**Прамяністасць цьмянасці не знае:**
**ці гарэць ці згаснуць, кон адзіны.**
**Пашыраецца у росах заніз,**
**супакойны я за лёс краіны.**

**Юрка ВАСІЛЕЎСКІ**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе з прычыны смерці пісьменніка Іосіфа Васілеўскага і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**


ЛіМ — ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

**Выходзіць з 1932 года**

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932-35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935-41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945-46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947-49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949-50)* |
| *В.Вітка* | *(1951-57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957-59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959-61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961-69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969-72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972-76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976-80)* |
| *А.Жук* | *(1980-86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986-90)* |

**Галоўны рэдактар**
**Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Андрэй ГАНЧАРОЎ
*першы намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась ЗАЛОСКА
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Барыс ПЯТРОВІЧ
*намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220600, ГСП, Мінск,
вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі 332-525
пісьмаў і грамадскай думкі *331-985*
літаратурнага жыцця *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі *332-204*
паэзіі і прозы *332-204*
музыкі *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462*
навін *332-462*
мастацкага афармлення *332-204*
фотакарэспандэнт *332-462*
бухгалтэрыя *268-640*

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**
**Друкарня "Беларускі Дом друку"**

**Індэкс 63856. Наклад 17.000.**
**Нумар падпісаны 28.04.1994 г.**

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

